

*Пітэр Брэйгель Старэйшы. «Вавілонская вежа».*
*1563 г. Дрэва, алей. 114х155 см.*
*Музей гісторыі мастацтва. Вена.*



## Ксёндз Ян Твардоўскі

# У чарзе да неба

Паволі не так хутка
прашу не штурхацца
найперш трэба выглядаць святым
але ім не быць
потым ані святым не быць
ані святым не выглядаць
потым быць святым
так каб гэтага зусім не было відаць
і толькі ў самым канцы
святы становіцца падобны да святога

*Пераклад з польскай мовы*
*Крыстыны Лялько.*



У нумары 4/2011

НАША ВЕРА



Кардынал Курт Кох

# Да пытання аб хрысціянскіх каштоўнасцях у Еўропе

Даклад на VII Міжнароднай канферэнцыі «Праваслаўна-каталіцкі дыялог: хрысціянскія этычныя каштоўнасці як уклад у сацыяльнае жыццё Еўропы», Мінск, 13 лістапада 2011 года

### 1. Гістарычныя фазы дэхрысціянізацыі Еўропы

Для разумення крытычнага стану хрысціянскіх каштоўнасцяў у сучасных еўрапейскіх грамадствах трэба, як падказвае логіка, зрабіць рэтраспектыўны позірк на гісторыю, каб мець уяўленне пра карэнныя змены, якія ўплывалі на гэтыя каштоўнасці на працягу апошніх шасцідзесяці гадоў. Адзначым, што непасрэдна пасляваенны перыяд пачаўся вельмі пазітыўна, бо з прычыны спусташэння еўрапейскіх краінаў у выніку жудаснага тэрарыстычнага панавання фашызму ў Італіі, нацыянал-сацыялізму ў Германіі, а таксама ленінізму і сталінізму ў Савецкім Саюзе — рэжымаў, якія самі сябе выкрылі як антыхрысціянскія і новаязычніцкія ідэалогіі, — айцы-заснавальнікі новай Еўропы Конрад Адэнаўэр, Рабэр Шуман, Альчыдэ Дэ Гасперы і Жан Манэ, якія з'яўляліся актыўнымі хрысціянамі, былі перакананыя, што аднаўленне Еўропы ўдасца толькі тады, калі яна зноў згадае пра свае ўласныя вытокі і тым самым пра свае хрысціянскія карані. Таму непасрэдна пасляваенны перыяд адзначаўся атмасфераю абуджэння і новых пачынанняў у грамадстве і палітыцы. Аднак за апошнія шэсцьдзясят гадоў такая ўпэўненасць у прынцыповых рэчах значна пахіснулася, і ў гэтым можна адрозніць тры хвалі асноўных трансфармацый.

#### *a. Культурны водападзел 1968 года*

Першыя сімптомы гэтага можна было адчуць ужо тады, калі скончыўся непасрэдна пасляваенны перыяд і зноў выявіліся і былі нарэшце сапраўды ўсвядомленыя памылкі чалавецтва і чалавечнасці падчас Другой сусветнай вайны, бяссілле ў аднаўленні Еўропы і страшэнная галеча ў свеце. Такі пануючы настрой справакаваў першы вялікі разлом, які прынята звязваць з сімвалічным 1968 годам і трэба расцэньваць як выбух радыкальнага крызісу еўрапейскай культуры, як пэўнага роду «водападзел паміж пасляваенным перыядам, несправядліва зганьбаваным як рэакцыйны, і новай гістарычнай фазай, якая была прадвызначана новым штуршком у асвеце, а таксама ў секулярызацыі і эмансіпацыі традыцыйных агульначалавечых і хрысціянскіх каштоўнасцяў і формаў паводзінаў»[1].

Адпаведна, ужо не ўскладалася паўсюдна вялікіх надзей на хрысціянства, як гэта рабілі айцы-заснавальнікі новай Еўропы. Паколькі на працягу ўсёй двухтысячагадовай гісторыі хрысціянства перадусім заўважаліся яго памылкі, магло ўзнікнуць моцнае ўражанне, нібыта трэба пачынаць з нечага цалкам новага. Больш за тое, у духу навуковага, як лічылася, вырашэння існуючых праблем звярнуліся да марксізму з яго падманлівым абяцаннем, што дзякуючы яму нарэшце можа быць

Яго Эмінэнцыя кардынал Курт Кох нарадзіўся 15 сакавіка 1950 года ў Швейцарыі. Доктар тэалогіі. З 1995 да 2010 года быў біскупам Базэля. З 2002 года з'яўляўся членам Папскай Рады спрыяння хрысціянскаму адзінству. У ліпені 2010 года ўзначаліў яе, замяніўшы кардынала Вальтэра Каспера.

створаны той самы новы свет, якога людзі — несумненна, з поўным правам — горача жадалі. Хрысціянскія вера і надзея ўсялякімі спосабамі секулярызаваліся і трансфармаваліся ва ўнутраную ідэалогію асобы[2], якую сфармуляваў марксісцкі філосаф Эрнст Блох з прывабнымі, але звышчалавечымі абяцаннямі. Паводле яго, у новым свеце, што будуецца, больш не будзе ніякай розніцы паміж нядзеляй і працоўным днём — чалавек больш не патрабуе шабату, бо ён нібыта з'яўляецца для сябе самога стварыцелем і таму тэхналагічныя лабараторыі стануць катэдрамі будучыні, а электрастанцыі — касцёламі св. Марка[3] новага часу[4]. Паколькі ўплыў такіх ідэалогій, што ахопліваюць выключна ўнутраны свет чалавека, і розных утопій стаў значным таксама ў Касцёле, яны прывялі да сур'ёзных зменаў і ў касцёльным жыцці, якім кардынал Вальтэр Каспер паставіў дакладны дыягназ: «Пасля 1968 года замест доўгачаканай вясны касцёльнага жыцця пачалася яго эрозія»[5].

### *б. Змены 1989 года*

Другі вялікі разлом у навейшай гісторыі Еўропы адзначаны вяхой 1989 года — крахам камуністычных рэжымаў і неразрыўна звязанымі з ім зменамі ў Еўропе. Прывабная своеасаблівасць гэтых зменаў заключалася напачатку ў тым, што яны маглі адбывацца без вайны і амаль што без праліцця крыві, вось чаму тагачасны кардынал Ёзаф Ратцынгер з поўным правам мог сказаць пра перамогу праўды духу і рэлігіі: «Дух даказаў сваю моц; трубны гук свабоды аказаўся магутнейшым за муры, якія хацелі трымаць яе ў тых ці іншых межах»[6]. Знешні і ўнутраны распад марксісцкай ідэалогіі прывёў, праўда, не да ўзмацнення грамадскага патэнцыялу надзеі, як гэтага спачатку можна было б чакаць, а хутчэй да яе паўторнага аслаблення. Замест перапоўненых абяцаннямі ўтапічных ідэй пра прагрэс і свет, у якім усё можа быць здзейснена, з'явіліся новыя, процілеглыя ім утопіі; больш за тое, правал дагматычнага марксізму і крах існаваўшага дагэтуль Усходняга блоку прывялі ўтапічнае мысленне марксісцкага ўзору і, у канчатковым выніку, увогуле бачанне будучыні ў стан глыбокага крызісу, які не мог не нанесці знішчальны ўдар па сучаснай цывілізацыі і яе напускным аптымізме. Прэтэнзія гэтак званага навуковага марксізму стаць узнёслым вырашэннем праблемаў чалавецтва справакавала вялікае расчараванне, сутнасць якога трапна выказаў адзін з вартых даверу сучаснікаў, нямецкі філосаф Юрген Хабермас: «Калі высыхае ўтапічны аазіс, пашыраецца пустыня банальнасці і разгубленасці»[7].

Гэтая сітуацыя абвастрылася яшчэ ў выніку таго, што не спраўдзілася надзея, звязаная са зменамі 1989 года, нібыта магло б адбыцца новае ўліванне ў хрысціянства і, перадусім, адкрыцца новая прываблівасць хрысціянскай веры ў ідэалагічна высахлых краінах былога Усходняга блоку. Больш за тое, крушэнне ўзнёслых надзеяў выклікала той «пералівісты» феномен, які мы называем постмадэрнізмам[8] і які праяўляецца ў сучаснасці ў новым рэлятывізме і нігілізме, пераходзячы нават у новы, агрэсіўны і фундаменталісцкі атэізм. У кожным выпадку, вычарпанасць утапічных крыніцаў энергіі з'яўляецца ўнутранай сутнасцю не толькі эканамічнага, але перадусім духоўнага крызісу. Такім чынам, сёння мы стаім перад абліччам грунтоўнай змены несумненна вялікай эпохі і павінны па-новаму ўступаць у канфрантацыю з самымі глыбіннымі пытаннямі чалавека, якія датычаць яго быцця і адпаведных формаў грамадскага і палітычнага жыцця.

### *в. Асаблівы культурна-гістарычны шлях*

Цяпер становіцца бачным трэці вялікі разлом, у сферы ўплыву якога мы сёння знаходзімся. Не падлягае ніякаму сумненню, што сёння Еўропа перажывае такую багатую на дасягненні стадыю развіцця, ад якой захоплівае дух, аднак гэта таксама час вельмі глыбокіх пераломаў. З аднаго боку, хоць і развалілася камуністычная сістэма і ліквідаваныя муры з каменя, аднак пакуль што працягваюць існаваць муры ў свядомасці і ў сэрцах немалой колькасці людзей, і яны надзвычай непадатлівыя, як паказваюць крывавыя нацыянальныя канфлікты і грамадзянскія войны, перадусім на Балканах, што выбухнулі пасля зменаў 1989 года і наступствы якіх праяўляюцца да сённяшняга дня[9]. З другога боку, еўрапейская супольнасць змагла кансалідавацца ў такіх маштабах, што было ўзнята пытанне аб тым, ці не стала Еўропа сапраўды нечым большым, чым аб'яднаннем для абароны эканамічных інтарэсаў, і ці не можа Еўропа, якая грунтуецца на адной толькі агульнай гаспадарцы і ўніфікаваных фінансах, на самай справе стаць цэласнай. І далей, ці з'яўляецца Еўропа сама па сабе жыццяздольнай з еўра ў якасці агульнай валюты, ці не патрабуе яна таксама ней-



Падчас VII Міжнароднай канферэнцыі «Праваслаўна-каталіцкі дыялог...» Мінск, 13 лістапада 2011 г.

кай ключавой духоўнай валюты, якую магла б шукаць і знайсці ў біблійнай традыцыі і хрысціянстве як тых каранях, што мелі вырашальнае значэнне для еўрапейскай культуры?[10]

Аднак тое, што гэтыя карані ў сённяшняй афіцыйнай Еўропе амаль паўсюдна знаходзяцца пад пагрозаю абрэзкі або нават абрэзаныя, знайшло сваё найдакладнейшае выяўленне ў тым, што ў прэамбуле Дагавору аб Еўрапейскім саюзе не можа мець месца ні якое-небудзь аднясенне да Бога, ні згадванне і прызнанне хрысціянскай спадчыны, — нягледзячы на шматлікія намаганні некаторых урадаў, але з-за пратэсту Францыі, дзе, праўда, лаіцызм, які так моцна расхвальваецца, знаходзіцца перад пагрозаю стаць новай, гэтакай нацыянальнай французскай рэлігіяй. Ужо самі дыскусіі пра гэтак званую Хартыю Еўрасаюза паказалі, што публічнае згадванне Бога ў Еўропе, дзе ўсё ж такі 80 % насельніцтва — гэта ахрышчаныя хрысціяне, ужо не можа атрымаць большасці галасоў. Ці трэба з гэтага зрабіць выснову, што новая Еўропа мусіць будавацца на атэістычным фундаменце, пры якім размовы пра Бога павінны быць выдаленыя з грамадскага і публічнага жыцця ў прыватную сферу або ўвогуле стаць зонай табу? У кожным выпадку, Еўропа распачынае гістарычны эксперымент, непаўторны і ў той жа час складаны, і ніхто не можа прагназаваць, як ён скончыцца. На самай справе, спроба Еўропы будаваць супольнасць дзяржаваў, якая прынцыпова адмаўляецца ад рэлігійнага фундаменту, — гэта настолькі новая культурнагістарычная з'ява, што мімаволі напрошваецца меркаванне, нібыта Еўропа стала адзіным сапраўды секулярызаваным кантынентам.

Гэты асаблівы еўрапейскі шлях развіцця з'яўляецца, аднак, вялікаю перашкодаю для міралюбнага сумеснага жыцця людзей, якія належаць да розных рэлігій. Бо абсалютная секулярызацыя і прафанацыя, што фармуюцца ў Еўропе, па сутнасці варожыя рэлігійным культурам, якія ўпэўненыя ў тым, што свет без Бога не будзе мець будучыні. З гэтых назіранняў трэба заключыць, што грамадства, якое ігнаруе феномен рэлігій і забараняе яму праяўляцца публічна, становіцца няздольным да міжрэлігійнага дыялогу, як падкрэсліў у сваёй знакамітай лекцыі ў Рэгенсбургу папа Бэнэдыкт XVI: «Розум, які глухі да Боскага і выдаляе рэлігіі ў сферу субкультураў, няздольны да дыялогу культураў»[11].

## 2. Ажыўленне фундаментальных хрысціянскіх каштоўнасцяў у сучаснай Еўропе

Сучасную сітуацыю ў еўрапейскіх грамадствах, несумненна, самым адэкватным чынам можна ахарактарызаваць, карыстаючыся ключавым словам «секулярызацыя»[12]. Пад гэтым належыць разумець неадольную тэндэнцыю да эмансіпіраванага ад рэлігіі ўвогуле і ад хрысціянства ў прыватнасці — і ў гэтым сэнсе секулярызаванага — стылю жыцця, які ўсё больш пашыраецца сярод еўрапейцаў і на Усходзе Еўропы выяўляецца больш адкрыта — можна сказаць, «незамаскіравана, непрыкрыта»[13], — чым на Захадзе, так што мы, пасля зменаў 1989 года, зноў перажываем бурную хвалю секулярызацыі ўсіх сфераў жыцця і глыбокую эрозію ўсяго хрысціянскага ў Еўропе. Так можна апісаць грамадскі кантэкст, у якім хрысціянскія Касцёлы закліканыя падтрымліваць і ажыўляць у грамадскай свядомасці тыя каштоўнасці, што ў святле хрысціянскай веры з'яўляюцца абавязковымі для грамадскага жыцця.

### *а. Прынцып пабожнасці супраць новай «гібелі багоў»*

Калі мы прыгледзімся да сённяшняга грамадства, то, безумоўна, заўважым, што пытанне



пра Бога энергічна стукае ў нашы касцёльныя дзверы[14], нават калі гэта спачатку можа ўспрымацца толькі гіпатэтычна. Цяперашні час вызначаецца не інтэнсіўнымі пошукамі Бога, а хутчэй забыццём Бога і глухатой у адносінах да Бога. Усведамленне Божай прысутнасці ў свеце аслабла перадусім у грамадскім і публічным жыцці, што праяўляецца найперш у «закаламучаных» або па меншай меры няясных адносінах сённяшняга грамадства да феномену рэлігійнасці ўвогуле. Тут можна дыягнаставаць тэндэнцыю да таго, каб разглядаць рэлігію як неістотны або нават надакучлівы фактар і адсоўваць яе на абочыну грамадскага жыцця.

З другога боку, усё больш неадкладным становіцца пытанне аб тым, ці не прывяла новая секулярызацыя сапраўды да секулярызаванага грамадства, або ці не пагражае часам менавіта секулярызацыя навалаю новай — як патаемнай, так і заўважнай — «гібелі багоў», якая можа праявіцца ў асабістым, грамадскім і палітычным жыцці, калі рэаліі зямнога жыцця і гэтага свету займаюць месца Бога і тым самым абагаўляюцца. Як паказвае гісторыя, самыя жудасныя злачынствы заўсёды здараліся тады, калі рэаліі зямнога жыцця, такія як паходжанне і зямельныя ўладанні, нацыянальная прыналежнасць і партыйная дактрына, займалі месца Бога і тым самым рабіліся ідаламі. Трэба пастаянна памятаць, што самыя жахлівыя масавыя забойствы ў гэтак званай адукаванай Еўропе новага часу здзяйсняліся ў імя антыхрысціянскіх і новаязычніцкіх ідэалогій, такіх як нацыянал-сацыялізм і сталінізм[15]. У кожным выпадку, дваццатае стагоддзе больш чым угрунтавала асноўнае сцвярджэнне хрысціянскай веры пра тое, што гуманізм, які не грунтуецца на пабожнасці, вельмі хутка ператвараецца ў зверства.

Перад абліччам гэтага жудаснага досведу хрысціянскія Цэрквы ўзялі на сябе абавязак пастаянна садзейнічаць усведамленню таго, што неабходная абарона ад такой пагрозы стварэння новых ідалаў прадугледжвае згадванне Бога ў публічным жыцці і ўсведамленне адказнасці ўсіх перад Богам, а менавіта, у асабістым, грамадскім і палітычным жыцці, як зноў і зноў нагадвае папа Бэнэдыкт XVI: «Без трансцэндэнтнага фундамента, без аднясення да Бога-Стварыцеля, без разважання над вечнымі пытаннямі і нашым лёсам мы рызыкуем стаць здабычаю шкодных ідэалогій»[16]. Таму ў так неабходнай новай евангелізацыі Еўропы павінна даваццa сведчанне пра тое, што пытанне пра Бога займае цэнтральнае становішча. Перад абліччам «крызісу Бога», які недвухсэнсоўна можна выявіць у нашым грамадстве, хрысціянская айкумена патрабуе таго, каб нанава засвоіць самы элементарны ўрок хрысціянскай веры: што хрысціянства ў сваёй глыбіннай сутнасці — гэта вера ў Бога і жыццё ў асабістай сувязі з Богам, і што з гэтага вынікае ўсё астатняе.

### *6. Прынцып гуманізму супраць рэлятывізацыі чалавечай годнасці*

Хрысціянская вера слушна ўпэўнена, што сведчанне пра першынство Бога ідзе на карысць чалавеку, яго годнасці і жыццю. Гэтая сувязь выяўляецца ўжо ў тым, што радыкальны «крызіс Бога», якім ахоплены нашы еўрапейскія грамадствы, з неад'емнай логікай выкрывае ў такой жа ступені небяспечны крызіс чалавека і што абвешчаная Фрыдрыхам Ніцшэ ў Еўропе «смерць Бога» нясе пагрозу, бо ўслед за ёй ідзе «смерць чалавека». На самай справе, там, дзе Бог выдаляецца з грамадскага жыцця, узнікае вялікая небяспека, што будзе зневажацца таксама годнасць чалавека. <...>

З гістарычнага пункту гледжання таксама становіцца ясна, што замоўчванне Бога ў грамадскім і публічным жыцці ні ў якім разе не ідзе на карысць

чалавеку. А менавіта, калі, як сцвярджае Біблія, чалавек з'яўляецца падабенствам Бога (а гэтая праўда стаіць вышэй за ўсялякія падазрэнні), то знікненне або выцясненне ўсведамлення Бога ў сённяшнім грамадскім і публічным жыцці небяспечным чынам падточвае таксама годнасць чалавечага жыцця. Сімптомы гэтай пагрозы цалкам відавочныя ў сённяшнім грамадстве. Перадусім як у канцы чалавечага жыцця, так і на яго пачатку, можна ўбачыць, як моцна зламаная пашана да жыцця, што непасрэдна звязана з выцясненнем усведамлення Бога з грамадскага і публічнага жыцця. Несумненна, што самы яўны сімптом гэтай пагрозы для чалавека трэба дыягнаставаць у дысбалансе паміж маральна-прававой абаронай рэчаў і маральна-прававой абаронай чалавечага жыцця. Абарона рэчаў у сённяшнім грамадстве рэгулюецца ў значнай ступені больш катэгарычна, чым абарона чалавечага жыцця на розных яго фазах і ў разнастайных яго варыянтах. Аўтамабіль, напрыклад, абаронены лепей, чым ненароджаныя дзеці і канаючыя, так што даводзіцца пагадзіцца з меркаваннем аўстрыйскага тэолага Паўля Цуленэра, які звяртае ўвагу на тое, што ў сённяшнім грамадстве чалавеку пашчасціла б больш, калі б ён «прыйшоў на свет у якасці аўтамабіля»[17].

Або, калі наглядна ўявіць вынікі антрапалагічнай рэвалюцыі, якую можна назіраць пры імклівым развіцці медыцынскіх і біялагічных навукаў, то хутка прыйдзеш да пераканання, што калі гэтыя выклікі, якія яна нясе, могуць калі-небудзь быць пераадоленыя, то толькі не этычна, але пры паслядоўным тэалагічным падыходзе, а значыць, зыходзячы з таямніцы Бога. Сучасная біяэтычная пастаноўка пытанняў і звязаныя з гэтым дыскусіі пра пачатак і канец чалавечага жыцця пераканаўча паказваюць, што годнасць чалавечага жыцця ад яго пачатку і да яго натуральнага канца без аднясення да трансцэндэнтнага наўрад ці можа яшчэ прызнавацца, не кажучы пра тое, каб абараняцца. Адзінае сапраўды здольнае несці нагрузку абгрунтаванне годнасці чалавечай асобы і яе недатыкальнасці заключаецца толькі ў трансцэндэнтнай матывацыі, як рашуча падкрэслівае пратэстанцкі тэолаг Вольфхарт Панненберг: годнасць чалавечай асобы «тады цэніцца, бо яе асновы закладзеныя ў прадвызначэнні чалавека, а не ў якіх-небудзь заўважных прыкметах, і гэта справядліва таксама ў адносінах да людзей, якія яшчэ не карыстаюцца сваім розумам ці ўжо больш не карыстаюцца. Тое, што чалавек надзелены розумам, на жаль, як паказвае гісторыя, не перашкаджала людзям несці пагібель адзін аднаму»[18].

Такім чынам, найбольш важнае, што могуць зрабіць хрысціянскія Цэрквы ў сённяшнім грамадстве, — гэта абвяшчаць таямніцу Бога як бяспечнага прытулку для чалавека. На самай справе, прынцып пабожнасці і прынцып двайной гуманнасці — гэта два бакі двайной запаведзі любові. Аднак з вялікай доляй верагоднасці можна сказаць, што хрысціянства будзе здольным падтрымліваць гэты вырашальны фундамент грамадскага суіснавання толькі тады, калі новая евангелізацыя будзе ўспрымацца ў экуменічным грамадстве.

*Пераклад з нямецкай мовы Ірыны Бурак.*

*Паводле: http://nunciature.catholic.by/en/news/145--l-r.html*

---

[1] Kardinal Kasper, W. Katholische Kirche. Wesen – Wirklichkeit – Sendung. — Freiburg i. Br., 2011. — S. 41.
[2] Гэтую «трансфармацыю веры і надзеі» ўдумліва прааналізаваў папа Бэнэдыкт XVI у сваёй энцыкліцы пра хрысціянскую надзею *Spe salvi*.
[3] Касцёлы пад тытулам св. Марка вельмі шматлікія ў еўрапейскіх краінах; напрыклад, у Германіі іх больш за 50. — *Заўв. перакл.*
[4] Bloch, E. Prinzip Hoffnung. — Frankfurt a. M., 1959.
[5] Kardinal Kasper, W. Kirche – wohin gehst du? // A. Biesinger, A. Kothgasser (Hrsg.). Weil Sakramente Zukunft haben. Neue Wege der Initiation in Gemeinden. — Mainz, 2008. — S. 158–159.
[6] Kardinal Ratzinger, J. Wendezeit für Europa? Diagnosen und Prognosen zur Lage von Kirche und Welt. — Einsiedeln, 1991. — S. 105–106.
[7] Habermas, J. Zeitdiagnosen. — Frankfurt a. M., 2003. — S. 47.
[8] Пар. Welsch, W. Unsere postmoderne Moderne. — Weinheim, 1987.
[9] Пар. Altermatt, U. Das Fanal von Sarajevo. Ethnonationalismus in Europa. — Zürich, 1996.
[10] Пар. Pera, M. Warum wir uns Christen nennen müssen. Plädoyer eines Liberalen. — Augsburg, 2009.
[11] Benedetto XVI. Fede, ragione e universita. Ricordi e riflessioni. Ai rappresentanti del mondo scientifico in Regensburg il 12 settembre 2006 // Insegnamenti di Benedetto XVI II, 2 2006. — Citta del Vaticano, 2007. — P. 266.
[12] Пар. Koch, K. Hat das Christentum noch Zukunft? Zur Präsenz der Kirche in den säkularisierten Gesellschaften Europas // Communio. Internationale katholische Zeitschrift. — 32 (2003). — S. 116–136.
[13] Wanke, J. «Vom Erbe zum Angebot». Pastorale Herausforderungen im Osten Deutschlands. Perspektiven einer Antwort // Bischof J. Wanke (Hrsg.). Wiedervereinigte Seelsorge. Die Herausforderung der katholischen Kirche in Deutschland. — Leipzig, 2000. — S. 112.
[14] Пар. Koch, K. Die Gottesfrage klopft an die Ökumenische Türe // Catholica. — 54 (2000). — S. 1–13.
[15] Пар. Besancon, A. Le malheur du siécle. Sur le communisme, le nazisme et l'unicité de la Shoah. — Paris, 1998.
[16] Бэнэдыкт XVI. Прывітальнае слова на аўдыенцыі для ўдзельнікаў Генеральнай асамблеі «Caritas Internationalis» у Рыме 27 мая 2011 г.
[17] Zulehner, P. M. Ein Obdach der Seele. Geistliche Übungen — nicht nur für fromme Zeitgenossen. — Düsseldorf, 1994. — S. 54.
[18] Pannenberg, W. Christliche Rechtsüberzeugungen im Kontext einer pluralistischen Gesellschaft // W. Pannenberg. Beiträge zur Ethik. — Göttingen, 2004. — S. 60; ïàð. Koch, K. Wähle das Leben! Herausforderungen der Biowissenschaften im Licht des christlichen Glaubens (Memorandum 1). — Solothurn, 2007.




Бэнэдыкт XVI

# СВЯТЛО СВЕТУ: ПАПА, КАСЦЁЛ І ЗНАКІ ЧАСУ

## Размова з Петэрам Зэевальдам

*Фрагменты з кнігі*

ДЫКТАТУРА РЭЛЯТЫВІЗМУ

*— Брытанскі пісьменнік Олдас Хакслі ў 1932 годзе ў сваім навукова-фантастычным рамане «Дзівосны новы свет»[1] прадказаў, што фальсіфікацыя стане характэрным элементам сучаснасці. У фальшывай рэчаіснасці з яе фальшывай праўдай — або ўвогуле пры адсутнасці праўды — у рэшце рэшт нічога ўжо не важна. Няма праўды, няма ніякіх поглядаў.*

*Між іншым, на самай справе, праўда лічыцца занадта суб'ектыўным паняццем, каб для яе можна было яшчэ яшчэ знайсці нейкі агульнаабавязковы крытэрый. Розніца паміж праўдзівым і няпраўдзівым, як здаецца, ліквідаваная. У пэўнай ступені ўсё можа служыць прадметам пагаднення. Гэта і ёсць той рэлятывізм, ад якога Вы, Ваша Святасць, так настойліва засцерагаеце?*

— Агульнавядома, што паняцце «праўда» стала падазроным. Сапраўды, з ім звязана шмат злоўжыванняў. У імя праўды чыніліся акты нецярпімасці і зверствы. Таму мы асцерагаемся, калі нехта кажа: «Гэта праўда», або нават: «Я валодаю праўдаю». Ніколі мы не валодаем ёю, у лепшым выпадку яна валодае намі. І ніхто не будзе аспрэчваць, што трэба быць асцярожным і абачлівым, дамагаючыся праўды. Але і проста наадрэз адмовіцца ад яе, як ад нечага недасягальнага, было б сапраўды знішчальным дзеяннем.

Значная частка сённяшніх філасофій на самай справе настойвае на тым, што нібыта чалавек не здольны да пазнання

---

*Працяг. Пачатак у 3 за 2011 г.*

праўды. Але, калі зыходзіць з такога пункту гледжання, ён не быў бы таксама здольны да стварэння этасу. Тады не было б ніякіх крытэрыяў. Тады трэба было б усяго толькі звяртаць увагу на тое, як больш-менш дамовіцца, і адзіным крытэрыем, з якім бы лічыліся ў крайнім выпадку, было б меркаванне большасці. Гісторыя, аднак, дастаткова паказала, якой знішчальнай можа быць большасць, хоць бы ў выпадку такіх сістэмаў, як нацызм і марксізм, якія асабліва процістаялі праўдзе.

*— «Існуе дыктатура рэлятывізму, — заявілі Вы ў сваёй прамове на адкрыцці канклава, — [дыктатура], якая нічога не прызнае канчатковым і ў якасці адзінага крытэрыю прымае толькі ўласнае „я“ і яго жаданні».*

— Таму мы павінны адважыцца сказаць: так, чалавек павінен шукаць праўду, ён здольны да пазнання праўды. Тое, што праўда патрабуе крытэрыяў, каб была магчымай яе верыфікацыя і фальсіфікацыя, гэта само сабой зразумела. Яна павінна таксама заўсёды ісці крок у крок з талерантнасцю. Але тады праўда паказвае нам і тыя нязменныя каштоўнасці, якія ўчынілі чалавецтва вялікім. Таму зноў трэба нанова вучыцца пакоры, трэба практыкавацца ў ёй, каб прызнаць праўду і зрабіць яе пунктам адліку.

Тое, што праўда пануе не праз насілле, а дзякуючы сваёй унутранай моцы, гэта цэнтральная ідэя Евангелля ад Яна: Езус вызнае перад Пілатам, што Ён — *праўда* і сведка праўды. Хрыстус не абараняе праўду з дапамогаю легіёнаў, але робіць яе відочнаю праз сваю Муку і праз гэта пацвярджае яе сілу.

*— У свеце, які стаў рэлятывісцкім, усё большую і большую ўладу над мысленнем і дзеяннямі людзей захоплівае новае язычніцтва. Даўно ўжо стала ясна, што нароўні з Касцёлам існуе не толькі нейкая пустая прастора, вакуум, але ўсталёўваецца нешта накшталт «антыкасцёла». Папа ў Рыме ўжо толькі таму заслугоўвае асуджэння, як піша адна з нямецкіх газетаў, што ён са сваімі поглядамі «выступае супраць рэлігіі», якая сёння «мае аўтарытэт у гэтай краіне», а менавіта, «свецкай рэлігіі». Ці не распачынаецца тут новая «культуркампф», як гэта вынікае з аналізу Марчэло Пера? Старшыня італьянскага Сената гаворыць пра «шырока задуманую барацьбу лаіцызму супраць хрысціянства».*

— Нанава пашыраецца нееталерантнасць, гэта вельмі відавочна. Існуюць адладжаныя крытэрыі мыслення, якія нібыта павінны прымацца ўсімі. Больш за тое, яны абвяшчаюцца ў форме так званай негатыўнай талерантнасці. Напрыклад, калі гавораць, што дзеля негатыўнай талерантнасці нельга змяшчаць крыж у грамадскіх будынках. Па сутнасці, мы перажываем тым самым ліквідаванне талерантнасці, бо гэта азначае, што рэлігія, хрысціянская вера больш не можа выяўляцца відочным чынам.

Калі, напрыклад, у імя «недыскрымінацыі» хочуць прымусіць Каталіцкі Касцёл змяніць сваю пазіцыю ў адносінах да гомасексуалізму ці святарскага пасвячэння жанчын, то гэта азначае, што Касцёл больш не можа захоўваць сваю ўласную самасвядомасць і што замест гэтага нейкая абстрактная негатыўная рэлігія робіцца тыранскім крытэрыем, якога ўсе павінны прытрымлівацца. Больш за тое, гэта здаецца свабодаю — ужо толькі таму, што вызваляе ад таго, што існавала да гэтага.

У рэчаіснасці, аднак, такое развіццё ўсё больш і больш вядзе да неталерантных прэтэнзій новай рэлігіі, якая беспадстаўна сцвярджае, што павінна быць агульнапрынятай, бо гэта разумная рэлігія, больш за тое, таму што яна — сам розум, які ўсё ведае, і таму яна дамагаецца таксама прасторы, дзе цяпер мусіць стаць для ўсіх аўтарытэтам.

Тое, што ў імя талерантнасці ліквідуецца талерантнасць, — вялікая пагроза, перад якой мы стаім. Небяспека заключаецца ў тым, што розум — так званы заходні розум — сцвярджае, нібыта ён цяпер сапраўды распазнаў тое, што правільнае, і тым самым прэтэндуе на таталітарнасць, варожую свабодзе. Думаю, мы павінны вельмі пераканаўча паказваць гэтую небяспеку. Нікога не прымушаюць быць хрысціянінам. Але таксама нельга нікога прымушаць да таго, каб ён жыў «новай рэлігіяй» як адзінай рэлігіяй, якая можа прадпісваць і быць абавязковай для ўсяго чалавецтва.

*— Агрэсіўнасць, з якой выходзіць на сцэну гэтая новая рэлігія, «Шпігель»*[2] *апісвае як «крыжовы паход атэістаў». Гэта*

*крыжовы паход, у якім хрысціянства высмейваецца як «ілюзія Бога», а рэлігія класіфікуецца як праклятце, якому нібыта можна прыпісаць таксама адказнасць за ўсе войны.*

*Вы самі ўжо гаворыце пра «вытанчаную або таксама менш вытанчаную агрэсію супраць Касцёла». І без таталітарных рэжымаў сёння пануе націск: думайце так, як думаюць усе. Выпады супраць Касцёла паказваюць, «як гэты канфармізм можа стаць сапраўднай дыктатурай». Моцныя словы.*

— Але рэчаіснасць на самай справе такая, што пэўныя формы паводзінаў і мыслення падаюцца як адзіна разумныя і таму адзіна адпаведныя чалавеку. І хрысціянства тады падвяргаецца націску з боку неталерантнасці, якая спачатку падымае яго на смех — як нешта ненармальнае, прадукт фальшывага мыслення, — а потым, нібыта ў імя разумнасці, хоча пазбавіць яго жыццёвай прасторы.

Вельмі важна, каб мы супрацiўляліся такім абсалютным патрабаванням пэўнага роду «разумнасці». Гэта ні ў якім разе не сам чысты розум, але абмежаванне розуму да таго, што можна спазнаць з дапамогаю прыродазнаўчых навукаў, і аднначасова выключэнне ўсяго таго, што выступае з гэтых межаў. Безумоўна, гэта праўда, што войны ў гісторыі распачыналіся таксама з рэлігійных прычынаў, што рэлігія прыводзіла таксама да насілля...

*— ...Але ні Напалеон, ні Гітлер, ні амерыканская армія ў В'етнаме не мелі нічога агульнага са змагарамі за веру. Наадварот, якраз на працягу сямідзесяці гадоў атэістычныя сістэмы на Захадзе і Усходзе руйнавалі свет — у эпоху, далёкую ад Бога, якую амерыканскі пісьменнік Луіс Бэглі назваў «сатанінскім рэквіемам».*

— Тым больш праўдзіваю застаецца вялікая сіла дабра, якая была вызвалена рэлігіяй і праз вялікія постаці — Францішка Асізскага, Вінцэнта дэ Поля, маці Тэрэзы і іншых — прысутнічае ва ўсёй гісторыі, асвятляючы яе. І наадварот, новыя ідэалогіі прыводзяць да такой жорсткасці і пагарджання людзьмі, якія раней былі немагчымымі, бо заўсёды там была яшчэ пашана да Боскага падабенства ў чалавеку; без гэтай пашаны чалавек узводзіць сябе ў абсалют і ўсё сабе дазваляе — і тады сапраўды становіцца тым, хто разбурае.

*— З другога боку, можна было б сказаць: дзяржава павінна, улічваючы роўнасць усіх, мець таксама права выдаляць рэлігійныя сімвалы з публічных памяшканняў, крыж Хрыста таксама. З гэтым можна пагадзіцца?*

— Па-першае, тут трэба паставіць пытанне: чаму яна павінна яго выдаляць? Калі б крыж нёс у сабе нейкае сведчанне, якое ў іншых выклікала б пярэчанні і было б непрымальным, тады ўжо варта было б над гэтым задумацца. Але крыж сведчыць пра тое, што сам Бог з'яўляецца тым, хто пакутуе, што праз пакуты Ён лучыцца з намі, што Ён любіць нас. Гэта сведчанне, якое нікога не атакуе. Гэта па-першае.

Па-другое, безумоўна, існуе таксама культурная самасвядомасць і на яе абапіраюцца нашы краіны. Самасвядомасць, якая пазітыўна фармуе нашы краіны і на якой яны ўнутрана трымаюцца; якая ўвесь час стварае пазітыўныя каштоўнасці і асноўную форму грамадства і праз гэта ставіцца на месца эгаізм і становіцца магчымай культура чалавечнасці. Я сказаў бы, што нікому не дазваляецца зневажаць і выдаляць такое культурнае самавыяўленне грамадства, якім яно жыве ў пазітыўным сэнсе, нават калі нехта не падзяляе гэтых перакананняў.

*— У Швейцарыі грамадзяне галасавалі хоць і не супраць будаўніцтва мячэцяў, але супраць будаўніцтва мінарэтаў пры мячэцях. У Францыі парламент забараніў нашэнне паранджы. Ці могуць хрысціяне цешыцца гэтым?*

— Хрысціяне талерантныя, і таму іншым яны таксама дазваляюць іх уласнае разуменне. Мы ўдзячныя за тое, што ў краінах Персідскага заліву (Катар, Абу-Дабі, Дубай, Кувэйт) ёсць касцёлы, у якіх хрысціяне могуць цэлебраваць набажэнствы, і жадаем, каб так было паўсюль. Таму само сабой зразумела, што і ў нас мусульмане могуць збірацца на малітву ў мячэцях.

Што датычыць паранджы, я не бачу ніякіх прычынаў для ўсеагульнай забароны. Гавораць, нібыта многія жанчыны не добраахвотна носяць паранджу і што гэта, уласна кажучы, гвалт у адносінах да жанчыны. Безумоўна, з гэтым нельга згаджацца. Але калі яны добраахвотна

хочуць яе насіць, то не ведаю, чаму гэта павінна ім забараняцца.

*— У Італіі 80 % жыхароў — ахрышчаныя каталікі. У Партугаліі іх 90 %, у Польшчы таксама 90 %, у малой краіне Мальта — 100 %. У Германіі ўсё яшчэ больш за 60 % насельніцтва належыць да абодвух «народных Касцёлаў»*[3]*, і значная частка з астатніх — да іншых хрысціянскіх супольнасцяў. Хрысціянская заходнееўрапейская культура — гэта, несумненна, аснова поспеху і дабрабыту Еўропы, і тым не менш большасць насельніцтва мірыцца сёння з дамінаваннем меншасці, якою з'яўляюцца нефармальныя лідары. Сітуацыя дзіўная, калі не сказаць нават шызафрэнічная.*

— У гэтым відаць унутраная праблема. Наколькі людзі ўвогуле належаць яшчэ да Касцёла? Яны хочуць, з аднаго боку, належаць да яго, ім не хочацца страціць фундамент. Аднак, з другога боку, яны, безумоўна, унутрана сфармаваныя сучасным спосабам мыслення. Гэтая «сумесь», утвораная ў выніку супрацоўніцтва і суіснавання хрысціянскай волі і новага светапогляду, які накладае адбітак на ўсё жыццё, знаходзіцца нібы ў стане браджэння. У гэтым сэнсе застаецца пэўнага роду шызафрэнія, раздваенне асобы.

Мы павінны клапаціцца пра тое, каб абодва гэтыя элементы — наколькі магчыма іх сумясціць — дапасоўваліся адзін да аднаго. Быццё хрысціянінам не можа азначаць прыналежнасць да нейкага архаічнага пласту насельніцтва, якога я так ці інакш прытрымліваюся і жыву ў пэўнай ступені *ўбаку* ад усяго новага. Быццё хрысціянінам само па сабе — гэта нешта жывое, сучаснае, што ўплывае на ўсё новае ўва мне, фармуе яго і такім чынам сапраўды ахоплівае яго.

Тут патрэбна вялікае духоўнае змаганне — гэтая думка знайшла сваё ўвасабленне ў заснаванні мною нядаўна Папскай рады па новай евангелізацыі. Важна тое, каб мы спрабавалі жыць і думаць па-хрысціянску так, каб успрымаць усё добрае і слушнае ў сучаснасці, і ў той жа час адсякаць і адмяжоўвацца ад таго, што становіцца антырэлігіяй.

*— Калі глядзець цвяроза, то Каталіцкі Касцёл — гэта самая вялікая арганізацыя ў свеце з цэнтралізаванай сеткай на ўсім зямным шары, якая добра функцыянуе. Яна мае 1,2 мільярдаў членаў, звыш 4 000 біскупаў, 400 000 святароў, мільёны асобаў духоўнага стану. У яе склад уваходзяць тысячы ўніверсітэтаў, кляштараў, сацыяльных установаў. У такіх краінах як Германія Каталіцкі Касцёл з'яўляецца другім самым буйным пасля дзяржавы працадаўцам. Касцёл — гэта не толькі знак якасці з непарушнымі дырэктывамі, ён мае ўласцівую яму самасвядомасць — з уласным культам, з уласнай этыкай, з найсвяцейшым з усяго святога, Эўхарыстыяй. І ўвогуле, ён мае правамоцтва, дадзенае звыш, і можа сказаць пра сябе: мы з'яўляемся арыгіналам, мы — захавальнікі скарбу. Уласна кажучы, большае немагчыма. Ці не дзіўна, ці нават не скандал гэта, што такі Касцёл не робіць намнога больш, маючы такі, ні з чым не параўнальны, патэнцыял?*

— Безумоўна, мы павінны спытаць сябе пра гэта. Мы бачым сутыкненне двух духоўных светаў — свету веры і свету секулярызацыі. Пытанне гучыць так: у чым секулярызацыя мае рацыю? Дзе вера можа і павінна пераймаць формы і вобразы сучаснасці, а дзе яна павінна аказваць супраціўленне? Гэтае вялікае змаганне пранізвае сёння ўвесь свет. Біскупы ў краінах трэцяга свету кажуць мне: у нас таксама існуе секулярызацыя; яна існуе там адначасова з цалкам архаічнымі формамі жыцця.

Сапраўды, часта пытаюцца, як гэта адбываецца, што хрысціяне, якія асабіста з'яўляюцца веруючымі людзьмі, не маюць сілы, каб мацней уздзейнічаць сваёй верай на палітыку. Мы павінны перадусім старацца, каб людзі не страцілі сувязь з Богам, каб усведамлялі, які скарб яны маюць. І каб потым яны самі, моцаю сваёй веры, пачалі крытычна глядзець на секулярызацыю і былі ў стане распазнаваць духаў. Гэты вельмі важны працэс з'яўляецца вялікім і найбольш актуальным заданнем цяперашняга моманту. Мы можам толькі спадзявацца, што ўнутраная сіла веры гэтых людзей будзе праяўляцца тады таксама ў іх публічным жыцці, а тым самым — у грамадскай думцы, і грамадства не скоціцца ў бездань.

*— Ці нельга было б зыходзіць з таго, што пасля дзвюх тысяч гадоў хрысціянства проста вычарпала сябе, як у гісторыі цывілізацыі вычарпалі сябе таксама іншыя вялікія культуры?*

— Калі разглядаць павярхоўна і трымаць у полі зроку толькі

заходні свет, то можна было б так падумаць. Але, калі прыгледзецца больш уважліва — як гэта магчыма для мяне дзякуючы візітам біскупаў з усяго свету і дзякуючы шматлікім іншым сустрэчам, — то відаць, што ў цяперашні момант у хрысціянстве з'яўляюцца зусім новыя творчыя сілы.

У Бразіліі, напрыклад, з аднаго боку назіраецца моцны рост сектаў, нярэдка вельмі сумніўных, таму што яны найчасцей абяцаюць толькі працвітанне, знешні поспех. Аднак існуюць таксама новыя каталіцкія ініцыятывы, бачны дынамізм новых рухаў, такіх як «Герольды Евангелля»; ёсць маладыя людзі, натхнёныя тым, што могуць пазнаваць Хрыста як Божага Сына і несці Яго ў свет. Як сказаў мне арцыбіскуп архідыяцэзіі Сан-Паўлу, там няспынна ўзнікаюць новыя рухі. Такім чынам, там ёсць сіла для ініцыятываў і для новага жыцця.

Або давайце падумаем пра тое, што значыць Касцёл для Афрыкі. Там ён часта з'яўляецца тым адзіным, што заўсёды застаецца сярод хаосу і разбурэнняў, якія прыносяць войны; адзіным прытулкам, дзе яшчэ ёсць чалавечнасць, дзе нешта робіцца для людзей. Касцёл выступае за тое, каб магло працягвацца жыццё, каб клапаціліся пра хворых, каб дзеці маглі прыходзіць на свет і атрымліваць выхаванне. Касцёл з'яўляецца жыватворнай сілай, якая зноў і зноў дае натхненне і тым самым адкрывае новыя шляхі.

Не так выразна, але ўсё ж такі несумненна назіраецца і ў нас, на Захадзе, узнікненне новых каталіцкіх ініцыятываў, якімі не кіруе сістэма, бюракратыя. Бюракратыя вычарпала свае сілы, яна знясіленая і змучаная. Ініцыятывы паходзяць знутры, з радасці маладых людзей. Магчыма, хрысціянства прымае нейкае іншае аблічча, а таксама іншую культурную постаць. Яно не займае капітанскага мосціка ў меркаваннях свету, там правяць іншыя. Але яно з'яўляецца жыватворнай сілай, без якой не маглі б устаяць таксама іншыя рэчы. У гэтых адносінах я — дзякуючы таму, што магу сам бачыць і перажываць, — вельмі аптымістычны і думаю, што хрысціянства стаіць напярэдадні эпохі новага дынамізму.

*— Часам складаецца, аднак, уражанне, нібыта існуе нейкі закон прыроды, паводле якога язычніцтва зноў і зноў вяртаецца на тыя тэрыторыі, дзе яно было выкарчавана, якія былі асвоеныя хрысціянствам...*

— Тое, што з-за грахоўнай структуры чалавека ў ім зноў і зноў прабіваецца на паверхню язычніцтва, паказвае вопыт усіх стагоддзяў. Праўда пра першародны грэх пацвярджаецца. Зноў і зноў чалавек адпадае ад веры, зноў хоча быць сам па сабе, становіцца язычнікам у поўным сэнсе гэтага слова.

Але зноў і зноў праяўляецца таксама Божая прысутнасць у чалавеку. Гэта змаганне, якое пранізвае ўсю гісторыю. Як сказаў святы Аўгустын, сусветная гісторыя — гэта барацьба паміж дзвюма формамі любові: любоўю да сябе самога ажно да знішчэння свету і любоўю да іншых ажно да адрачэння ад самога сябе. Гэтая барацьба, якую заўсёды можна бачыць, трывае таксама цяпер.

*Пераклад з нямецкай мовы*
*Ірыны Бурак.*

*Паводле: Benedikt XVI.*
*Licht der Welt:*
*Der Papst, die Kirche und*
*die Zeichen der Zeit.*
*Ein Gespräch mit Peter Seewald. —*
*Verlag Herder, 2010.*

*Працяг будзе.*

[1] Aldous Huxley «Brave New World»; існуе пераклад на рускую мову «О дивный новый мир» (СПб.: Амфора, 1999). — *Тут і далей заўв. перакл.*

[2] «Шпігель» (ням. *Der Spiegel* — люстэрка) — адзін з самых вядомых штотыднёвікаў Германіі, які выходзіць накладам каля 1,1 мільёнаў экзэмпляраў.

[3] Азначэнне «народны Касцёл» сёння, як правіла, выкарыстоўваецца, калі гаворка ідзе пра канфесію, да якой належыць большая частка насельніцтва краіны. Напрыклад, у Германіі «народнымі Касцёламі» лічацца Евангелічны Касцёл Германіі і Каталіцкі Касцёл.

Стэфан Свяжаўскі

# СВЯТЫ ТАМАШ, ПРАЧЫТАНЫ НАНАВА

## ХАРАКТАРЫСТЫКА ТВОРЧАСЦІ СВЯТОГА ТАМАША

Пасля пачатковай пастаноўкі двух пытанняў, прынцыповых для нашых разважанняў: – Навошта філасофія? і – Чаму св. Тамаш? – ды пасля спробы адказаць на іх – мы пераходзім да кароткай характарыстыкі творчасці св. Тамаша, каб затым закрануць вельмі істотную праблему: якія адносіны паміж прыроднай і надпрыроднай ведаю?

Найперш мы мусім уступіць на тэрыторыю гісторыі філасофіі. Чытачы, якія не мелі ніякага дачынення да філасофіі і яе гісторыі, павінны хаця б пабежна азнаёміцца з I томам «Гісторыі філасофіі» Уладзіслава Татаркевіча[1] (альбо з аналагічным падручнікам). Варта параіць хоць крыху ўвайсці ў гэтую галіну, каб засвоіць некаторыя паняцці, да якіх мы ўвесь час будзем звяртацца пры разважаннях.

Калі мы гаворым пра філасофію і яе гісторыю, мы павінны мець на думцы ўсё чалавецтва, а не толькі тую малую яго частку, якая выхавалася на грэка-лацінскай культуры. Вялікую філасофію стварылі Далёкі Усход, Індыя, а таксама Кітай. Іх культуры нашмат старэйшыя за нашыя. Будучы «малодшымі братамі» гэтых культураў, мы, аднак, выхаваныя на глебе філасофіі, якая нарадзілася ў рэгіёне басейну Сярэдземнага мора, і гэтая філасофія цікавіць нас найбольш, а менавіта тое, што вырасла з каранёў грэцкай філасофіі і захавалася да нашых часоў.

Усялякая поўная філасофія ў сваёй аснове рэлігійная. Вялікія грэцкія мысляры ад найдаўнейшых часоў не былі матэрыялістамі ў сціслым значэнні гэтага слова. Праўда, яны не маглі дайсці да яснага паняцця духа і Бога, але шукалі Бога ва ўсёй філасофіі. Уласна кажучы, былі дзве справы, якія захаплялі грэцкіх філосафаў. Адна з іх — гэта жаданне высветліць, як суадносяцца між сабою пастаянства і зменлівасць. Зменлівасць, рух — гэта адна са з'яваў, якія найбольш здзіўляюць чалавека. Ужо малое дзіця найбольш цікавіцца тым, што рухаецца і змяняецца. Чалавек, які філасофуе, прыходзіць да пытанняў, што датычаць прычынаў змены. Пытанне прычынаў змянення вядзе ўрэшце да праблемы Бога, да адзінай нязменнай асновы. Грэцкія філосафы задумваліся над тым, што ў навакольным свеце пастаяннае, а што прамінальнае. Яны меркавалі, што прамінальнае — гэта спалучэнні пэўных элементаў, а нязменнымі застаюцца самі элементы. Паводле Платона[2], напрыклад, прамінальны — гэта свет, які мы ўспрымаем пачуццямі, а нязменнае — гэта тое, што ён называў ідэямі; ідэі — гэта нязменныя праўзоры ўсіх прамінальных рэчаў. Вернемся яшчэ да гэтых пытанняў у разуменні Арыстоцеля[3], вучня Платона. Першаю з дзвюх вялікіх праблемаў, якія цікавілі грэцкіх філосафаў, было вытлумачэнне з'явы руху-змены, таго, што ўсё змяняецца, усё знаходзіцца ў пастаяннай змене. Ці пры агульнай зменлівасці, прамінальнасці ёсць штосьці нязменнае і пастаяннае?

Другая праблема звязаная з чалавекам, з лёсам чалавека, з цярпеннем. Яна канцэнтруецца ў пытанні: у чым сапраўднае шчасце? Праблема шчасця цесна звязаная з праблемай цярпення. Што зрабіць, каб ліквідаваць, утаймаваць ці перамагчы цярпенне? Шчасце — гэта другая тэма, якую прынесла грэцкая філасофія. Гэтыя два сюжэты: руху (змены) і шчасця (цярпення) былі прычынай таго, што грэцкая думка вагалася паміж філасофіяй, скіраванай на свет, і філасофіяй, якая займаецца пераважна чалавекам. Гэтыя дзве вялікія праблемы і ёсць уласна воссю ўсёй старажытнай філасофіі.

Што да другой тэмы, то розныя старажытныя філасофскія школы прапануюць свае «праграмы жыцця». Адны, як індыйскія мудрацы, сцвярджалі, што чалавек толькі тады будзе шчаслівы, калі зможа дасканальна авалодаць сабою. Гэтак вучылі стоікі. Ідэалам для іх была неадчувальнасць — мудрэц і шчаслівы чалавек абыякавы да ўсяго, што адбываецца вакол яго. Іншыя лічылі, што шчасце ў тым, каб умець добра выкарыстаць кожны момант, кожную хвіліну, не толькі ў сэнсе

---

*Працяг. Пачатак у 3 за 2011 г.*

пачуццёвых задавальненняў, але ў сэнсе ўмення перажываць усялякую прыемнасць. Гэткі быў погляд эпікурэйцаў. Іншыя казалі: не трэба ўвязвацца ні ў якія палітычныя ці філасофска-грамадскія справы; чалавек стане шчаслівым тады, калі будзе толькі назіраць за жыццём, але не будзе ў яго ўцягнуты, бо ўсялякае ўлучэнне ў яго стварае тысячы клопатаў. Гэтак раілі скептыкі...

У разуменні некалькіх гэтых старажытных школаў філасофія ўяўляецца як праграма жыцця. Таксама і хрысціянства, першыя хрысціянскія пісьменнікі II стагоддзя называлі філасофію адзінаю школаю жыцця, якая дае рэальную праграму сапраўднага ўтаймавання цярпення і стаўлення да факту смерці. Св. Юстын[4], мучанік II стагоддзя, які прайшоў шмат філасофскіх школаў, апавядае, як нарэшце сустрэў вучонага пустэльніка, мудраца, які навучыў яго філасофіі Хрыста, сцвярджаючы, што толькі філасофія Хрыста сталася той філасофскай школай, якую ён змог цалкам прыняць.

У першыя стагоддзі хрысціянства здавалася, што гэтая філасофія цалкам заменіць усе іншыя. Сведчанне пра ўваскрасенне, перамогу над смерцю, своеасаблівы рэцэпт шчасця — гэта тое, што пракладае тагачаснаму хрысціянству шлях да ўсіх, як да самых вучоных колаў, гэтак і да людзей простых. У той час — гэта невялікае адступленне, да якога мы яшчэ вернемся — філосафам найцяжэй было прыняць праўду пра ўваскрасенне з мёртвых. Нашмат лягчэй было прызнаць неўміручасць чалавечай душы, духовасць душы, чым уваскрасенне, бо тады дамінавала платонаўская філасофія ў выглядзе неаплатонаўскай, у якой акцэнт рабіўся перадусім на духовым элеменце. З увагі на гэта справа духовасці не выклікала цяжкасцяў, але затое цела лічылася гэткім нікчэмным элементам чалавека, нечым нагэтулькі вартым пагарды, што хрысціянства, якое абвяшчала вялікую годнасць матэрыі і цела, Уцелаўленне і Змёртвыхпаўстанне, было для тагачасных людзей нібы згаршэннем. Найбольш клопатаў першыя апалагеты — Атэнагор[5], Юстын ды іншыя — мелі менавіта з абвяшчэннем і абгрунтаваннем уваскрасення з мёртвых, рэальнага ўстання з мёртвых: і Хрыста і ўсіх людзей. Вось прыклад цяжкасцяў, з якімі сутыкалася філасофская рэфлексія на мяжы веры і філасофіі. Хрысціянская думка будзе заўсёды развівацца нібы ў дыялогу, у пастаяннай дыскусіі са старажытнай паганскай думкай.

Вялікіх настаўнікаў Касцёла, якія жылі ў першыя стагоддзі, як грэцкіх так і лацінскіх, мы называем айцамі, бо яны і сапраўды былі айцамі Касцёла. Ад лацінскага слова *patres* (айцы) творчасць гэтых вялікіх вучоных названая патрыстыкай, бо і грэцкія, і лацінскія айцы, з якіх найвялікшым быў св. Аўгустын[6], засноўваюць падваліны хрысціянскай думкі. У той час ёй яшчэ далёка было да размежавання філасофіі і тэалогіі; рэфлексія на тэму евангелічных праўдаў цалкам займала ўсю хрысціянскую думку. Св. Аўгустын прайшоў шмат нехрысціянскіх філасофскіх школаў: доўгі час ён быў скептыкам і лічыў, што нічога нельга пазнаць з пэўнасцю, потым некалькі гадоў быў вызнаўцам маніхейскай рэлігіі (маніхейства — гэта рэлігія, якая прымала існаванне двух першапачаткаў, двух аднолькава моцных элементаў: зла і дабра, якія змагаюцца паміж сабою, і менавіта змаганне гэтых двух элементаў быццам бы вызначае ўсю духовую гісторыю свету). Маніхейства, якое было пагрозлівым выкрыўленнем хрысціянства, таксама не задаволіла св. Аўгустына. У выніку ён звярнуўся да платонаўскай думкі — яго прыцягнуў прымат духовага элементу, тыповы для неаплатанізму. Неаплатанізм — гэта філасофская плынь, якая робіць занадта вялікі, скрайне ўзяты акцэнт на духовы элемент у чалавеку і ўвогуле ва ўсёй рэчаіснасці. Таму неаплатанізм і перашкаджаў прыняць Змёртвыхпаўстанне і Уцелаўленне — найбольшыя рэалістычныя праўды хрысціянскай веры. Разам з тым трэба сказаць, што да часоў св. Тамаша ўся сярэднявечная думка знаходзілася нібы пад уладаю розным чынам хрысціянізаванага неаплатанізму. У выніку гэтага скрайні спірытуалізм, скрайняя духовасць хрысціянскай думкі, пэўная пагарда да цялеснага элементу былі характэрныя для галоўных плыняў філасофска-тэалагічнай думкі ўсяго Сярэднявечча да св. Тамаша. Памылкаю таксама будзе лічыць, што дамінуючай у тую эпоху была думка Арыстоцеля, вучня Платона, бо такі стан справаў складаецца пазней, ужо ў часы Тамаша.

Памятайма, што ў тыя часы лацінская Еўропа ў культурных адносінах недзе на сто гадоў адставала ад арабскага і жыдоўскага свету. Гэта быў перыяд вялікай арабскай культурнай экспансіі. Гэта быў час, калі арабскі свет кансалідаваўся і развіваўся, ствараючы выдатныя асяродкі думкі і навукі. На ўсходзе Багдад, у Іспаніі Кардова і Таледа, а таксама паўночна-афрыканскія тэрыторыі – гэта месцы дынамічнага развіцця матэрыяльнай, а перадусім духовай культуры арабаў. Такім чынам, падчас крыжовых выправаў крыжакі сутыкаліся не з варварамі, а са светам, які знаходзіўся на значна вышэйшым за іх культурным узроўні, пра што заўсёды трэба памятаць. Арабская культура была чымсці такім, што зачароўвала еўрапейцаў. Было ўсведамленне, што арабы, з аднаго боку, гэта няверныя, аднак з іншага — гэта людзі, якія стварылі выдатную, рафінаваную культуру.

На той час на вышыні ў арабскім свеце была

філасофія. Высокі быў узровень тэалогіі, своеасаблівай містыкі Карана; тады ў арабскім свеце інтэнсіўна развіваліся і дакладныя навукі, асабліва матэматычна-прыродазнаўчыя. Тут варта ўзгадаць пра месца, якое выклікае сапраўднае ўзрушэнне ва ўсіх людзей, замілаваных экуменізмам: найпрыгажэйшае месца ў Іспаніі, славутае Таледа. Гэта месца, дзе рэалізавалася штосьці неверагодна рэдкае ў гісторыі чалавецтва. Уласна там у XII стагоддзі вельмі доўгі час, а менавіта за сто гадоў да св. Тамаша, у спакоі і згодзе, нягледзячы на тое, што навокал ішлі войны, супрацоўнічалі хрысціянскія, мусульманскія і жыдоўскія духоўнікі. Тут мы маем недасягальны ўзор экуменізму. У Таледа ўзнікалі найвыдатнейшыя творы, пераклады з арабскае на гэбрайскую, з гэбрайскае на лаціну. Тады ж утварыўся ідэал вучонага чалавека, які ведае тры мовы. І тут меліся на ўвазе іншыя мовы, чым у пазнейшы час, не грэцкая, гэбрайская і лаціна, але лаціна, арабская і гэбрайская. Менавіта гэтыя тры мовы былі ключом да сапраўднай тагачаснай веды. Гэтае творчае супрацоўніцтва, на жаль, трывала нядоўга. Як заўсёды ў чалавечай гісторыі, зброя, вайна і варварства знішчылі гэты выдатны асяродак, які да сённяшняга дня з'яўляецца ўзорам таго, як павінна выглядаць супольная навукова-рэлігійная праца. Аднак таксама і ў XIII стагоддзі здзяйсняецца штосьці вельмі дзівоснае. На тэрыторыю Еўропы праз тагачасныя пераклады прыходзіць канкуруючы з Платонам другі з найвялікшых грэцкіх філосафаў — Арыстоцель, і той Арыстоцель, які тады яшчэ не быў Арыстоцелем грэцкім, аўтэнтычным. Гэта Арыстоцель арабскі, пракаментаваны арабамі, пададзены ў іх інтэрпрэтацыі, якая не цалкам пагаджалася з Арыстоцелем першасным, а перадусім несла вялікую дактрынальную небяспеку для хрысціянскай веры. Аднак гэта быў той філасаф, які тады найбольш захапляў розумы. У гісторыі так бывае, што нейкія вялікія постаці раптам робяцца нібы сонцам, якое зачароўвае ўсіх. Менавіта гэтак было з Арыстоцелем у XIII стагоддзі, асабліва для моладзі.

Арыстоцель насамрэч прымаў Бога, але Бог не быў для яго Провідам, а калі Провідам, то не канкрэтным, але тым, які дбае толькі пра агульнасці, пра роды і віды, а не пра асобныя канкрэтныя рэчы. Гэтак інтэрпрэтаваны Арыстоцель абвяшчаў таксама, што ёсць штосьці боскае ў чалавеку, але не прымаў індывідуальнай несмяротнасці чалавека. Ён казаў, што асобная чалавечая душа не захоўваецца, застаецца толькі дух усяго чалавецтва — несмяротнае чалавецтва, а не асобны чалавек. Таксама былі пахіснутыя ў гэтай інтэрпрэтацыі арыстоцелізму індывідуальныя свабода і адказнасць; панавалі дэтэрмінізм, прадвызначальнасць і нават залежнасць усіх падзеяў у свеце ад становішча зорак. Апошні погляд значна пашырыўся ў рэлігіі; яго вызначалі як гараскоп рэлігіі і сцвярджалі, што асобныя рэлігіі ўзнікаюць таму, што складаюцца адпаведныя спалучэнні зорак. Таму і хрысціянства адна з рэлігіяў, якія, як будзе дэклараваць пазней тэасофія, прыходзяць і праміпаюць у развіцці чалавецтва.

Мы бачым, што вялікая небяспека для хрысціянскай веры хавалася ў «арабскім» арыстоцелізме, які з неверагоднай сілай прыцягваў да сябе розумы. У той жа час навуковае жыццё было яшчэ прымітыўным — вучоныя людзі не толькі не разрознівалі філасофію і тэалогію, але ў св. Аўгустына наўмысна была зацёртая мяжа паміж гэтымі навукамі. Неаплатанізм, з якога шмат чэрпаў св. Аўгустын, праграмна не размяжоўваў філасофію і тэалогію. Асобныя навукі таксама не былі размежаваныя, і не ўсведамлялася гістарычнае развіццё думкі. Не варта здзіўляцца, што пры такім стане рэчаў Касцёл мог быць занепакоены, бо як-ніяк гаворка ішла пра фундаментальныя для веры праблемы: Провід, індывідуальную несмяротнасць, маральную адказнасць, вольную волю, выключнасць і боскасць хрысціянства. Гэтыя праўды былі пахіснутыя і пастаўленыя пад пытанне.

Касцёлу пагражалі таксама іншыя вялікія небяспекі, гэткія як свецкая магутнасць папства, матэрыялістычнасць клеру ды яго нізкі інтэлектуальны і маральны стан. Сон папы Інацэнта III пра св. Францішка меў пэўныя падставы. Папа бачыў у сне, што гмах Касцёла раскалоўся ад долу да самага верху, і што той Асізскі Бядняк павінен урataваць яго ад разбурэння, умацаваць яго каркас. Напэўна, тое ж самае адчуваў і разумеў, можа, яшчэ глыбей у інтэлектуальным аспекце, св. Дамінік. Чысціня веры для св. Дамініка, вернасць Евангеллю для св. Францішка — гэта тое, ад чаго залежыць лёс Касцёла. Яны запачаткавалі магутны рух жабрачых ордэнаў. У гэты рух вялікага евангелічнага аднаўлення, які акрэсліўся ў XIII стагоддзі, улучаецца св. Тамаш. Рух мэндыкантаў уплывае на найважнейшыя абставіны, якія суправаджалі першыя этапы і далейшае развіццё жыцця св. Тамаша.

Тамаш паходзіў з вялікай магнацкай сям'і, пароднenай з імператарскай. Графы з Аквіна былі магутнымі паўднёва-італьянскімі феадаламі. Тамаш нарадзіўся ў 1224 годзе, і яго бацькі, як гэта звычайна бывала тады, вызначылі для здольнага, з добрымі задаткамі дзіцяці духовую кар'еру з тою думкаю, што некалі ў будучыні, з іх падтрымкаю, ён стане абатам найслаўнейшага ў гэтай частцы Італіі абацтва Монтэ-Касіно. Таму яго паслалі да бэнэдыктынцаў на Монтэ-Касіна як аблата[7]. Біёграфы кажуць, што маленькі Тамаш любіў хадзіць па тамтэйшых гарах, — а хто быў на

Монтэ-Касіно, той ведае, якія прыгожыя далёкія краявіды адкрываюцца з гэтых узгор'яў – і ўсцяж вяртаўся да пытання: што ёсць Бог? Гэтае пытанне было адзінаю праблемаю, якая сапраўды цікавіла Тамаша. Менавіта ў гэтым выяўляецца ўся яго веліч.

Канфлікт з сям'ёю паўстаў вельмі хутка. Прынамсі Тамаш не хацеў заставацца ў бэнэдыктынцаў. Яму спадабаліся, калі можна так сказаць, тагачасныя «хіпі», якімі былі дамініканцы і францішканцы, і насуперак спадзяванням і намерам сям'і ён цягнуўся да зусім новага Ордэну Братоў Прапаведнікаў[8], якія былі прычынаю скандалаў для іерархічных касцёльных установаў. «Кепскі» прыклад падаваў ордэн, існаванне якога павінна было грунтавацца на жабрацтве. Тамаш пераадолеў шмат перашкодаў і ўступіў у ордэн св. Дамініка[9] ў Неапалі.

Істотна і цікава тое, што св. Тамаш правёў маладосць і першыя гады навучання менавіта ў Неапалі. Фрыдрых II[10], зацяты вораг папства, пастанавіў арганізаваць «другі ўніверсітэт» — антытэзу Парыжскага ўніверсітэта, які быў першым універсітэтам, падпарадкаваным папскай уладзе — і стварыць у Неапалі вялікую навучальную ўстанову, дзе магла б свабодна развівацца арабская навука. У гэтым «паганскім» універсітэце, маючы выдатных настаўнікаў, Тамаш адбыў свае першыя штудыі. Усё тое было з волі Провіду, бо дзякуючы гэтаму ён уведаў «неклерыкальную», іншую, чым папская, канцэпцыю ўніверсітэта і цяжкасці людзей, якія там вучыліся і хацелі атрымаць сапраўдныя веды.

Айцец Яцак Варанецкі[11], кажучы пра св. Тамаша, параўноўваў яго з Кантам. Кант[12], гэты вялікі філосаф, які кінуў свой цень на ўсё XIX і XX стагоддзе, ніколі не пакідаў туманнага, змрочнага Караляўца[13], з дакладнасцю да хвіліны шпацыруючы па яго вуліцах. Там ён і пісаў свае працы. Тамаш, наадварот, шмат вандраваў. Крытыцызм Канта і рэалізм Тамаша — гэта, паводле а. Варанецкага, адлюстраванне дзвюх цалкам розных асобаў. Тамаш — вярхом на муле ці пешкі, як падарожнічалі ў той час, у сваім кароткім, страшэнна працавітым жыцці некалькі разоў удоўж і ўпоперак прайшоў усю Еўропу. Кёльн, Парыж і Неапаль утвараюць трохкутнік яго шматлікіх вандровак. Вельмі важна, што Тамаш меў цудоўнага настаўніка, аднаго з найбольшых вучоных эпохі — Альбэрта[14] з Кёльна, называнага Вялікім, немца, які ўводзіў Тамаша ў таямніцы разумовай працы. Усё інтэлектуальнае жыццё св. Тамаша ўласна кажучы было бітваю. Бітваю ёсць чалавечае жыццё, бітваю ёсць таксама і жыццё інтэлектуальнае. Тамаш ваяваў прынамсі на трох франтах. І з кожным са сваіх «ворагаў» ён дыскутаваў ці ваяваў экуменічна, у тым сэнсе, пра які кажуць словы св. Паўла «для ўсіх я стаўся ўсім» (пар. 1 Кар 9, 22); прынцыпам св. Тамаша было стаць на нейкай агульнай плоскасці з праціўнікам і толькі потым весці дыскусію.

Першым праціўнікам быў паганскі, гэтэрадаксальны арыстоцелізм, плынь, якая найбольш захапляла розумы і была найбольш небяспечнаю ў сферы веры для тагачаснага хрысціянства. Другім быў абмежаваны, замкнуты ў сабе інтэлектуальны кансерватызм, які не жадаў выходзіць за рамку ці, хутчэй, абруч, накладзены на яго схрысціянізаваным неаплатанізмам. Інакш кажучы, гэта было змаганне з крайнім спірытуалізмам.

І як у першым выпадку гаворка вялася пра змаганне са своеасаблівым матэрыялізмам Арыстоцеля, гэтак у другім змаганне ішло з хрысціянствам, якое хацелі атаясаміць са спірытуалізмам. Такая дэфармацыя вельмі небяспечная: хрысціянства — гэта не спірытуалізм і не матэрыялізм. Трэцім фронтам было змаганне Тамаша са свецкім духавенствам, якое не жадала прызнаваць ідэі жабрацкіх ордэнаў; і гэта была прынцыповая справа. Увесь Ліёнскі Сабор у 1274 годзе, у год смерці св. Тамаша, быў сапраўдным полем бітвы; на ім увогуле хацелі зліквідаваць дзве вялікія ордэнскія сям'і: дамініканцаў і францішканцаў.

Таму св. Тамаш бесперапынна павінен быў ваяваць на гэтых трох франтах. Пад канец жыцця ён быў пакліканы Папам і ордэнскімі ўладамі ў Неапаль і такім чынам зноў вярнуўся туды і стварыў *Studium Generale* ці дамініканскі ўніверсітэт, які павінен быў дзейнічаць разам з памянёным імператарскім універсітэтам. Цяжка хворы св. Тамаш вырушае ў Неапаль, і ў гэтым стане небяспечнай хваробы яго выклікае Папа на Сабор, які мае адбыцца ў Ліёне. Выконваючы папскі загад, едучы на Сабор, 7 сакавіка 1274 года ў цыстэрцыянскім абацтве ў Фосса Нуова каля Тэррачыно св. Тамаш памірае.

Тут не месца ўслаўляць яго святасць, але хацеў бы падкрэсліць дзве рысы, якія найвыразней характарызуюць св. Тамаша. Найперш – велізарная чысціня думкі, якая паядноўваецца з чысцінёю ва ўсім; увогуле чысціня сэрца. Другая рыса — гэта дысцыпліна, незвычайная паслухмянасць. Апавядаюць, што калі св. Тамаш чуў званок на заканчэнне выкладу, ён на палове перапыняў сказ. Яго характарызавала абсалютная і імгненная падатлівасць на ўсё, што ён прызнаваў слушным і прымальным.

Неверагодна ўражвае ягоная творчасць. Тамаш пражыў няпоўныя пяцьдзясят гадоў, вынес шмат вандровак і працы — толькі ў пазнейшыя гады ён атрымлівае сакратароў, — але напісаў ён надзвычай шмат. Уся ягоная творчасць звязана,

як звычайна ў тагачасных вучоных, з навучаннем, а выкладаў ён два разы ў найвялікшым універсітэце. Надзвычай рэдка здаралася, каб у Парыж запрашалі нейкага прафесара двойчы, а Тамаш два разы быў у Парыжскім універстэце. Ён выкладаў *Сэнтэнцыі*, той паўсюдна ўжываны падручнік тэалогіі, які мусіў каментаваць кожны выкладчык тэалогіі; падрыхтаваў таксама мноства біблійных каментараў. Не забываймася, што св. Тамаш лічыў, што тэолаг павінен быць біблістам. Напісаў ён таксама і шэраг *квэстыяў* (вялікія трактаты на вызначаныя тэмы), меншыя творы — *opuscula*, а таксама вельмі шмат каментараў да Арыстоцеля, бо хацеў паінтэрпрэтаваць яго так, як яму здавалася найбольш адпаведным. Галоўны яго даробак — дзве *Сумы*. *Summa* — азначае падсумаванне, сабранне ў адно цэлае. Найперш з'явілася *Summa contra gentiles* — супраць няверных, супраць паганцаў; насамрэч у ёй гаворыцца не пра гэта. Яго *Сума* заснаваная пераважна на разумовай аргументацыі, на філасофскіх развbooжаннях. Уласна ж *Сума* — гэта *Summa theologiae (Сума тэалогіі)* — засталася няскончаной. Яна складаецца з трох частак, пры гэтым другая частка — яшчэ з дзвюх: першая частка *(Prima —I)*, першая частка другой часткі *(Prima secundae —I–II)*, другая частка другой часткі *(Secunda secundae — II–II*) і трэцяя частка *(Tertia — III)*. Трэцяя частка была перапыненая хваробаю і смерцю св. Тамаша на 90-м пытанні, а потым завершаная яго сакратаром Рэгінальдам.

Дзе ва ўсім гэтым філасофія? Апроч каментараў да Арыстоцеля, уласна кажучы, няма выкладу філасофіі св. Тамаша, аднак яна ўлучаная ва ўсю яго творчасць, і можна сказаць, што ў Тамаша ўпершыню робіцца спроба яснага накіду розніцы паміж філасофіяй, філасофскай рэфлексіяй і тэалогіяй, а яшчэ далей — паміж верай і містыкай. У апошнія, ужо цяперашнія часы, Жак Марытэн паказаў у сваёй кніжцы *Distinguer pour unir ou Les degrŭs du savoir ( Paris 1932),* колькі ёсць гэтых ступеняў пазнання. Мы добра ведаем, што і філасофія, і тэалогія ў пэўным сэнсе «адвольныя», можна ствараць вельмі шмат філасофскіх паняццяў і могуць узнікаць таксама розныя тэалагічныя паняцці. Наадварот, вера — абсалютна пастаянная і нязменная; такімі з'яўляюцца самі праўды веры. Мы ведаем, што містычнае жыццё, спазнанне Бога ва ўнутраным жыцці — гэта зусім іншая сфера, іншы парадак. Разрозненне гэтых розных парадкаў — характэрнае для даробку св. Тамаша і плённае для развіцця метадалогіі і навуковай творчасці.

*Пераклад з польскай мовы*
*Алеся Жлуткі.*

---

[1] Уладзіслаў Татаркевіч (1886–1980) польскі філосаф, прадстаўнік Львоўска-Варшаўскай філасофскай школы. Навучаўся ў вядомых прафесараў Львова, Марбурга, Берліна і Парыжа. Выкладаў у Варшаўскім універсітэце ў 1915–1919 і ў 1923–1961 гг. Быў акадэмікам Польскай акадэміі навук. Аўтар шэрагу працаў па гісторыі філасофіі, у тым ліку знакамітага падручніка па гісторыі філасофіі *Historia filozofii*, які ўзгадвае Свяжаўскі. Маецца на ўвазе першы яго том: *Filozofia starożytna i średniowieczna*. Кніга шматразова перавыдалася, у тым ліку выходзіла ў перакладах на іншыя мовы, напрыклад, на ўкраінскую ў 1999 г. і расійскую ў 2000 г.

[2] Платон (428 ці 427 г. да Н.Х.–348 ці 347 да Н.Х.) — старагрэцкі філосаф-ідэаліст, вучань Сакрата і настаўнік Арыстоцеля. Заснавальнік ідэалістычнай філасофскай школы. Сцвярджаў, што ў аснове бачнага свету ляжыць нябачны свет правобразаў-ідэяў. Найбольш вядомы сваімі дыялогамі, у якіх у выглядзе гутарак з Сакратам ён выкладае свае філасофскія погляды.

[3] Арыстоцель (384 да Н.Х.–322 да Н.Х.) — старагрэцкі філосаф, вучань Платона і выхавацель Аляксандра Македонскага. Прадстаўнік дыялектыкі, заснавальнік фармальнай логікі. Ягоныя працы маюць энцыклапедычны характар і асаблівую славу здабылі ў Сярэднявеччы.

[4] Святы Юстын (пач. II ст. – 166) — хрысціянскі пісьменнік і апалагет хрысціянства, вандроўны прапаведнік, мучанік за веру, шануецца як святы і ў Каталіцкім Касцёле, і ў Праваслаўнай Царкве. Прайшоў шэраг філасофскіх школаў і ўрэшце у 30-гадовым веку прыняў хрысціянства. За адмову складці ахвяру паганскім божышчам з яго жыўцом здзерлі скуру і адсеклі галаву. – *Заўв. пер.*

[5] Атэнагор — (жыў у II ст.) — грэцкі хрысціянскі пісьменнік, апалагет хрысціянства. Пакінуў толькі два творы. — *Заўв. пер.*

[6] Святы Аўрэлій Аўгустын (354–430) — хрысціянскі філосаф, прапаведнік і тэалаг. Шануецца як святы і каталікамі, і праваслаўнымі. Адзін з айцоў Касцёла. Найбольш вядомыя творы: «Споведзь» (Confessiones) і «Дзяржава Бога» (De Civitate Dei). — *Заўв. пер.*

[7] Аблат — у Сярэднявеччы — дзіця, прызначанае бацькамі для манаскага стану. – *Заўв. пер.*

[8] Ордэн Братоў Прапаведнікаў Ordo Fratrum Praedicatorum, які больш вядомы пад назваю Ордэну дамініканцаў па імені яго заснавальніка — св. Дамініка. Быў створаны ў XIII ст. — *Заўв. пер.*

[9] Святы Дамінік (1170–1221, імя ад нараджэння — Дамінга дэ Гузман Гарсэс Domingo de Guzman Garces) — манах і прапаведнік, каталіцкі святы і заснавальнік Ордэну Прапаведнікаў (дамініканцаў). – *Заўв. пер.*

[10] Фрыдрых II (Friederich II, 1194–1250) з роду Гогэнштаўфэнаў — нямецкі кароль, а затым імператар Святой Рымскай Імперыі. Кіраўнік шостай крыжовай выправы (1228–1229). Супярэчнасці з Папам узніклі з-за прэтэнзій Фрыдрыха на тытул караля Канстанцінопаля, якім, насуперак яго жаданням, быў абвешчаны П'ер дэ Куртэнэ, а таксама з-за непаразуменняў з атрыманнем імператарскай кароны. – *Заўв. пер.*

[11] Айцец Яцак Варанецкі (Jacek Woroniecki альбо Adam Korybut Woroniecki, 1878–1949) — Слуга Божы, дамініканец, рэктар Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта, тэолаг-таміст. Пісаў таксама працы з гісторыі Ордэну дамініканцаў. — *Заўв. пер.*

[12] Імануіл Кант (1724–1804) — нямецкі філосаф, заснавальнік нямецкай класічнай філасофіі. У сваіх працах «Крытыка чыстага розуму», «Крытыка практычнага розуму», «Крытыка здольнасці суджэння» выклаў тэорыю «крытычнай філасофіі», якая грунтуецца на дуалізме і сцвярджэнні непазнавальнасці «рэчаў у сабе» і пазнавальнасці з'яваў. Нарадзіўся ў Караляўцы і ніколі яго не пакідаў. – *Заўв. пер.*

[13] Старажытная беларуская назва для прускага горада Кёнігсберга, з якім беларускія землі былі звязаныя даўнімі сувязямі, культурнымі і гаспадарчымі. – *Заўв. пер.*

[14] Альбэрт Вялікі (Albertus Magnus), сын графа фон Больштэдта, таму яго называюць таксама Больштэдскім (каля 1200–1280) — хрысціянскі філосаф і тэолаг, выдатны прадстаўнік сярэднявечнай схаластыкі, дамініканец, доктар Касцёла, настаўнік Тамаша Аквінскага. За сваю энцыклапедычнасць быў названы ўніверсальным вучоным *Doctor Universalis*. — *Заўв. пер.*

Тамаш Кэмпійскі

# СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ

## Чатыры кніжкі

*З лацінскай мовы пераклаў д-р Ст. Грынкевіч*

**КНІЖКА ЧАЦЬВЁРТАЯ**

**АБ НАЙСЬВЯЦЕЙШЫМ САКРАМЭНЦЕ**

Пабожны заклік да сьвятой Камуніі

### Разьдзел I

*Зь якой пашанай трэба прымаць Хрыста*

**1.** О Езу, праўда спрадвечная, вось словы Твае, хоць не ў адным часе сказаныя і не ў адным месцы.

Але таму, што яны Твае, таму што яны праўдзівыя, трэба прымаць іх з падзякаю і зь вераю.

Твае гэныя словы, Ты іх казаў, але і мае яны, бо ж дзеля збаўленьня майго яны сказаныя.

З радасьцю падхопліваю іх з вуснаў Тваіх, каб глыбей пранялі яны сэрца маё.

Узрушаюць мяне словы так вялікае пабожнасьці, поўныя гэткае дабраты і салодкасьці ды любові, але палохаюць грахі мяне ўласныя, а нячыстае сумленьне з жахам глядзіць на гэныя вялікія таёмнасьці.

Салодкасьць слоў Тваіх парывае мяне, але стрымлівае велічыня грэшных нахілаў маіх.

### Разьдзел V

*Аб дастойнасьці Найсьвяцейшага Сакрамэнту і духоўнага стану*

**1.** Калі б ты быў чысты, як анёлы, ды сьвяты, як Ян Хрысьціцель, дык на’т і тады ня быў бы ты дастойны гэны Сакрамэнт прымаць ані яго спраўляць.

Ня ёсьць гэта справай заслугаў чалавецкіх, што чалавек кансэкруе ды спраўляе Сакрамэнт Хрыста і спажывае хлеб анёлаў.

Велічэзная гэта таёмнасьць, і вялікая дастойнасьць духаўнікоў! Бо ж ім дадзена тое, чаго і анёлы ня маюць.

Гэта ж адны толькі духаўнікі, высьвячаныя паводле законаў Касьцёла, маюць права спраўляць і ахвяроўваць Цела Хрыста.

Бо ж духаўнік — гэта Божы слуга, які карыстаецца Божымі славамі паводле загадаў і пастановаў Бога самога, а Бог сам галоўны і нявідомы выканаўца, каторага воля над усім і на загад каторага ўсё спаўняецца.

**2.** І дзеля гэтага больш трэба верыць Богу ў гэтым найдастайнейшым Сакрамэнце, чымся ўласным пачуцьцям або прыкметам ды зьявам, якія бачым вачыма.

Таму з баязьлівасцяй і з пашанай да гэтай справы трэба прыступацца.

Зважай на сябе і помні, якая служба табе даручана праз тое, што біскуп узлажыў на цябе рукі свае.

Вось духаўніком ужо ты, высьвяцілі цябе, каб адпраўляў ты ахвяру; глядзі ж цяпер, каб верна і з пабожнасьцю, у належную пару, адпраўляючы Імшу сьв., бяз закідаў ніякіх станавіўся перад Богам.

Не зрабіў ты сабе палёгкі, а наадварот — яшчэ стульней ты зьвязаны карнасьцяй і яшчэ больш трэба глядзець табе дасканальнасьці ды сьвятасьці ў жыцьці.

Усенькія цноты трэба каб былі ў духаўніка, і сам ён павінен быць прыкладам добрага жыцьця для іншых.

Яму трэба трымацца інакш, чымся ўсім іншым людзям, яму заглядацца трэба на анёлаў на небе або ўжо дасканальных людзей на зямлі.

**3.** Духаўнік, прыбраны ў сьвятыя вопраткі, заступае Хрыста, каб пакорна і пабожна маліцца да Бога за сябе і ўсенькі народ.

Носіць ён перад сабою і за сабою знак крыжа сьвятога, каб заўсёды памятаваць на мукі Хрыста. Перад сабою, на арнаце, мае ён крыж, каб пільна ўважаў на сьляды Хрыста ды ісьці па іх стараўся.

На плячох носіць ён крыж, каб усенькія турботы, якія яны ня былі б ды скуль яны ня былі б, ахвотна трываў дзеля Бога.

Мае крыж перад сабою, каб жалеў за грахі свае; мае крыж за сабой, каб, спачываючы, плакаў за чужыя грахі, ды каб ведаў, што стаіць ён паміж Богам і людзьмі грэшнымі.

І няхай не астывае ў ахвяраваньні і малітве, каб праз пастаянную сваю старannасьць і жарлівасьць

*Працяг. Пачатак у 1–4 за 2007–2010 гг. і ў 1–3 за 2011 г.*

стаўся годным выпрасіць ласку і міласэрнасць для сябе і для другіх.

Калі духаўнік адпраўляе Імшу сьвятую, Богу тады чэсьць аддае, анёлаў цешыць, Касьцёл будуе, жывым памагае, за супакой памёршых ён моліцца, а сам робіцца ўчасьнікам усякага дабра.

### Разьдзел VI

*Як падгатавацца да Камуніі сьвятой*

**1.** Калі падумаю аб Тваёй вялікасьці, Пане, ды сваёй мізэрнасьці — аж задрыжу ды засаромлюся сам у сабе.

Бо ж калі не прыступлю — жыцьцё кідаю, а калі дрэнна прыму — надта абражу Цябе.

Дык што ж рабіць, Божа мой, памагальнік мой ды рада мая пры ўсенькіх турботах?

**2.** Ты навучы мяне простага шляху, пакажы мне якое маленькае цьвічэньне, дзякуючы якому я, як трэба, падгатовіўся б да сьв. Камуніі.

Бо ж надта карысна ведаць, як пабожна ды з пашанаю падгатаваць сэрца сваё, каб прыняць добра Сакрамэнт Твой, або так жа адпраўляць гэткую вялікую Божую ахвяру.

### Разьдзел VII

*Аб дасьледжваньні свайго сумленьня*
*і аб пастанове паправы*

**1.** Прадусім трэба, каб сьвятар Божы Найсьвяцейшы Сакрамэнт адпраўляў, раздаваў і прымаў з найвялікшай пакорай сэрца і з найвышэйшай пашанай, з поўнай верай і з найчысьцейшым пажаданьнем хвалы Божай.

Старанна дасьледжвай сумленьне сваё, і — у меру сіл сваіх — праз шчыры жаль і праз пакорную споведзь ачысьці і асьвяці яго. Старайся, каб з твайго ведама нічога ў ім не асталося, што цябе непакоіла б і перашкаджала б табе свабодна да мяне прыступіцца.

Жалей за свае грахі агулам, але прадусім жалей і кайся за тыя грахі, якіх штодзень дапускаешся.

А калі маеш на гэта час, прызнавайся прад Богам у скрытасьці свайго сэрца сваіх немачаў, што паходзяць з пачуцьцёвасьці тваёй.

**2.** Плач і жалей, што ты яшчэ такі цялесны і сьвецкі, такі неапанаваны ў пачуцьцёвасьці і такі поўны пажадлівасьці.

Так мала ты чуйны над змысламі і так часта заняты пустымі раеньнямі.

Так лёгка ты схільны да справаў вонкавых і такі нядбайлы ў справах унутраных.

Так ахвотны ты да сьмеху і да забаваў, а такі цяжкі да плачу і жалю.

Такі ты скоры да роскашы і выгодаў цела, а лянівы да жыцьця цьвёрдага і жарлівага.

Гэткі ты цікаўны пачуць нешта новае ды пагледзець на прыгожае, а такі палахлівы, каб спакарыцца ды стрываць пагарду.

Гэткі прагавіты на багацьце, а такі скупы, каб даць нешта, бо ўсё хацеў бы сам толькі мець.

Гэткі неразважлівы ў гутарцы і такі нятрывалкі, каб змаўчаць дзе трэба.

Так мала паважны ў абычайнасьці ды такі шорсткі з людзьмі.

Такі хуткі, каб пад'есьці, а зусім глухі на слова Божае.

Гэтак ахвотна ты адпачываў бы, а каб працаваць, дык цяжкі ты надта.

Гэткі пільны, каб гутаркі паўслухацца, а на малітвах уночы дык дрэміш толькі.

Гэткі нецярплівы, каб хутчэй ужо быў канчатак, а такі расьцярушаны, пакуль трываюць яны.

Гэткі нядбайлы ты пры ўсіх малітвах, гэткі халодны, калі адпраўляецца Імша сьв., ды зусім з сухою душою прымаеш сьв. Камунію.

Гэткі заўсёды расьцярушаны, так мала калі зважны ў думках сваіх.

Гэтак хутка кідаешся злавацца, гэтак лёгка іншага скрыўдзіць табе.

Гэткі сквапны ты іншага абгаварыць, ды гэткі востры караючы.

Гэткі вясёлы ў шчасьці, а такі нядужы пры турботах.

Гэтак шмат у цябе добрых намераў, а гэтак мала калі ў жыцьцё ты іх уводзіш.

**3.** Успомні на гэныя ды іншыя нястачы свае і, плачучы зь вялікім жалем над сваёю нядужасьцю, зрабі пастанову цьвёрдую бязупынна спраўляць ды дасканаліць сваё жыцьцё.

А потым з усенькую волею ды ахвотаю ахвяруй самога сябе на хвалу Іменьня Майго; а на алтары сэрца свайго аддавай Мне заўсёдную ахвяру сваю, гэта значыць — цела сваё і душу.

Гэткім чынам будзеш дастойным ты, каб прыступіцца да Божага алтара ды прымаць з карысьцю Сакрамэнт Цела Майго.

**4.** Няма ж больш дастойнае ахвяры ды вялікшай нагароды за грахі, як ахвяраваць сябе шчыра ды цалкам Богу, адначасна з ахвяраю Цела Хрыста ў Імшы ды прымаючы Камунію.

Калі чалавек зробіць, што толькі магчыма, ды сапраўды будзе шкадавацца за грахі, калі толькі прыдзе па адпушчэньне ды ласку, *жыву Я, кажа Пан, і сьмерці грэшніка не хачу, а хутчэй каб навярнуўся ды жыў, бо ня буду больш памятаць на грахі яго* (Эзх 33, 11), але ўсе яму дараваны будуць.

### Разьдзел VIII

*Аб ахвяры Хрыста на Крыжы*
*ды нашай Яму ахвяры сябе самых*

**1.** Гэтак як Я сам, выцягнуўшы рукі на Крыжы ды з голым Целам самахоць ахвяраваўся за грахі твае

Богу Айцу і нічога ўва мне не асталося, чаго б не пасьвяціў я ў ахвяру, каб выпрасіць выбачэньне гневу Божага.

Так і ты самога сябе, з сваёй ахвоты, штодзень пры сьвятой Імшы ахвяруй на ахвяру чыстую і сьвятую з усімі сіламі ды ўчуцьцямі, з целам і душой, як толькі здолееш.

Чаго ж іншага мог бы хацець я ад цябе, калі ня поўнае самаахвяры тваёй?

Не хачу нічога, каб даваў ты мне, бо хачу, каб ахвяраваў самога сябе.

**2.** Гэтак, як і табе ўсяго замала, калі не хапае Мяне, — так і мне ніякая ахвяра твая ня будзе ўспадобу без самога цябе.

Ахвяруй Мне самога сябе ды аддай цалкам дзеля Бога, дык будзе прынята ахвяра твая! Я ўсенькі ахвяраваўся Айцу за цябе, аддаў Я ўсё Цела сваё ды Кроў сваю, каб накарміць цябе — каб усенькі Я быў Тваім, а ты каб быў Маім.

Калі ж сам сябе будзеш глядзець, ды не ахвяруешся волі Маёй — ня будзе поўнае ахвяры ды ня будзе такой, як трэба, лучнасьці тваёй са Мною.

Дзеля таго няхай усенькія дзеі твае будуць папярэджаны самазрачэньнем ахвотным на рукі Бога Самога, калі хочаш карыстацца свабодаю ды ласкаю.

Бо дзеля гэтага так мала людзей асьвечаных і свабодных унутрана, што не патрапілі яны зрачыся зусім самых сябе.

Вось загад Мой заўсёдны: *Калі хто не зрачэцца ўсяго, што Мае, ня можа быць вучнем Маім* (Лк 14, 33). Дык калі ты хочаш быць вучнем Маім, ахвяруй сябе цалкам з усенькімі ўчуцьцямі сваімі.

### Разьдзел IX
*Самых сябе з усім сваім трэба Богу ахвяраваць ды маліцца за ўсіх*

**1.** Пане, усё Тваё, усё ў Небе і на зямлі.

Імкнуся і я ахвяравацца Табе самаахвотна ды Тваім быць заўсёды.

Пане, шчырым сэрцам ахвярую сёньня Табе самога сябе на заўсёднага слугу, каб вечна быў я Табе паслухмяны ды вечна хваліў я Цябе.

Прымі мяне з гэнаю сьвятою ахвяраю Твайго Цела дарагога, якое ахвярую Табе сёньня ў прысутнасьці анёлаў, нявідома асыстуючых, каб ахвяра гэта была збаўленьнем дзеля мяне ды ўсяго народу Твайго.

**2.** Пане, на малебным алтары Тваім кладу ўсенькія грахі ды правіны свае, якімі награшыў перад Табою ды сьвятымі анёламі Тваімі, пачынаючы ад хвіліны, калі першы раз я зграшыў, аж да гэтае пары: каб агнём любові Тваёй усё Ты запаліў і зьнішчыў нячыстасьці грахоў маіх, ды каб ачысьціў сумленьне маё ад усенькае правіннасьці, ды каб зьвярнуў назад Ты ласку сваю, якую запрапасьціў я, грэшачы, ды каб усё мне дараваў, дапушчаючы да сябе міласэрна ў пацалунку згоды.

**3.** Што ж патраплю я зрабіць за грахі свае, калі не пакорна прызнацца да іх, плакаць ды прасіць бязупынна, каб зжаліўся Ты нада мною?

Малюся да Цябе, выслухай мяне літасна; вось стаю я перад Табою, Божа мой!

Гіджуся ўсенькімі грахамі сваімі ды ніколі ўжо больш не хачу іх дапускацца, а жалею за іх і заўсёды буду жалеці, пакуль буду жыць ды пакутаваць буду, колькі хопіць сілы.

Даруй мне, даруй, Божа, грахі мае дзеля Імя сьвятога Твайго, ратуй душу маю, якую адкупіў Ты дарагацэннаю крывёю Сваёю.

Вось аддаю сябе міласэрнасьці Тваёй, аддаю сябе ў рукі Твае.

Рабі са мной паводле дабраты Твае, ня гледзячы на няпраўду ды на грахі мае.

**4.** Ахвярую Табе ўсё, што толькі ў мяне добрага, хаця няшмат яго дый недасканальна яно, каб Ты ўсё ачысьціў і асьвяціў, каб мілым яно Табе ды дастойным было Цябе, каб заўсёды да лепшага мяне Ты нахіліў, ды каб мяне ляноцьку ды мала карыснага чалавека да благаслаўлёнага ды шчасьлівага канчатку схацеў давесьці.

**5.** Ахвярую Табе ўсе пабожныя імкненьні людзей, усе справы бацькоў маіх, прыяцеляў, братоў, сёстраў, усіх дарагіх сэрцу майму, ды ўсіх тых, што мне ці іншым добра рабілі дзеля любові да Цябе.

І ўсіх тых, што хацелі малітваў ды каб адправіў Імшу я за іх і за ўсіх тых, што на зямлі гэтай жывуць ці даўно ўжо паўміралі.

Няхай усе яны спазнаюць падмогу ласкі Тваёй, вялікую пацеху, апеку ў небяспецы, каб свабодныя ад усенькіх караў магчымых ды ад усякага ліхоцьця — заўсёды складалі Табе хвалу і падзяку.

**6.** Ахвярую яшчэ Табе просьбы ды малітвы за тых адумыслова, што скрыўдзілі мяне нечым, ад якіх я сумаваў, якія мяне абгаварвалі ды рабілі шкоду і крыўду.

За тых яшчэ ўсіх, каму я сам быў прычынаю сумаваньня, зь якіх я зьдзекаваўся, каго я згоршыў або скрыўдзіў словам, ці дзеючы сьведама ці ня хочучы: каб усім нам аднолькава дараваў Ты грахі нашыя ды ўзаемныя крыўды.

Вырві, Пане, з сэрцаў нашых благія падазрэньні, злоснасьць, гнеў ды сваркі, усё, што толькі любоў брацкую астуджала б і зьменшавала б.

Зжалься, зжалься, Пане, над намі, што просім Тваёй міласэрнасьці, дай нам ласку, да якое імкнёмся, і зрабі, каб мы былі дастойнымі карыстацца ласкаю Тваёю ды прышлі да жыцьця вечнага. Амэн.

*Працяг будзе.*



# «КВЕТАЧКІ» ПА-БЕЛАРУСКУ:
## пасляслоўе перакладчыка

Часопіс «Наша вера» друкаваў пераклад «Кветачак» святога Францішка на беларускую мову ажно з 2007 года. Публікацыю вельмі прыхільна сустрэлі чытачы і каталіцкая грамадскасць, больш за тое, як мне казалі ў рэдакцыі, многія чытачы нават збіралі нумары часопіса, каб мець гэты твор цалкам. Цяжка паверыць, што праца скончаная і ўсе гісторыі з жыцця святога Францішка ўжо пабачылі свет, няхай і ў часопісным варыянце, і што замест словаў «працяг будзе» дастаткова паставіць кропку.

Перакладаючы, мы не толькі робім набыткам сваёй мовы творы сусветнай літаратуры і культуры, але і вучымся, прапускаем праз сябе тэксты, якія напаўняюць нас сваёю мудрасцю і багаццем, асабліва, калі гэтыя творы былі напісаныя амаль сем стагоддзяў назад.

Хочацца спадзявацца, што неўзабаве беларускія чытачы атрымаюць магчымасць мець «Кветачкі» святога Францішка асобным выданнем і што гэтая кніга парадуе і ўзбагаціць усіх нас.

У якасці невялікага працягу «Кветачак» я прапаную чытачам «Нашай веры» ў сваім перакладзе верш сучаснага італьянскага паэта Джанні Д'Элія, прысвечаны святому Францішку.

*Аксана ДАНІЛЬЧЫК*

**Аксана Данільчык** — кандыдат філалагічных навук, перакладчыца. Закончыла філфак БДУ і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Аўтар зборнікаў вершаў «Абрыс Скарпіёна» (1996), «Il Mezzogiorno. Поўдзень» (2006), «Сон, які немагчыма забыць» (2011) і кніжкі вершаў для дзяцей «Павуцінка на агрэсце» (2005). Перакладае з італьянскай мовы, займаецца даследаваннем беларускай і італьянскай літаратуры. Жыве ў Мінску.

Джанні Д’Элія

# Простая белая старонка

Той, што свой плашч прасцірае табе пад ногі,
магчыма, быў нашым продкам, нябогам
з таго сялянскага дахрысціянскага роду,
з якога ўсе нашыя сем’і ўзняліся,
аж да самых юных нашчадкаў,
якія вучылі: наш продак даўні,
дзівак неадукаваны,
ужо тады аб тваёй велічы здагадаўся.

А ты яшчэ не быў прызнаным святым,
але як сапраўды святы спасцігаў людское
раней, чым Укрыжаваны гаварыў з табою.
Ты глядзеў акурат на Яго тым ранкам,
а Ён – на цябе, калі ўкленчыў,
згінаючы спіну і трымаючы пасцелены плашч,
каб ты на ім след свой пакінуў.

Што сёння мы можам пакласці табе пад ногі,
акрамя простай белай старонкі?
Мы, свецкія дзеці нашага далёкага
і няпэўнага бацькі,
з якім святло Джотто дапамагло нам сустрэцца,
адлюстраваўшы расповед, што застанецца
на муры, пакуль на ім будзе фрэска...

І ты, што стаўся вытокам італійскае песні,
першым паэтам нашае мовы і самым вялікім,
бо пахрысціў жывыя сапраўдныя рэчы
імем братэрскім слоўных абдымкаў,
ты на наш плашч папяровы ступаеш,
бо сапраўдная паэзія без літасці не бывае...



Просты чалавек прадказвае славу святому Францішку. Фрэска Джотто ў базыліцы святога Францішка ў Асізі.



Францэско Пагано «Арханёл Міхал», XV ст., Неапаль.

Айцец Пётр Рудкоўскі ОП

# «МІ-КА-ЭЛЬ»? ПЫТАННЕ ПРА ЛІДАРСТВА Ў БЕЛАРУСІ

*Не май іншых багоў, апроч Мяне...*
(Зых 20, 3)

Вось ужо больш як пяць гадоў удзельнічаю ў дэбатах, прысвечаных праблеме «самавызначэння Беларусі», і няспынна сустракаю набор тых самых, набіўшых аскоміну, пытанняў: *хто такія беларусы? што ўтварае / павінна ўтвараць стрыжань беларускай тоеснасці? куды беларусам трэба рухацца? якая беларуская нацыянальная ідэя? хто — нацыятворчыя героі для Беларусі?* І сярод гэтых вельмі абстрактных пытанняў ігнаруецца адно вельмі канкрэтнае пытанне: *хто — Бог Беларусі?*

У палітычных або культурніцкіх колах гэтае пытанне не прынята задаваць. У такім разе хай яно будзе пастаўлена ў коле тых, хто — як трэба спадзявацца — штодзень клічуць: «Ойча наш, каторы ёсць у небе, прыйдзі Валадарства Тваё!» Хай разгорнуцца гэтыя словы ў якасці рэфлексіі над актуальным станам нацыянальных падмуркаў, г. зн. *духоўнасці,* і над перспектывамі беларускага нацыянальнага адраджэння.

* * *

«*Ах, наколькі самотны горад, калісьці шматлюдны, як быццам удавою стаў ён, той самы, што калісь узносіўся па-над народамі і валадарыў над караблямі; зараз прыгнёт, быццам раб, спазнае*», — так пачынаецца «Плач Ераміі». У VI стагоддзі да нараджэння Хрыста ізраэльскі народ быў пазбаўлены сваёй святыні, сваіх нацыянальных сімвалаў і нават сваёй зямлі. І не было моцных

---

**Айцец Пётр РУДКОЎСКІ ОР** — багаслоў, філосаф. Нарадзіўся ў 1978 г. у мястэчку Канвэлішкі, на Гродзеншчыне. У 2000 г. уступіў у дамініканскі ордэн. Абараніў магістарскую дысертацыю па багаслоўі ў дамініканскім калегіуме ў Кракаве і па філасофіі ў Ягелонскім універсітэце. У 2010 г. прыняў святарскае пасвячэнне. Займаецца сацыяльнай этыкай і метадалогіяй навук, выкладае логіку і метадалогію ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце. Аўтар кніг «Паўстаньне Беларусі» (Вільнюс, 2007), «Białoruska idea narodowa w XXI wieku» (Люблін, 2008) і шматлікіх артыкулаў.

лідараў, здольных вывесці яго з няволі. Гэта быў стан калектыўнага зняволення.

Можна выдзеліць некалькі стадыяў калектыўнага зняволення. Першая стадыя: народ трапляе ў няволю, але выразна адрознівае сябе ад прыгнятальнікаў, культывуе свае традыцыі і мае волю да вызвалення.

Другая стадыя: народ трапляе ў няволю, адрознівае сябе ад прыгнятальнікаў, але сілаю абставінаў і з-за свайго занядбання страчвае свае традыцыі і мірыцца са станам няволі.

Трэцяя стадыя: народ трапляе ў няволю і перастае адрозніваць сябе ад прыгнятальнікаў. Гэта сітуацыя, калі народ зняволены не толькі палітычна, але і духоўна. Прыгнятальнік у гэтым выпадку мае такую ўладу над сваёй ахвярай, што можа праслаўляць сябе вуснамі ахвяры. Гэта тая стадыя, калі народ ставіць помнікі сваім уласным крыўдзіцелям, плюе на магілы сваіх братоў, праслаўляе сваіх катаў і з пагардаю гаворыць пра змагароў за вызваленне. Гэта стадыя мазахістычнага самазнішчэння, калі ў ранг нормы ўведзена тое, што прыніжае нацыянальны гонар чальцоў народу, а анамаліяй лічыцца ўсялякая спроба нацыянальнага самасцвярджэння.

На якой стадыі знаходзіцца Беларусь? Пакідаю гэтае пытанне чытачам для асабістага распазнання.

Вернемся, аднак, да сітуацыі ізраэльскага народу з VI ст. да нар. Хрыста. Гэты народ: 1) пазбаўлены святыні; 2) пазбаўлены нацыянальных сімвалаў; 3) пазбаўлены зямлі; 4) не мае моцных лідараў. Ці для Бога гэта была праблема?

«*Так кажа Пан свайму памазанніку Кіру: Я трымаю моцна ягоную правіцу, каб пакарыць перад абліччам ягоным народы і развязаць паясы каралёў; <...> дзеля слугі майго Якуба і Ізраэля, выбранніка майго, я назваў цябе іменем тваім*» (Іс 45, 1.4). Хто такі Кір? Гэта лідар персаў, які кінуў выклік бабілонскай імперыі, што трымала ў няволі ізраэльскі народ. Гляньма: язычнік, чужы ізраэльскаму народу ментальнасцю і норавамі, становіцца для гэтага народу *памазаннікам*. Інакш кажучы, нават такі недасканалы інструмент можа быць выкарыстаны Богам гэтак дасканала!

Вельмі важна, каб беларускі народ распазнаў *свайго* памазанніка. Гэтым памазаннікам з'яўляецца ўжо *не* язычнік, чужы нам норавамі і ментальнасцю; гэта ўжо *не* лакальны ўладар, чыё валадарства не сёння, дык заўтра скончыцца; гэта *не* залежны ад чалавечых фактараў лідар, які ўвесь час павінен баяцца за сваю пасаду. Гэта Той, пра каго пісаў прарок Даніэль: «*І дадзена Яму была ўлада, і гонар, і валадарства. І ўсе народы, плямёны і мовы служылі Яму. Улада Ягоная — вечная ўлада, якое не адымецца. І валадарства Ягонае не будзе знішчана!*» (Дан 7, 14). Гэта таксама Той, пра каго на гары Табор казаў Голас з неба: «*Гэта Сын Мой выбраны, Яго слухайце*» (Лк 9, 35).

Езус Хрыстус — гэта сапраўды *магутны* Валадар, а да таго ж Ён, праз Уцелаўленне, упадобніўся да нас. Такім чынам, Ён – *адзін з нас*, падобны да нас ва ўсім, апроч граху. І калі благаслаўлёны Ян Павел II на інаўгурацыі свайго пантыфікату заклікаў: «Адчыніце дзверы Хрысту!», то меў на ўвазе ні што іншае, як неабходнасць распазнаць свайго Памазанніка. Нешта падобнае казаў папа Пій XI у 1925 годзе, калі ўстанаўліваў свята Хрыста-Валадара: «*Моцна спадзяемся, што ўрачыстасць Хрыста-Валадара, якую ад гэтага моманту штогод будзем святкаваць, верне зноў грамадства да ўзлюбленага Збаўцы*» (*Quas primas*).

Пытанні пра беларускую нацыянальную ідэю, стрыжань беларускай тоеснасці, нацыятворныя сімвалы, геапалітычнае самавызначэнне і г.д. будуць і застануцца бясплоднай інтэлектуальнай гульнёй да той пары, пакуль мы не адкажам на фундаментальнае пытанне: *хто – Бог Беларусі?* Ніякія культурныя праекты або палітычныя ініцыятывы не адродзяць Беларусі, калі яны будуць мець у сабе ігнараванне або варожасць да Хрыста-Валадара.

* * *

...Беларусы любяць распавядаць анекдот пра сябе, у якім гаворыцца, што Бог, маўляў, даў нам усё самае лепшае і найпрыгажэйшае (урадлівыя землі, густыя лясы, сінія азёры) і саміх учыніў цярплівымі і працавітымі. Але — гаворыцца ў гэтым анекдоце — «дзеля раўнавагі» Бог даў беларусам найгоршае начальства. Гэты анекдот фальшуе адну рэч: праблема не ў тым, што «Бог даў» дрэннае начальства. Праблема ў тым, што беларусы да гэтага часу не прызналі свайго Дабрадзея — Пана Бога — сваім Валадаром.

Хто ж як не Бог? — гэтае пытанне, змешчанае ў імені галоўнага Апекуна Беларусі арханёла Міхала (*мі-ка-эль* — хто ж як не Бог?), увесь час застаецца без адказу. А тым часам *толькі Бог* можа знішчыць і выгнаць язычніцкіх ды бальшавісцкіх багоў, якія дасюль няволяць наш народ.

# Такі ён быў...



Ксёндз Казімір Свёнтэк і ксёндз Станіслаў Рыжко пасля вяртання з ссылкі. Пінск, 1957 г.

*Запісы ксяндза Станіслава Рыжко пра жыццё і дзейнасць ксяндза Казіміра Свёнтка ахопліваюць перыяд 1954–1984 гадоў. Абодва святары былі сасланыя савецкімі ўладамі ў Сібір. Ім абодвум пашчасціла вярнуцца ў Пінскую дыяцэзію: кс. Казіміру пасля 10 гадоў зняволення ў Інце, а кс. Станіславу — пасля 7 гадоў у Омску. Кс. Казімір Свёнтэк стаў пробашчам у Пінску, а кс. Станіслаў Рыжко — у Лагішыне, аддаленым на 28 кіламетраў. Яны падтрымлівалі паміж сабою цесныя адносіны, якія спрыялі развіццю ўзаемнага даверу і сяброўства, а таксама супольнай дзейнасці, скіраванай на збаўленне даручаных ім вернікаў і справаў Касцёла.*

*У гэтым матэрыяле зроблена спроба перадаць сутнасць запісаў кс. Станіслава Рыжко, каб паказаць асобу кс. Казіміра Свёнтка і нагадаць пра некаторыя старонкі яго біяграфіі з таго перыяду, калі абодва святары вярталіся, па меры сваіх магчымасцяў, да нармальнага жыцця ў зняволеным жорсткаю матэрыяльна-атэістычнаю сістэмаю грамадстве падчас кіраўніцтва пяці правадыроў СССР, пераемнікаў Леніна і Сталіна.*

*Кс. Станіслаў не дачакаўся перабудовы, ён памёр 1 снежня 1984 года ў Лагішыне і быў пахаваны на мясцовых могілках. Памяць пра гэтага святара з удзячнасцю захоўваюць мясцовыя жыхары.*

...Ксёндз Казімір прытуліў у сябе бяздомнага кс. Станіслава, даўшы яму прапіску па сваім адрасе ў Пінску па вул. Шаўчэнкі, 12, і такім чынам дапамог яму лягчэй атрымаць дазвол ад дзяржаўных уладаў на вядзенне пастырскай дзейнасці, бо ён меў магчымасць весці афіцыйную і прыватную перапіску.

4 красавіка 1957 г. кс. Рыжко атрымаў дазвол на працу ў Лагішыне, але дом кс. Казіміра надалей заставаўся яго месцам жыхарства. Кс. Станіслаў часта прыязджаў сюды, каб паразмаўляць з кс. Казімірам (часам размовы доўжыліся да позняй ночы), каб разам прачытаць лісты, якія прыходзілі на пінскі адрас ад знаёмых і сваякоў з Польшчы, каб разам прагуляцца па ваколіцы.

Пасля трыццаці гадоў сапраўднага братэрскага сяброўства кс. Казімір падрыхтаваў кс. Станіслава да шляху ў вечнасць, удзяліўшы яму святыя сакрамэнты (апошняе намашчэнне адбылося 27 жніўня 1984 г.), а пасля арганізаваў яму братэрскае пахаванне. На пахаванні кс. Свёнтэк закончыў сваю прамову словамі: «Да пабачэння, шаноўны сябра, да сустрэчы ў шчаслівай вечнасці! Амэн!» Хто зможа зразумець таямніцу братэрскага сяброўства гэтых двух Божых працаўнікоў, якія падтрымлівалі адзін аднаго да канца свайго зямнога жыцця?

...Нягледзячы на тое, што кс. Казімір Свёнтэк быў маладзейшы за кс. Станіслава Рыжко на 4 гады, гэты маладзейшы ствараў для старэйшага пачуццё бяспекі, умацоўваючы ў ім «імунітэт» да пастаяннай слежкі з боку чыноўнікаў па справах рэлігій і веравызнанняў. Ён ахвотна даваў яму парады, а яны былі трапныя, бо кс. Казімір меў у сабе сілу заўсёды *sentire cum Ecclesia**.

Кс. Казімір тлумачыў (чыноўнікам) важнасць касцёльных урачыстасцяў, напр., Унебаўшэсця Пана, і неабходнасць пастырскай паслугі ў гэты дзень, асабліва тады, калі яго выклікалі на размову падчас касцёльнай урачыстасці і нават калі яго выклікаў абласны кіраўнік па справах рэлігій і веравызнанняў.

Кс. Свёнтэк запярэчыў старшыні сельсавета, калі той хацеў спыніць набажэнствы ў касцёле і царкве, быццам бы ў сувязі з эпідэміяй яшчура. Святар сказаў, што калі пад такі загад не трапілі іншыя аб'екты масавага збору людзей, напр., клуб, школа, то і святыні не павінны зачыняцца. Ён настойліва прасіў старшыню сельсавета патэлефанаваць абласному кіраўніцтву і прывесці яго аргументы. Святар і парафіяне моцна радаваліся, калі загад сельсавета ўсё ж удалося адмяніць.

Да размовы з дзяржаўнымі служачымі кс. Казімір стараўся далучаць свецкіх людзей, перадусім тых, хто ўваходзіў у парафіяльны камітэт у Пінску ці ў Лагішыне, г. зв. «людзей Касцёла». Заслужаных перад Касцёлам людзей ён вельмі паважаў.

* *Sentire cum Ecclesia* — стаяць на баку Касцёла.

Кс. Казімір Свёнтэк асабліва змагаўся за вызваленне ад абавязку пастаянна прасіць згоды кіраўніка па справах рэлігій і веравызнанняў на замену або дапамогу ў пастырскай дзейнасці іншаму святару. Гэты вышэйшы кіраўнік, калі хацеў, то праяўляў сваю літасць, вызначаючы акрэслены час для замены або нават гадзіны дапамогі іншаму святару ў пастырстве.

...Ксёндз Казімір быў выдатным прапаведнікам: ён ахвотна прамаўляў на парафіяльных адпустах, юбілеях святароў, на пахаваннях. Ён клапаціўся пра хворых святароў, асабліва пра свайго хворага сябра кс. Станіслава Рыжко, які спачатку лячыўся ў Пінску, а калі ўзнікла патрэба звярнуцца да іншых спецыялістаў, кс. Казімір, не раздумваючы, вырашыў, што далейшы курс лячэння павінен праходзіць у Вільні. 25 лістапада 1981 г. ён наняў машыну, каб завезці сябра ў віленскі кардыялагічны шпіталь. Пасля заканчэння курса лячэння пінскі святар пад асабістаю апекаю прывёз яго ў Лагішын.

Юбілей 25-годдзя святарства кс. Казіміра ў 1964 г. яшчэ больш умацаваў братэрства святароў і еднасць іх парафіяльных суполак. Юбіляр удзельнічаў у штомесячных духоўных сустрэчах святароў, арганізоўваючы іх у Пінску. Ён па ўласнай ініцыятыве сам дапамагаў святарам падчас пасілку.

Ксёндз Казімір меў матацыкл, які быў вельмі неабходным для наведвання святароў (у тым ліку і кс. Станіслава), для пастырскага служэння ў аддаленых ад Пінска мясцовасцях, а таксама для выезду на свой любімы занятак — лоўлю рыбы.

Ксёндз Казімір быў вельмі гасцінным. Дом па вуліцы Шаўчэнкі заўсёды быў адкрыты для ўсіх святароў, якія працавалі на Усходзе, а таксама прыязджалі з Польшчы.

...Ксёндз Казімір меў асаблівае набажэнства да Езуса, укрытага ў Найсвяцейшым Сакрамэнце, і пацвярджэннем гэтага з’яўляецца адно з цудоўных казанняў, прысвечаных Эўхарыстыі. Ён быў асаблівым шанавальнікам абраза Маці Божай Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці, для якога зрабіў капліцу ў пінскай катэдральнай базыліцы як падзяку за выратаванне жыцця ў савецкіх лагерах. 16 ліпеня 1980 года адбылося асвячэнне гэтай капліцы.

Кожны год, 16 мая, кс. Казімір разам з кс. Станіславам Рыжко накіроўваўся ў пілігрымку ў Янаў Палескі, месца мучаніцтва св. Андрэя Баболі, апекуна Пінскай дыяцэзіі. Ён перадаў езуітам цагліну, узятую са святыні ў Янаве, і камень — з таго месца, на якім раней стаяла капліца як памятны знак мучаніцкай смерці св. Андрэя Баболі. Яны былі ўмураваныя ў санктуарый св. Андрэя Баболі ў Варшаве.

...Кожны год, 22 студзеня, у Пінску, кс. Казімір цэлебраваў святую Імшу за 38 палякаў, якіх расстралялі немцы. Потым ён разам з кс. Станіславам ехаў на месца іх расстрэлу ў Янаў (цяпер Іванава), каб ушанаваць іх памяць, памаліцца аб вечным супакоі іх душаў. З асаблівым жалем сярод расстраляных яны ўзгадвалі свайго брата ў святарстве кс. Вітальда Івіцкага. У пінскай катэдры кс. Казімір змясціў памятную дошку з імёнамі забітых палякаў.

...Ксёндз Свёнтэк вельмі хацеў, каб Слуга Божы біскуп Зыгмунт Лазінскі быў вынесены да хвалы алтара. Ён паклапаціўся пра бяспеку яго рэліквій, калі з’явіліся спробы іх апаганьвання. З нагоды 50-годдзя з дня смерці Зыгмунта Лазінскага ён арганізаваў прыгожую ўрачыстасць у пінскай катэдры.

...Кс. Станіслаў лічыў кс. Казіміра вялікім артыстам, які адмыслова будаваў рухомыя батлейкі, а таксама выдатным бібліёграфам, бо ён меў шмат кніг, якія ахвотна пазычаў кс. Станіславу.

...Калі ў Лагішыне была сапсаваная фісгармонія, ксёндз Казімір палічыў, што яе можна адрамантаваць, і запрасіў майстра, якому ўдалося яе направіць, на радасць кс. Станіслава і ўсіх вернікаў. Дзякуючы яго намаганням быў зроблены таксама рамонт катэдры, званіцы, агароджы, аргана і рамонтныя працы ўнутры катэдры. Ён сам не толькі кіраваў усімі рамонтнымі працамі, але і прымаў у іх актыўны ўдзел. Кс. Казімір быў выдатным гаспадаром, сапраўдным Божым працаўніком, які не шкадаваў сябе нават тады, калі пачаў моцна пакутаваць ад хваробаў.

...Ксёндз Казімір наведваў сваю маму, якая жыла ў Польшчы, у Аполі. 11 красавіка 1981 г. ён паехаў у Польшчу, каб правесці яе ў апошні шлях.

*У запісах кс. Станіслава Рыжко кс. Казімір Свёнтэк паўстае як чалавек рашучы, дынамічны, адважны, свабодны і незалежны ў поглядах і дзейнасці. Ён творча развіваў у сабе і ў іншых усе хрысціянскія каштоўнасці, калі трываў час камуністычнага рэжыму, а яго ж у любы момант маглі зноў арыштаваць і саслаць у Сібір.*

*Ксёндз Казімір быў сапраўдным тытанам працы і «знакам супраціву». Гэты самаадданы святар з Пінска быў прадвеснікам новага часу і ўсё сваё ахвярнае жыццё працаваў дзеля адраджэння Касцёла і веры ў гэтым шматпакутным краі.*

*Падрыхтаваў ксёндз Станіслаў Паўліна fDP.*

*Паводле: Ks. Stanisław Ryżko. Kronika Kościoła rzymsko-katolickiego w Łahiszynie. Listy i notatki z lat 1956–1984. — Warszawa, 1995; ks. Stanisław Ryżko. Trzeba zostać. — Lublin, 1999.*



# Успаміны, якія цешаць душу

У жыцці кожнага чалавека надыходзіць такі момант, калі вельмі хочацца ведаць і расказваць пра сваё мінулае, пра сваіх продкаў. Усё маё жыццё — гэта праява Божай міласэрнасці. Бог падараваў мне самую лепшую, самую светлую маму. Даў жыццё ў той благаслаўлёны час, калі нашы шляхетныя засценкі (не хачу называць іх вёскамі) былі поўныя людзей, калі ў кожнай хаце было сама меней 5–6 чалавек, калі, адыходзячы, дзверы ў хаце замыкалі толькі на малюсенькі кручок, улетку спалі з адчыненымі вокнамі, а ў нядзелю працавалі толькі ў адным выпадку – калі здараўся дождж, а на сенажаці ляжала сухое сена. Божая міласэрнасць была і ў тым, што мы перажылі вайну, што нас абмінуў страшны лёс. Тады не было ніякіх садзікаў, і дзяцей выхоўвала вуліца і бабулі, бо бацькі працавалі.

Родныя мае Ніціеўскія! Маленькая кропачка на карце маёй Беларусі, маленькі шляхетны засценак! Калі думаю пра яго, думкі разлятаюцца па наваколлі. Чаму? Усё вельмі проста: Ніціеўскія знаходзяцца ў цэнтры астраўка шляхетных засценкаў: Шабуні, Падляддзе, Сукаўцы, Маркаўцы, Мякаты, Тамашэвічы, Баханы. І ўсе яны былі звязаны радством, верай, прыроджанай шляхетнасцю. Розныя людзі жылі ў іх — добрыя і не зусім, але ўсе яны былі шчырыя працаўнікі, якія верылі ў Бога і баяліся Бога. На жаль, цяпер гэтыя засценкі пусцеюць, ператвараюцца ў дачныя пасёлкі. Многім здаецца, што ў гэтых мясцінах няма нічога цікавага. А для мяне — гэта рай! Колькі разоў, калі выходзілі з аўтобуса ў Самалёве, захоплівала дух: «Божа, ты выгнаў з раю Адама і Еву, але ж Ты стварыў тут на зямлі райскую прыгажосць!»

Не пашанцавала нашым Ніціеўскім у гістарычным сэнсе. Паважаны Аляксандр Ельскі, які напісаў столькі артыкулаў пра вёсачкі Беларусі ў «Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага і другіх краёў славянскіх» і нават пералічыў прозвішчы тых, хто жыў у той час у Шабунях, у Тамашэвічах (гэта былі 1880–1895 гг.), засценак Ніціеўскія назваў Мацieўскія. Ельскі таксама пазначыў, што засценак да 1882 г. належаў да анопальскай рыма-каталіцкай парафіі, пасля — да кальварыйскай. Зямля спачатку была ўласнасцю Радзівілаў, потым — Вітгенштэйнаў і Чапскіх.

Дарагія мае Шабуні, любы край мой! Здаецца, што там іншы свет, што там льецца незвычайнае святло. Такое ж святло ў сонечны дзень льецца ў

мінскай катэдры. Дзесьці давялося прачытаць, што да зняважання катэдры на яе сценах была фарба з залацістымі крапінкамі, каб стваралася адчуванне пяшчоты і цеплыні. Не магу выказаць гэта словамі, але, скарыстаўшы музычны тэрмін, можна сказаць, што гэта святло мажорнае. А каля нашага роднага касцёла святло мінорнае і, відаць, таму што побач знаходзяцца магілкі родных людзей.

Усе мае ўспаміны і аповеды звязаны з тым родным куточкам, у які ўваходзілі вёсачкі Падляддзе і Шабуні Пухавіцкага раёна, Ніціеўскія, Тамашэвічы і Баханы Уздзенскага раёна. Адлегласць паміж імі складала 2 кіламетры. У нядзелю мы з мамаю прыходзілі ў Шабуні. Па вёсцы на лавачках сядзелі жанчыны ў белых хусцінках «падцеляпень», у светлых сукенках або кафтанах. Тады я думала, што ім хораша тут жыць. Калі ў 1950-я гады мая цёця з Шабунёў прыходзіла ў госці, то зайздросціла, што ў нас на стале заўсёды быў хлеб, накрыты настольнікам. Толькі праз гады я зразумела, што на самай справе жыццё іх было цяжкае. Але ўсё ж яны былі шчаслівыя, і гэта шчасце было ў веры. У іх быў касцёл, касцёл святога Роха! Да 1937 г. у святыні яшчэ працаваў ксёндз, а пасля вайны, на жаль, яго не стала. Быў касцёл, былі абразы, была Ганунька Дэмская — вартаўніца касцёла. Помню яе маленькую, сухенькую бабулечку. Мае аднагодкі згадвалі, як у суботу прыходзілі з Ганунькай прыбіраць касцёл, ставіць букеты, а ў нядзельку маліліся. У Ганусьчынай хатцы ў 1937 г. мае тата і мама бралі шлюб. У той год выдалася вельмі халодная зіма і ў касцёле было халадней, чым на двары, таму шлюб удзялялі ў



хаце. Гэтая хата стала як бы касцёльнай — там спыняліся святары, праводзілася катэхізацыя.

У савецкі час касцёл зачынілі, таму перад святам Божага Нараджэння галоўнаю была Вігілійная вячэра ў коле сям'і. Стол на куццю накрывалі пад абразамі. Чыгунок з куццёй (пярловай кашай) ставілі на сена, засланае белым абрусам. Вячэру бацькі пачыналі малітвай «Ойча наш...». На жаль, Бібліі ні ў кога не было. Пасля таго, як пачалі арыштоўваць і высылаць людзей, людзі баяліся трымаць дома не толькі рэлігійныя кнігі, а нават савецкія з літарай «яць». Тым часам за вігілійным сталом усе бралі па крышынцы аплаткі. Хоць святароў не было, але ў нас заўсёды была аплатка, якую прывозілі або з Краснова (п. Краснае Маладзечанскага раёна), або з Вільні, або з Нясвіжа. Родныя або знаёмыя з іншых засценкаў перадавалі адзін аднаму хоць палавінку. Мама хавала аплатку цэлы год у куфры. Як жа нам, малым, хацелася пакаштаваць яе! Але мы ведалі, што да Вігіліі — нельга, і ніколі не парушылі правіла. Ці было на стале 12 страваў? Не ведаю! Толькі добра памятаю, што быў селядзец, рыба, што-небудзь з грыбоў, былі аладкі, запраўленыя цёртым макам з цукрам. Мак заўсёды церлі ў маленькай каменнай ступцы — цёрле. У канцы вячэры трэба было абавязкова з'есці хоць адну лыжку кашы з падсаложанай вадой. Нам, дзецям, казалі, што хто з'есць лыжку кашы, таго не будуць летам кусаць камары...

Велікодныя святы... Здавалася, што ўвесь засценак жыў гэтай светлай радасцю! Мы прыбіралі ў хаце, бялілі печы, мылі столь. Вербачкі звычайна асвячалі ў Краснове: хто-небудзь з суседзяў ездзіў у касцёл, а пасля з усімі дзяліўся. Велікоднаю раніцаю мы ўмывалі твары вадою з мядніцы, куды клалі асвячонае яйка. Потым дзеці націралі чырвоным яйкам шчокі, каб яны былі ружовыя. У гэты дзень не палілі печ: ежа была святочная, прыгатаваная ў суботу. За святочным сталом найперш з'ядалі па кавалачку яйка,

пасыпанага асвячонаю соллю. Людзі збіраліся ў хаце, дзе быў радыёпрыёмнік і лавілі хвалю Польшчы, каб хоць крышачку паслухаць Божае слова. На першы дзень свята ў госці не хадзілі, толькі дзеці ішлі па хатах сваіх родзічаў і суседзяў па яйкі. Яйкамі гулялі ў біткі, каталі іх па лубку. Выйграваў той, у каго яйка заставалася цэлым. Вечарам хадзілі валачобнікі. Памятаю толькі два словы з іх песні: «Пане госпадажу...». Вялікдзень у нас святкавалі тры дні. У сераду ўжо пачыналі працаваць, але не на зямлі, бо была «градавая» серада. У чацвер адзначаўся Вялікдзень памерлых — у гэты дзень ішлі на могілкі. Цікава, што гэта наша мясцовая традыцыя, яе нават прытрымліваліся і праваслаўныя ва ўсіх суседніх вёсках Мінскага раёна.



Існавала традыцыя наладжвання гасціны на хрэсбіны, дакладней, так было да 1937 года. Пасля 1937 г. святароў не стала, таму ўсе дзеці да 1941 г. заставаліся няхрышчанымі. Улетку 1941 года да нас у Шабуні прыехаў ксёндз Дзяніс Малец. Апошні яго душпастырскі візіт да нас адбыўся 17 кастрычніка, чакалі яго і на Божае Нараджэнне, але 15 снежня яго разам са Станіславам Глякоўскім арыштавалі немцы. Святар, які пахрысціў нас, г. зн. народжаных у 1937–1941 гады, загінуў у 33 гады. Пасля вайны ўсіх дзетак хрысцілі ў Краснове. На хрэсьбіны запрашалі радню, суседзяў. Госці прыносілі падарунак. Добра ведаю, што быў звычай «вазіць бабку». Гэта бабка павінна была першы раз купаць дзіця. Бабку садзілі ў малыя санкі або каламажку і вазілі па вуліцы з жартамі, абавязкова трэба было яе перакуліць...

Мой родны шабунёўскі касцёл: намолены, упрыгожаны нашымі дзядамі і прадзедамі. Пабудаваны наш касцёл у 1796 г., адноўлены ў 1860-м намаганнямі князя Вітгенштэйна. Дата пабудовы была выразана на парозе. У часе жудаснай халеры ўсе нашы жыхары, католікі і праваслаўныя, сабралі грошы і набылі абраз святога Роха. Як толькі яго змясцілі ў алтары, эпідэмія адразу ж адступіла. У час рэканструкцыі ў 1860 г. парогавую бэльку замянілі, бо яна зусім струхлела, і дата пабудовы засталася толькі ў гістарычных крыніцах. Апошні раз касцёл перабудоўвалі ў 1923–1924 гадах. Стрыечная сястра майго бацькі расказвала, што тады касцёл пашырылі, алтарную частку, не разбіраючы, цалкам перанеслі на ўсход. Гэта было магчыма без ніякай механізацыі, бо тады ў кожнай хаце было па двое-трое здаровых маладых мужчын ды яшчэ не надышлі жудасныя 30-я, якія спустошылі ўсе навакольныя вёскі. Алтар перамясцілі і дабудавалі сярэднюю частку — самую «маладую» частку касцёла. Канфесіянал і шафу ў сакрыстыі зрабіў Бахановіч Антоні, брат майго дзеда Канстанціна. Раней я думала, што ўся шалёўка ў касцёле з 1860 года, а высветлілася, што ў той час дошкі так апрацоўваць не маглі, таму столь і шалёўка, відаць, засталіся з 1920-х гадоў. Столь, сцены, канфесіянал, хоры да гэтага часу захавалі светлы колер дрэва. Усё выглядае так, як быццам зроблена толькі цяпер, а не 150 гадоў назад. На хорах стаіць арганчык (фісгармонія), які, вядома ж, не працуе. З усіх абразоў засталася толькі прыгожая рамка-фератрон у стылі барока, што неслі на працэсіі. Пасля 1971 г. у касцёле перакрылі дах — замянілі гонты на шыфер. У 1997 г. замянілі падлогу і слупкі на ганку, бо яны падгнілі. Вялікая мая віна, што дазволіла забраць іх на дровы. Яны былі прыгожыя, фігурныя, а цяпер, калі з'явілася надзея на рэстаўрацыю касцёла, ніхто не можа іх намаляваць, хоць і помняць іх усе.

Пастаяннага святара ў нас не было, звычайна яны прыязджалі з Анопаля. Дарэчы, у 1912–1914 гг. у шабунёўскім касцёле працаваў ксёндз Аляксандр Астрамовіч (Андрэй Зязюля), слынны святар і паэт. Цяпер мы ў касцёлах спяваем песню на яго словы: «Распачаўся пост вялікі, кайся Эвіна сям'я...».

З прыходам Саветаў пачаліся расправы над парафіянамі і святынямі. У 1937 г. энкавэдысты пазрывалі і параскідалі ў касцёле ўсе абразы. Людзі баяліся ісці ў святыню і паслалі дзяцей, каб яны развесілі абразы на месцы. На вялікі жаль, згаданая ўжо Ганулька Дэмская спаліла ўсе касцёльныя запісы, бо захоўваць іх было небяспечна. Некаторыя касцёльныя рэчы яна разам з жанчынамі закапала пад яблынькай. У 1990-я гады іх спрабавалі шукаць, але тых, хто іх ратаваў, не было ў жывых, таму нічога не знайшлі.



Калі ў 1941 г. да нас прыехаў ксёндз, яму адразу прынеслі хрысціць усіх дзетак. У гэты дзень пахрысцілі і мяне. Ксёндз цэлебраваў св. Імшу і праводзіў хрост па-беларуску. Пры немцах святары больш не прыязджалі, бо пачалася «партызанка».

Некаторыя нашы парафіяне спрабавалі ездзіць у Мінск на св. Імшу, але для гэтага трэба было выпісаць «аўсвайс» у нямецкім гарнізоне, што стаяў у Самалёве. Людзі згадвалі, што некалькі разоў у парафію з Вільні прыязджалі святары літоўцы і маліліся па-беларуску. У 1944–1946 гадах святары толькі зрэдку завітвалі ў парафію. Пасля вайны шабунёўскія парафіяне ездзілі ў Краснае, дзе працаваў касцёл, а ў сваёй святыні праводзілі маёвыя і ружанцовыя набажэнствы. Усе, хто перажыў вайну, лічаць, што іх выратаваў Бог і касцёл.

У 1992–1993 гг. у шабунёўскі касцёл некалькі разоў прыязджаў ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. У першы свой прыезд пасля Імшы ён сказаў, што трэба забраць абразы на рэстаўрацыю, і ўсе вернікі аж схамянуліся. Нам цяжка было ўявіць, што абразы можна вынесці з касцёла, што нейкі час іх не будзе. Але здарылася страшнае: у 1993 г. абразы зніклі... Яны былі сапраўднымі карцінамі на палатне, было іх шмат — абраз св. Роха, св. Ядвігі, Хрышчэнне Езуса ў Ярдане, Езус у цярнёвай кароне. У выніку засталося 13 рамачак, з якіх па-зверску вырвалі палатно. З касцёла як бы дасталі душу... Касцёл асірацеў, і разам з ім асірацелі ўсе мы. Тады было шмат шчырых вернікаў, а святара зноў не было. Звярнуліся да кс. Уладзіслава з просьбаю аб апецы над нашай парафіяй, то два разы ён прысылаў да нас свайго вікарыя кс. Сяргея Бараўнёва. Прыехаўшы да нас, ён удзяліў сваё прыміцыйнае благаслаўленне кожнаму верніку, людзі былі шчаслівыя, але хутка кс. Сяргея перавялі ў Беразіно — ізноў мы сталі нічыйныя.

З 1997 да 2004 г. св. Імшы ў касцёле не было, і толькі дзякуючы малітвам нашых людзей і ксяндзу прэлату Эдмунду Даўгіловічу ў 2004 г. у нашу парафію прызначылі ксяндза Сяргея Пекачава. Нарэшце пасля доўгіх гадоў атэізму пакрысе пачало аднаўляцца рэлігійнае жыццё. У 2009–2010 гг. знайшліся людзі, якія дапамаглі кс. Сяргею аднавіць касцёл, замяніць дах і згнілыя бярвенні. І вось упершыню пасля 1937 г., вясною 2010 года, у касцёле цэлебравалася святочная велікодная Імша.

Я пісала гэтыя ўспаміны з надзеяй заахвоціць яшчэ каго-небудзь апісаць гісторыю свайго касцёла, падзяліцца ўспамінамі. Час ляціць вельмі хутка, людзі адыходзяць у вечнасць, многае забываецца, а хочацца, каб нашы нашчадкі ведалі гісторыю сваёй парафіі і шанілі тое, што ім засталося ў спадчыну.

*Вікторыя Ніціеўская,*
*Мінск.*

1563 г. Дрэва, алей. 114x155 см.
Музей гісторыі мастацтва. Вена.



# Пітэр Брэйгель Старэйшы. Вавілонская вежа

Фламандскага мастака і графіка Пітэра Брэйгеля (к. 1525–1569) называлі і называюць Старэйшым, таму што ён быў заснавальнікам мастакоўскай дынастыі і бацькам двух мастакоў, якія працягнулі ягоную мастацкую традыцыю. Самым вядомым з іх з'яўляецца Пітэр Брэйгель Малодшы. Яшчэ пры жыцці Пітэра Старэйшага называлі «найдасканалейшым мастаком свайго стагоддзя», «новым Геранімам Босхам», а таксама Брэйгелем Сялянскім — за дэмакратызм ягонай творчасці, любоў да простага люду, за тое, што ён узняў «карцінкі з сялянскага побыту» ў сферу высокага мастацтва. Дагэтуль працягваюцца даўнія спрэчкі на тэму стылістычнага вызначэння ягоных карцін і гравюраў. Французскі мастацтвазнаўца Шарль дэ Тольнэ ў мінулым стагоддзі адлюстраваў геніяльную складанасць мастацкага светапогляду вялікага майстра: «У сваім захапленні багаццем матываў, у пэўнай схільнасці да дэкаратыўных рашэнняў Брэйгель яшчэ належыць канцу Сярэднявечча. Ураўнаважанасць яго кампазіцыі, ягоная мікракасмічная канцэпцыя прасторы выдаюць мастака Рэнесансу. Ягонае бачанне цэлага, перадача з'яваў прыроды ў трапяткой атмасферы вызначаюць барочнае мастацтва»[1].

Пітэр Брэйгель нарадзіўся ў нідэрландскай правінцыі Брабант, у горадзе Брэда або ў вёсцы Брогел непадалёк ад Брэда. Юнаком ён трапіў у Антвэрпэн, дзе пачаў навучацца гравёрнай справе ў майстэрні Пітэра Кука ван Альста, прыдворнага мастака імператара Карла V. У 1551 г. Брэйгель быў прыняты ў гарадскую гільдыю мастакоў і пачаў працаваць у майстэрні Гераніма Кока. У свайго мэтра ён упершыню ўбачыў гравюры з твораў Гераніма Босха. Маладога гравёра настолькі ўразілі вобразы Босха, што ён стаў сапраўдным прадаўжальнікам мастацкай манеры майстра. Але трэба прызнаць, што Брэйгель ніколі не быў эпігонам Босха (як многія іншыя мастакі той эпохі), а знайшоў свой шлях у свеце, адкрытым вялікім папярэднікам. Вядома, што Г. Кок часам нават падрабляў подпіс на гравюрах, выкананых Брэйгелем, і прадаваў іх як творы Босха.

У 1552–1553 гадах Брэйгель падарожнічае па Францыі, Швейцарыі, Італіі, узбагачаючыся натхненнем і досведам. У 1563 годзе ён пасяляецца з сям'ёй у Брусэлі.

Цікава, што Брэйгель тройчы звяртаўся да тэмы Вавілонскай вежы. Да нашага часу захаваліся яго венская карціна і меншы па памерах твор, які знаходзіцца ў Ратэрдаме. Выдатны нямецкі даследчык нідэрландскага і фламандскага мастацтва Макс Фрыдлэндэр выразна вызначыў сутнасць звароту паўночнаеўрапейскіх мастакоў Рэнесансу да Бібліі як крыніцы творчасці: «Біблію чыталі з захапленнем і інакш, чым раней, разумеючы свяшчэнны тэкст і пазнаючы сябе саміх у ім. У Бібліі людзі знаходзілі святую зямлю пад ваеннай акупацыяй і бачылі ў ёй, чытаючы Пісанне, сваю радзіму»[2]. Напрыканцы жыцця Пітэр Брэйгель стаў сведкам трагічных падзеяў на радзіме. Імперыя Габсбургаў разгортвала масавыя рэпрэсіі супраць насельніцтва нідэрландскіх правінцый. У Брусэлі дзейнічала карніцкая экспедыцыя герцага Альбы. Імперыя пасля стагоддзяў бязлітаснай эксплуатацыі багатых валадаранняў прыкладала намаганні для захавання сваёй улады над народам, які імкнуўся да незалежнасці. Распачыналася 80-гадовая вайна, у якой імперыялісты карысталіся рэлігійнай матывацыяй (барацьба супраць кальвінізму) для апраўдання сваёй палітыкі і ўлады. Не аднойчы ў сваіх творах Брэйгель праз прызму евангельскай тэмы непасрэдна перадаваў вобраз трагічнай рэчаіснасці свайго часу. Так, у карціне «Забойства немаўлятак» (1566) сярод тых, хто камандуе злачыннай акцыяй, бачна постаць імператара Карла V.

Карціна «Вавілонская вежа» намалявана мастаком на аснове Кнігі Быцця (11, 1–9). Пасля Сусветнага патопу людзі вырашылі пераўзысці Боскі твор. «І сказалі яны: Давайце збудуем сабе горад і вежу, вяршыня якой узнясецца да нябёсаў, і зробім сабе знак, каб не рассеяцца па паверхні ўсёй зямлі». Брэйгель паказаў у сваёй карціне найвышэйшы момант рэалізацыі каласальнага праекту апантанага пыхай чалавецтва. Вяршыня канструкцыі ўжо знаходзіцца па-над воблакамі, чалавечая воля, здаецца, трыумфуе над нябёсамі — праца кіпіць, зямное валадарства з задавальненнем назірае, як выконваюцца яго загады... Ды марнымі аказаліся намаганні пыхлівых: «І сказаў Пан: Вось адзін народ і адна ва ўсіх мова; і вось што пачалі рабіць, і не адступяцца яны ад таго, што задумалі ўчыніць. Сыдзем жа і змяшаем там мову іхнюю так, каб адзін не разумеў мовы другога. І рассеяў іх Пан адтуль па паверхні ўсёй зямлі, і яны перасталі будаваць горад».

Але ўсё гэта наперадзе. Пакуль што ўсё ладзіцца ў руках марных будаўнікоў. Чэшскі мастацтвазнаўца Ярамір Нойман так каментуе карціну: «Мы павінны захапляцца пластычнай грунтоўнасцю і энцыклапедычнай дакладнасцю мастакоўскага касмічнага вобразу. Рэдка калі ўдавалася злучыць у карціне столькі разнастайных рэчаў і працоўных дзеянняў у аўтэнтычным адчуванні жыцця»[3]. І сапраўды, у творы Брэйгеля паўстае касмічны вобраз, лепш не скажаш. Адчуваецца, што мастак думаў не пра эпізод з гісторыі аднаго горада, а пра драму ўсяго чалавецтва. Непасрэдна за недабудаванай вежай месціцца вялікі горад (зразумела, фламандскі паводле архітэктуры). За горадам да самых гор на даляглядзе распасцерлася зямля з лясамі, дарогамі і пагоркамі. Абапал сушы — магутная рака, якая ў правай частцы кампазіцыі хутчэй нагадвае мора: да мола прыстаюць вялікія і малыя караблі, порт таксама абслугоўвае вавілонскую будоўлю. Але ўсё гэта патрабуе ўважлівага разгляду і адкрыцця бясконцых дэталяў. На першым плане ў левай частцы кампазіцыі мастак паказвае большыя па маштабе постаці. Гэта легендарны заваёўнік Вавілона Німруд са світай і ахоўнікамі, якія пільнуюць працу з дзідамі ў руках, стоячы за ягонымі плячыма. Каранаваны Німруд у доўгай светла-фіялетавай мантыі прымае мітуслівыя тлумачэнні чыноўніка, які пакорліва схіліўся злева ад яго. А перад ім на ўсходні манер укленчылі работнікі-каменячосы (на выгляд — фламандскія прасталюдзіны). Яныператвараюць сваёй цяжкой працай каменныя глыбы ў гладкія пліты, з якіх будуецца вежа. Але надзьмуты дэспат упэўнены, што гэта менавіта ён з'яўляецца гаспадаром усіх працэсаў і з'яваў, што ўсё падуладна толькі яму. Ясна чытаецца з'едлівая іронія мастака, які амаль раствараe самазванага «дэміурга» ў макракосме краявіду.

Але галоўны персанаж карціны, безумоўна, сама Вежа, якая займае сваёй масай больш за палову выявы. Ужо сучаснікі мастака заўважылі ў шмат'ярусной пабудове канструкцыйныя рысы (перш за ўсё сістэму падвойных арак) рымскага Калізея, або інакш — цырка Флавіяў, пабудаванага ў І ст. Пабудову называлі Colosseum (Каласальны) яшчэ ў тую пару, калі на арэне цырка адбываліся гладыятарскія баі і дзікія расправы над хрысціянамі. Калізей на працягу тысячагоддзяў застаецца адным з галоўных сімвалаў паганскай пыхі імператарскага Рыма, які замахнуўся на валадаранне ўсім светам і назваў сваю імперыю *Pax Romana* — Рымскі Свет.

Вытанчаны, строгі рысунак, уласцівы манеры Брэйгеля, — таксама адметная прыкмета фламандскай школы. Каларыт карціны, пабудаваны на багатай нюансамі гаме жоўтых, карычневых і блакітных адценняў, прадыктаваны прыглушаным святлом неба, якое засцілі воблакі. Рэнесансавы мастак дэманструе сваё майстэрства ў перадачы розных стыхіяў прыроды і відаў чалавечай дзейнасці. Адчуваецца, што ён жыве ў эпоху Вялікіх геаграфічных адкрыццяў.

Але дыдактычная ідэя карціны выразна дамінуе ў яе вобразным ладзе. Паводле Боскай волі, чалавецтва існуе ў разнастайнасці і багацці нацыянальных моваў, культур і традыцый. Кожная імперыя з яе ўніформнасцю і «общепонятным языком» ёсць гвалтам над парадкам, усталяваным Усявышнім. І фламандцы, і беларусы — усе народы, якія існавалі пад імперскім панаваннем, — ведаюць, якім каштоўным ёсць дар Боскі: родная мова, нацыянальны дом — родная краіна. Народы ведаюць таксама, што вавілонскія вежы ўсіх імперый абрынуліся ў нішто. А здаваліся такімі магутнымі і непераможнымі...

*Валеры Буйвал*

[1] De Tolnay Charles. Tout l'oeuvre peint de Bruegel l'Ancien. — Paris, 1968. – C. 7.

[2] Friedländer Max J. Pieter Bruegel. — Berlin, 1921. – C. 20.

[3] Neuman Jaromir. Pieter Breugel. — Praha, 1965. – C. 39.

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.

На пачатку верасня ў Беларусі адбыўся VII Міжнародны каталіцкі фестываль хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм «Magnificat». Як і штогод, сёлета на фестывалі было шмат цікавых працаў беларускіх і замежных дакументалістаў, лепшыя з якіх журы адзначыла сваімі прызамі і ўзнагародамі. Але, бадай, самае вялікае дасягненне фестывалю — гэта тое, што ён заўсёды збірае шмат цікавых творчых людзей: рэжысёраў, сцэнарыстаў, кінакрытыкаў, журналістаў, гасцей з далёкага і блізкага замежжа. Новыя знаёмствы, кантакты, сяброўскія размовы і дыскусіі на самыя розныя тэмы заўсёды ўзаемаўзбагачаюць іх удзельнікаў, змушаюць да роздуму, дапамагаюць знаходзіць хрысціянскія арыенціры ў складаных духоўных і творчых пошуках.

У гэтым нумары квартальніка прапануем чытачам знаёмства з дзвюма цікавымі асобамі — італьянскім рэжысёрам Элізабэтай Кастанья і рускай манахіняй матушкай Сафіяй, якія не толькі распавядаюць пра сябе і сваю працу, але і разважаюць пра актуальныя праблемы сучаснага духоўнага жыцця.

*Крыстына Лялько,*
*старшыня журы фестывалю «Magnificat».*

# «Я планую стварыць фільм-трыпціх, прысвечаны Багародзіцы...»

## Гутарка з італьянскім рэжысёрам Элізабэтай Кастанья

*— Элізабэта, раскажыце, калі ласка, крыху пра сябе.*

— Я працую на тэлеканале «RAI», у адной з рэдакцый, якая знаходзіцца, можна сказаць, на яго перыферыі і звязана з культураю, у праграме «Гісторыя — гэта мы». Праграма ў асноўным ахоплівае гісторыю мінулага стагоддзя, а да рэлігіі я звярнулася выпадкова: гэтая тэматыка глыбока захапіла мяне асабіста, таму я стала ёю займацца.

*— Вы паходзіце з веруючай сям'і?*

— Я паходжу з каталіцкай сям'і, але не практыкуючай.

*— Што менавіта падштурхнула Вас зацікавіцца рэлігійнаю тэматыкаю?*

— Да пэўнага часу я была агностыкам. Мне даводзілася сустракацца з веруючымі людзьмі, і напачатку я ставілася да іх нецярпіма і агрэсіўна. Але трэба было весці з імі дыялог, таму я старалася іх прымаць, аднак трымалася ад рэлігіі на адлегласці...

У сваёй працы мне аднойчы давялося сутыкнуцца з цікавым персанажам, якога звалі Ларэнцо Мілані. Гэта была выключная асоба ў гісторыі! Магчыма, з яго і пачалося маё захапленне рэлігіяй. Я зрабіла фільм, прысвечаны яму, і на фестывалі «Magnificat» у 2009 годзе атрымала за яго прыз. Мяне захапіла ў гэтым чалавеку тое, што ён, з'яўляючыся такою незвычайнаю, значнаю асобаю, прыраўніваў сябе да самых «апошніх» людзей, «адкідаў» грамадства.

Потым я прачытала кнігу Антоніо Соччы пра аб'яўленні ў Фаціме. Так атрымалася, што нейкі час я хварэла, доўга была прыкаваная да ложка, і маці пакінула мне пачытаць гэтую кнігу. Я абыякава пачала яе перагортваць і раптам зацікавілася... Раней усялякія пілігрымкі, абразы мне здаваліся нечым штучным. Але ўсё змянілася, і цяпер я сама хаджу ў пілігрымкі.

*— Вы былі ў Фаціме?*

— Я ездзіла ў якасці турысткі ў Лісабон і пабывала таксама ў Фаціме. Калі мы з мужам прыехалі туды ўпершыню, то адразу, выйшаўшы з машыны, убачылі мноства маленькіх крамаў, дзе прадаваліся розныя рэчы, звязаныя з фацімскімі аб'яўленнямі. Мне стала прыкра: як можна на гэтым зарабляць? Муж сказаў: «Ты ідзі, а я нікуды не пайду, застануся тут»...

Я зацікавілася гісторыяй трох пастушкоў, стала чытаць пра гэта шмат кніг і сапраўды веру, што Божая Маці працягвае даваць нам свае пасланні, але мы іх ігнаруем, не заўважаем.

Я зняла фільм пра Фаціму, затым — пра аб'яўленні Маці Божай у Меджугор'і, а цяпер зацікавілася Маці Божай з Чывітавекк'і, якая плача крывавымі слязьмі, таму што Яе не слухаюць. Такім чынам, я планую стварыць фільм-трыпціх, прысвечаны Багародзіцы.

*— Элізабэта, на гэтым фестывалі «Magnificat» мы з цікавасцю паглядзелі Ваш фільм пра аб’яўленні Маці Божай у Меджугор’і. Памятаю, калі я была ў Меджугор’і, гэтае месца зрабіла на мяне вельмі вялікае ўражанне... Наколькі важным Вам здаецца Меджугор’е ў Марыйных аб’яўленнях?*

— Меджугор’е адметнае тым, што там Божая Маці працягвае аб’яўляцца кожны месяц. Калі ты там знаходзішся, то проста адчуваеш гэта, можаш увачавідкі судакрануцца з пасланнямі Марыі... Фаціма для мяне заўсёды будзе першаю, своеасаблівым «маяком», таму што з яе пачыналася маё зацікаўленне Марыйнымі аб’яўленнямі. А Меджугор’е — гэта маё духоўнае, унутранае перажыванне...

*— Як Вы лічыце, калі Ватыкан прызнае Меджугор’е, калі афіцыйна дазволіць пілігрымкі са святарамі? Калі закончацца аб’яўленні ці, можа, усё ж такі раней?*

— Пра гэта мне цяжка штосьці сказаць. Ходзяць чуткі, што Ватыкан усё ж вымушаны будзе прыняць пэўную форму прызнання, таму што пілігрымкі прыносяць грошы. А пакідаць усё гэта ў прыватных руках Ватыкан бы не хацеў. Аднак справа ў тым, што тут ёсць вельмі шмат «за» і «супраць». З аднаго боку, у Меджугор’і сапраўды адчуваецца незвычайная Божая ласка. З другога боку, існуе нямала фактаў, якія быццам бы паказваюць на тое, што ўсё гэта... падман і спекуляцыя. Таму я разумею кардынала Камілло Руіні: на яго месцы я таксама сумнявалася б. Сама я ў гэта веру, але ёсць мноства людзей, якія не вераць.

*— На пачатку 90-х гадоў я сустрэла аднаго амерыканскага журналіста, былога пратэстанта Уэйна Уэйбла. Вядома, што пратэстанты не ўшаноўваюць Маці Божую. Але як журналіст ён хацеў напісаць кнігу пра Меджугор’е. Калі ён глядзеў касету з фільмам пра аб’яўленні, то пачуў голас Маці Божай: «Ты — Мой сын, і Я хачу, каб ты выконваў волю Майго Сына». Яна сказала яму, чаго жадае ад яго, і папрасіла распаўсюджваць Яе пасланне па ўсім свеце. Гэты журналіст паехаў у Меджугор’е, а пасля прадаў сваё выдавецтва і стаў місіянерам. Ён прыязджаў таксама да нас у Беларусь, арганізоўваў сустрэчы і распавядаў пра сваё навяртанне...*



Фота Карнэлія Консака.

*— Скажыце, а як змяніла Вашае жыццё праца над фільмамі пра аб’яўленні Маці Божай у Фаціме і Меджугор’і?*

— Змянілася ўсё. Цяпер я вызначаю сябе як «карыснага ідыёта». Паказаная мною на фестывалі праца пра Меджугор’е — гэта насамрэч скарочаны варыянт фільма. Калі я стала анансіраваць фільм, у Егіпце пачаліся хваляванні, напад на хрысціянскую царкву (гэта было ў снежні мінулага года). Падчас здымкаў да мяне падышоў адзін чалавек і сказаў: «Я егіпцянін, і хацеў бы з Вамі пагаварыць, таму што ў Егіпце было аб’яўленне Божай Маці». Я кажу: «Але я здымаю фільм пра Меджугор’е! Якія адносіны да гэтага мае аб’яўленне ў Егіпце?» Аднак ён быў настойлівы і прасіў мяне аб размове. Пры манціроўцы фільма я выкарыстала інтэрв’ю з гэтым егіпцянінам. Дык вось, працуючы над стужкаю, я заўважыла, што ўвесь матэрыял нібы сам ідзе да мяне, таму я зразумела, што менавіта гэта павінна рабіць. І калі раблю гэта, то адчуваю сябе любімаю. Цяпер мне штотыдзень хочацца ехаць у Меджугор’е, таму што там у мяне ўжо ёсць сябры...

*— Наступны свой фільм Вы таксама прапануеце фестывалю «Magnificat»?*

— Спадзяюся. Планую, што гэта будзе фільм, як я ўжо казала, пра Маці Божую з Чывітавекк’і. Жанчына, якая атрымала гэтае аб’яўленне, у свой час паехала ў Партугалію да сястры Люцыі — аднае з фацімскіх візіянерак. Яны сустрэліся, абняліся... Гэта для мяне стала тою чырвонаю ніткаю, якая звязала тры розныя месцы аб’яўленняў Маці Божай.

*— Марыя сапраўды вядзе Вас...*

— Гэта, як паток, хуткаплынная рака: ты ўваходзіш у яе — і яна нясе цябе...

*Размаўляла Крыстына Лялько.*

*Пераклад з італьянскай мовы Ірыны Шэлянковай.*

# Залежнасць — гэта заўсёды цярпенне

## Гутарка з матушкай Сафіяй (Ішчанка), педагогам, прэзідэнтам Міжнароднага Срэценскага праваслаўнага кінафестывалю «Встреча».

— *Матушка Сафія, скажыце, калі ласка, як у гэтым свеце чалавеку знайсці ўнутраную свабоду? Мы залежым ад стольких рэчаў, маем столькі комплексаў! Мне хацелася б, каб Вы паразважалі пра гэта як чалавек веруючы і як псіхолаг.*

— Калі гаварыць пра свабоду, то ў першую чаргу кожнаму чалавеку — веруючаму і няверуючаму — трэба ведаць, якая была мэта прыходу Пана Бога на зямлю. Нават няверуючы ведае, што Ён сапраўды быў. Я кажу пра тых няверуючых, якія не хочуць выконваць Яго законаў і запаведзяў, але ведаюць, што Бог ёсць, няхай нават яны гэта акрэсліваюць проста як «нейкую Вышэйшую Сілу». Практычна ўсе людзі на зямлі гэта ведаюць. Называюць Бога рознымі імёнамі, але ведаюць, што ў чалавека ёсць Той, хто яго стварыў. Аднак мы, хрысціяне, верым у тое, што Гоcпад прыходзіў на зямлю. Для таго, каб быць вольным, трэба проста ведаць, што Гоcпад прыйшоў на зямлю толькі для аднаго: каб збавіць чалавека. А збаўленне чалавека — у свабодзе, як гэта ні парадаксальна. Трэба правільна разумець значэнне гэтага слова: свабода **для чаго** і свабода **ад чаго**? Многія людзі, няправільна яго разумеючы, упадаюць у страшны грэх анархіі. Яны думаюць, што свабода — гэта адсутнасць законаў, уседазволенасць: «Што хачу, тое і раблю. Я чалавек, і гэта гучыць горда». На самай справе гэта той кручок, на які нас ловіць «цёмны». Ён бярэ словы Хрыста: «Таму, калі Сын вызваліць вас, будзеце сапраўды свабоднымі», і ловіць нас на іх. Але людзі павінны нават не разумець, а проста ведаць, што Госпад вызваліў нас ад граху. Калі Ён прыняў хрышчэнне ў Ярдане, усё на зямлі ачысцілася. Езус узяў на сябе грахі ўсяго свету, учыненыя да Яго прыйсця. Ён ачысціў не толькі нашых прабацькоў Адама і Еву, а таксама тых людзей, якія ўшаноўвалі Бога, яшчэ нават не ведаючы Яго ў паўнаце. Ён вызваліў нас і ад будучых грахоў, ад рабства граху! Гэта адказ на першае пытанне: ад чаго мы свабодныя? Мы свабодныя ад граху, і цяпер мы можам яго не ўчыняць, бо сам Госпад пакараў грэх. Сваім жыццём, у сваім чалавечым абліччы Ён паказаў нам удзел у святасці, вобраз святасці: вось такімі вы можаце быць! Прытым як далікатна, як прыгожа Ён гэта паказаў! Ён паказаў чалавека праз сябе, праз Бога-чалавека: як Ён не гневаўся, як любіў, прабачаў... Да гэтага чалавеку цяжка было зразумець і ўявіць Бога, бо ён Яго не бачыў. Ён не бачыў увасобленага ідэалу. Чалавек — цялесная істота, і яму трэба ўбачыць, пачуць ідэал, дакрануцца да яго. Чаму, напрыклад, праваслаўныя малююць свае іконы, каталікі, акрамя гэтага, ствараюць яшчэ і статуі? Мы пакланяемся не фарбам, як нас калісьці папракалі, а вобразу, адлюстраванаму з дапамогаю фарбаў ці іншых сродкаў! Інакш мы не зможам трымаць сваю ўвагу на кантакце з Богам, бо мы так створаныя, так арганізаваная Богам нашая псіхіка. Уцелаўлёны Бог і Багародзіца — гэта вобразы мужчынскага і жаночага пачаткаў. Будзьце як яны — і вы свабодныя! Многія людзі маюць комплексы менавіта таму, што яшчэ не прыйшлі да Бога. Тыя, хто сапраўды прыйшоў да Бога, не маюць комплексаў.

— *А якія страхі або комплексы, на Вашу думку, найбольш дакучаюць сучаснаму чалавеку?*

— Па-першае, гэта страх за будучае фінансавае становішча. Многія баяцца старасці, таму што яны могуць стаць нямоглымі і беднымі. Заможныя людзі баяцца страціць сваю маёмасць і — зноў жа — абяднець. Многія баяцца хваробаў, здрады любімага чалавека. Усе ўся-

го баяцца! І гэты страх іх паралізуе, часта прымушае рабіць памылкі. Напрыклад, той, хто баіцца здрады любімага чалавека, пачынае раўнаваць, падазраваць і разбурае свой саюз менавіта гэтым страхам, гэтым комплексам. Той, хто баіцца абяднець, страціць накопленае багацце, становіцца чэрствы сэрцам, перастае быць міласэрным, баіцца злодзеяў, жыве ў пастаянным страху нападзення — на сябе, на сваю сям'ю, сваіх дзяцей. Той, хто баіцца захварэць, асцерагаецца кантактаў з іншымі людзьмі, баіцца штосьці выпіць або з'есці, кудысьці паехаць. Гэта жудасна — жыць у страху. Сапраўды веруючыя людзі не маюць такіх комплексаў, яны кажуць: «Усё ў руках Божых», але як разумны чалавек, я буду асцерагацца есці нясвежую страву, каб не захварэць. І гэта не страх, а нармальныя, разумныя развагі. Іншы прыклад: я буду шкадаваць і сумаваць, калі з маім любімым чалавекам штосьці здарыцца, калі ён сыдзе ад мяне. Але калі я яго сапраўды люблю, а ён шчаслівы не са мною, то гэта, хутчэй, будзе маё горкае шчасце. Яму ж добра!



Фота Міколы Новікава.

*— Але да такога «горкага шчасця» яшчэ трэба дарасці!*

— Я кажу пра веруючых людзей. Вось чаму веруючыя не пакутуюць так, як няверуючыя. Безумоўна, веруючы чалавек таксама пакутуе. Але калі ён падымаецца па ступенях веры, то ад некаторых страхаў, міфаў, створаных жыццём, ён ужо можа быць свабодны. Магчыма, не ад усіх адразу, аднак для гэтага і існуе духоўны рост. Але нават калі веруючы пакутуе, ён прынамсі ведае, што пакутуе ад сваёй духоўнай непаўнаты. Гэта нялёгка. Бывае, у мяне самой з'яўляецца якое-небудзь цярпенне, і тады я кажу сабе: «Ты ж супакойвала іншых, казала, што гэта Божы Провід, чаму ж самой цяпер так цяжка?» Але Бог у кожным цярпенні дае чалавеку «плюсы». Іншая справа, што мы не ўмеем іх бачыць.

*— Чаму чалавек з самага пачатку настроены на «мінусы»?*

— Таму што сілы зла заўсёды знаходзяцца побач з намі. Пан Бог дапускае, каб мы траплялі ў складаныя сітуацыі, нібы дае нам кантрольную працу. І ў кожнай такой сітуацыі сілы зла апынаюцца побач з намі, каб з гэтай сітуацыі мы не выйшлі пераможцамі. Яны ж кожную хвіліну з намі ваююць! Мы іх не бачым і забываем, што яны ёсць. Веруючыя часта ўзгадваюць Пана Бога, анёлаў, думаюць пра іх і памятаюць, што яны побач. Але ж «тыя» таксама нікуды не падзеліся, яны заўсёды напагатове. І варта чалавеку трапіць у якую-небудзь складаную сітуацыю, яны тут жа пачынаюць яго выпрабоўваць. Памяць пра Бога нас ратуе, толькі гэтая памяць адразу «адмятае» ўсе злыя сілы.

У мяне ў жыцці гадоў дваццаць таму быў такі выпадак. Я ўжо хадзіла ў храм, але такога светапогляду, як цяпер, яшчэ не мела. Мне трэба было пераехаць з аднаго горада ў другі. Сям'я ўжо ўся пераехала, а мяне пакінулі прадаваць кватэру. Штосьці доўга не атрымлівалася з дакументамі, таму мне адной было вельмі цяжка. І вось неяк я сустрэла матушку, жонку нашага святара. Паколькі мы былі добра знаёмыя, я пачала ёй скардзіцца, бо адчувала сябе вельмі адзінокаю ў тым горадзе. А яна мне шчыра, як сапраўды веруючы чалавек, кажа: «Як гэта ты адзінокая? А Госпад? А Найсвяцейшая Багародзіца? А анёл-ахоўнік?». Яна гэта гаварыла не фармальна, а з увераю, ад самага сэрца.

Бывае, што нейкі чалавек скажа табе, здавалася б, простыя словы, а яны перавернуць усё тваё жыццё. Пасля таго выпадку прайшло ўжо больш за дваццаць гадоў, а я сама сабе і іншым часта паўтараю тое, што калісьці сказала мне матушка. А часам дапамагае вельмі просты напамін пра тое, што ты не адзінокі, бо адзінота — гэта таксама цярпенне, таксама адсутнасць свабоды, бо чалавек не ведае, дзе шукаць выйсце, на-

ракаючы: «Мяне ўсе пакінулі, я такі адзінокі...» Нават калі цябе пакінулі ўсе людзі, Бог і Найсвяцейшая Багародзіца цябе не пакінуць ніколі. Ты ўжо не адзін!

*— Але гэта трэба сапраўды ўсвядоміць, для гэтага патрэбна сапраўдная жывая вера...*

— Для такога ўсведамлення людзям неабходна весці духоўныя размовы. Мы балбочам пра што заўгодна, а пустаслоўе — гэта грэх. Мы вельмі рэдка гаворым адзін з адным на духоўныя тэмы, а гэта вельмі важная падтрымка. Тым больш, што тэмаў і нагодаў для гэтага ў нас кожную гадзіну і кожную хвіліну — мора. Такія размовы асабліва важныя для людзей церпячых.

Часам у групы інвалідаў прыходзяць місіянеры. Што яны нясуць людзям? Падарункі, цацкі, прадукты. Гэта добра, але гэта зусім не вырашае іх праблемаў. Аднойчы я спытала ў бацюшкі: «Як вы думаеце, а маці Тэрэза з Калькуты, якая шмат каму дапамагала, цяпер у раі?» Ён мне адказаў: «Матушка, а чаму Вы думаеце, што яна ў раі?» — «Таму што яна канкрэтна дапамагала людзям». — «Добра, вось Вы чыталі яе жыццяпіс. Яна дапамагала целу ці душы?» Маці Тэрэза, сапраўды, дапамагала вылечыцца вельмі многім людзям. Тыя, хто зноў захворваў, вярталіся да яе, і яна зноў іх лячыла. Бацюшка дадаў: «А яна многіх прывяла да Бога? Ці многія пахрысціліся, прынялі веру, сталі жыць па запаведзях Божых? Для манахіні галоўнае — дапамагчы чалавеку збавіць душу».

*— Менавіта. Маці Тэрэза і яе сёстры — місіянеркі любові — найперш служылі (сёстры і цяпер ахвярна служаць) прагнучаму Хрысту, дапамагаючы ўбогім, пакінутым і хворым не толькі фізічна, абмываючы ім раны, даглядаючы і кормячы, але й ратуючы іх душы, яднаючы іх з Богам. Што ж датычыць Вашага пытання, ці ў раі яна, то Маці Тэрэза не раз сама паўтарала, што яе не будзе ў небе, бо і па смерці яна павінна «запальваць святло тым, хто знаходзіцца ў цемры на зямлі», гэта значыць, што яна і цяпер служыць самым абяздоленым і пакінутым праз рукі і сэрцы сваіх сясцёр, праз сваё благаслаўлёнае заступніцтва, гэта значыць, што і ў Валадарстве Божым яна працягвае выконваць сваю місію...*

— Але ў кнізе пра Маці Тэрэзу, якую я чытала, на жаль, распавядалася толькі пра тое, як яна прамывала хворым раны, лячыла іх...

*— Відавочна, Вам трапілася не вельмі ўдалая і глыбокая кніга...*

— Магчыма. Але я тут хачу сказаць пра іншае, пра тое, што нават калі людзі вядуць маральнае жыццё, не парушаюць законаў, але яны — не з Богам, то яны таксама несвабодныя. Гэтыя людзі жывуць паводле чалавечых законаў, а не Божых. Веруючыя, робячы якуюнебудзь справу, робяць яе на хвалу Божую — не дзеля грошай ці пахвалы, а дзеля Бога. Няверуючыя так не жывуць. Яны хоць і не ўчыняюць цяжкіх грахоў, але, напрыклад, калі робяць нейкую працу, то робяць яе за заробак...

*— Большасць людзей сёння менавіта так і жыве. І гэта не іх віна, а іх бяда, вынікі выхавання, ментальнасць постсавецкіх людзей і грамадства ўвогуле...*

— На жаль, так, такія людзі не багацеюць у Богу і становяцца вельмі залежнымі — ад заробку, ад месца працы, ад начальніка, ад каханага, ад асалоды... Здаецца, гэта добрыя людзі, але яны ўвесь час пакутуюць, таму што не маюць крыніцы свабоды, не жывяцца з яе. У іх ёсць... добрая лужына з вадою, але яна не мае сілкавання. У іх ёсць вада, але яна вельмі часта мутная і брудная. Гэта робіць іх залежнымі. А залежнасць — гэта несвабода, залежнасць — заўсёды цярпенне, ад яе трэба абавязкова вызваляцца.

*— Дзякуй за размову, матушка Сафія.*

*Размаўляла Крыстына Лялько.*



Аркадзь Шпунт

# З нагоды адной выставы

«... Ёсць край — Італіяй завецца».
*М. Лермантаў*

У матэрыяльнай структуры жывапісу вякамі ішоў складаны працэс малекулярнага распаду... І цяпер ідзе. І будзе ісці далей. І ўсялякі выкарыстаны ў рэстаўрацыі матэрыял будзе чужародным для структуры, якая пражыла вякі, — няхай сабе італьянскай ці нашай беларускай... нават марсіянскай. Зрэшты, трэба выбраць адну... Далёка не шукаў: зняў са стэлажа ў майстэрні адзін з тых абразоў, што ўжо 15 гадоў чакае рэстаўрацыі — абраз Маці Божай Рымскай (Снежнай; палатно, алей, 70х100), сакральны жывапіс XVIII стагоддзя.

Палатно з жывапісам, прыклеенае да драўлянай асновы, месцамі адстала ад сасновай дошкі, пакарабацілася. Мяркуючы па стане палатна, яго намагаліся адклеіць, але, заўважыўшы сляды жывапісу на адваротным баку, спынілі працэс адслаення, бо, не пашкодзіўшы фарбавага слою адваротнага боку, зрабіць гэта было немагчыма.

На адваротным баку адклеенага фрагмента, у правым верхнім кутку, праглядаецца выява геральдычнага картуша, а ў картушы — ці то падкова, ці то паўмесяц... Партрэт — на адваротным баку?

У Беларусі рэстаўратару працаваць не сумна: у нас і запісы, якія змяняюць канфесійную прыналежнасць рэчы (асабліва жывапісу), зробленыя тым, што было пад рукою, і адсутнасць кананічнай строгасці, і ўмельства вандроўных майстроў, знаёмых з усходнімі і заходнімі прыёмамі рамяства... І толькі шматгадовая практыка, вопыт дапамагаюць рэстаўратару разглядзець пэўныя тэхналагічныя заканамернасці, якія на справе аказваюцца не заканамернасцямі, а нечакана-негаданымі праблемамі, абумоўленымі складам грунту, якасцю пакрыўных і каляровых лакаў з мясцовых смолаў і камедзяў, кепскімі аліфнымі плёнкамі, змяшанымі тэхнікамі і шматлікімі запісамі.

Свядомы або інтуітыўны сінтэз тэхналагічных прыёмаў Захаду і Усходу часам нараджаў на прасторы іканапіснай дошкі своеасаблівую сустрэчу Візантыі і Еўропы, ствараючы вельмі адметныя, уласцівыя нашаму старому мастацтву гарманічныя творы, рэстаўрацыя якіх патрабуе і асаблівых прыёмаў працы... Адзінкі твораў XVI–XVII стагоддзяў, пераважна — XVIII. Напэўна, усё лепшае, адзінкі ўзораў якога мы ўсё ж маем, незваротна знікла, патанула ў віры нашай гісторыі — як, напрыклад, слуцкія паясы, што ў такім мностве апынуліся недзе за межамі.

Беларусь здаўна, з часоў Польска-Літоўскай дзяржавы — Рэчы Паспалітай — была традыцыйнаю прастораю каталіцтва і праваслаўя. Існавалі — і проста, і ў дыялогу, і ў адкрытым супрацьстаянні пасля Уніі 1596-га... карацей кажучы, жылі, не губляючы адна другую з поля зроку. І Царква, і Касцёл апекавалі сваіх вернікаў ад калыскі да труны, фармуючы іх густ убраннем і архітэктурай сакральных збудаванняў, складаючы з дапамогаю пропаведзяў іх светапогляды і ўяўленні пра сэнс жыцця.

Усе дарогі, як вядома, вялі ў Рым. І з Рыма людзі вандравалі па ўсім свеце. Прыходзілі і на нашую зямлю, прыносячы ў першую чаргу тое, што не было цяжкаю ношаю: свае думкі, музыку, пэндзлі і фарбы, якімі вы-

**Аркадзь ШПУНТ —** мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. Нарадзіўся ў 1947 г. у Барысаве. Закончыў мастацкую вучэльню. Навучаўся прафесіі ў майстроў Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі. Рэстаўраваў пінскі катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, іншыя помнікі сакральнай архітэктуры і мастацтва. Аўтар аповесцяў-эсэ «Блики уходящего дня» (1989), «Момент нуль» (2000) і шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Жыве ў Мінску.

цяснялі Візантыю і ў касцёлах, і ў цэрквах.

Разам з каталіцтвам Італія жыве ў архітэктуры і жывапісе беларускіх касцёлаў і сёння, дыхае ў чорна-белых фігурках манашак, у адзенні нашых ксяндзоў, у благаслаўленнях Папы Рымскага беларускім людзям, міласціва ўшанаваным такою ўвагаю.

Стан захавання нашай спадчыны здольны здзівіць нават вельмі абазнанага рэстаўратара, у тым ліку італьянскага. У Італіі на тысячагадовай скульптурнай выяве людзі могуць зацалаваць палец на назе святога да яго поўнага знікнення, і гэта будзе прычынаю для рэстаўрацыі скульптуры. У нас жа — рамонты з веку ў век кожныя чвэрць веку, заўсёдныя пажары, войны, атэістычная нецярпімасць, безгаспадарчасць, адсутнасць самасвядомасці і згубнае для мастацкіх твораў парушэнне тэмпературна-вільготнаснага рэжыму як наступства ўсіх вышэйпералічаных непамыслотаў. Не гаворачы ўжо пра час, які не заўсёды лечыць, — хутчэй наадварот.

Апісваючы стан захаванасці абраза Маці Божай Снежнай і рэстаўрацыйную праблему (для перасылкі дакументаў у Італію), я падумаў: пра які майстар-клас ідзе гаворка? Ну прыехаў бы, напрыклад, Юры Башмет са сваім альтом і паказаў бы, як трэба трымаць смычок, і сам паказаўся б — вось гэта зразумела: натхнёны музыкант, голас, манера, прычоска... Само з'яўленне класнага артыста перад калегамі ўжо ёсць майстар-класам. А рэстаўрацыя — справа доўгая, марудлівая, ціхая, келійная. Працэс, які патрабуе асцярожнасці, папярэдніх доследаў і роздумаў, сумненняў... Што майстэрскага можна паказаць мімаходзь, калі ў любым выпадку давядзецца пачынаць з умацавання грунту і фарбавага слою? На любой з абраных іконаў праца па стабілізацыі разбуральнага працэсу зойме, як мінімум, некалькі рабочых дзён (калі ўсё пойдзе гладка), потым умацаваны жывапіс павінен адстаяцца: новае ўмацавальнае рэчыва, уведзенае ў амаль разбураную структуру, павінна акрэпнуць... Цікава будзе паглядзець на італьянку, якая прывыкла да непераўзыдзеных шэдэўраў, згорбленую з прасам над нашым безыменным «правінцыйным» жывапісам. І гэта будзе ўсё, што яна паспее паказаць... Але яны так захацелі... І каб абавязкова майстар-клас...

У лісце аддзела культуры Пасольства Італіі былі пазначаныя жаночае імя і прозвішча, якія маглі стаць цалкам прыдатнымі для гістарычнай аповесці пра часы Тыцыяна або чумы ў Венецыі. Рыскаючы ў «сеціве», я знайшоў фота, якое ніяк не звязвалася для мяне з прынцыпамі навуковай рэстаўрацыі... Але, магчыма, гэта было фота той асобы, якая павінна была прыехаць да нас, каб прачытаць лекцыю пра дасягненні італьянскай рэстаўрацыі і правесці майстар-клас.

Слаба ўяўляючы, што якісьці мастацкі музей у свеце можа дазволіць заезджаму спецыялісту, няхай сабе італьянскаму, дэманстраваць сваё майстэрства на рэчы з уласных фондаў, я забіўся магчымасцю зведаць новыя матэрыялы, якая павінны была прывезці з сабою італьянка для правядзення майстар-класу, і з нецярплівасцю чакаў яе з'яўлення ў нашых майстэрнях, але раптам, без тлумачэння прычынаў, нам ціха абвясцілі, што яна не прыедзе...

* * *

... Часам гартаеш альбом з карцінкамі, глядзіш і ніяк не наглядзішся, і ўзыграе раптам сэрца, і ўсклікнеш нешта накшталт: «Божа мой, Божа! Чаму ж у мяне няма такой бекешы!» А што яшчэ ўсклікаць, калі нехта нарадзіўся і жыве ў Італіі, а нехта дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся, і, разглядаючы прыгожыя альбомныя карцінкі, можа толькі ўяўляць тую прыгажосць сапраўдную...

Чытаючы нарысы розных падарожнікаў, міжволі думаеш: ці магчыма чалавечаю моваю перадаць благаслаўлёнае здзіўленне, захапленне, зачараванне і замілаванне нябёсамі, морам, горамі, паветрам, алівамі, тэрасамі, вінаграднікамі, лімонамі, апельсінамі і мандарынамі, касцёламі, цэрквамі, капліцамі, руінамі, музыкай, жывапісам, скульптурай, палацамі і замкамі, вясковымі сядзібамі, экстэр'ерамі і інтэр'ерамі, модаю, кухняй? Ці засталося нешта не пералічанае?

*Волшебный край,*
*волшебный край!*
*Страна высоких*
*вдохновений...*

Нават Пушкін паўтарыўся. Праўда, ён ніколі не бываў у Італіі. І Лермантаў ніколі не бываў. А вось Гётэ, які бываў, пісаў у сваіх нататках: «Я радуюся благаслаўлёным наступствам, якія будуць праяўляцца ўва мне да канца маіх дзён». У Рыме ён спазнаў тую напоўненасць, тое «... цэлае, пра якое колькі ні думай, колькі ні мрой, усё роўна не ўзнікне ў тваім уяўленні»...

На геаграфічнай мапе тысячнага года апенінскі «боцік» «пашыты» з рознакаляровых лапікаў шматлікіх княстваў, герцагстваў, маркграфстваў і царстваў. Назва кожнага лапіка нешта азначае, але некаторыя гучаць проста чароўнай музыкай, бо азначаюць назву слыннай мастацкай школы: Чынквачэнта-Кватрачэнта... Быццам шчабечуць нейкія чароўныя птушкі, што суправаджаюць нябачныя цені вялікіх майстроў, якія відавочна не ведалі, што робяць, бо тады ўсё прыгожае лічылася адбіткам духоўнай прыгажосці Бога і самі творцы непахісна верылі, што стварае толькі Найвышэйшы. Бачная прыгажосць у былыя часы лічылася праяваю іншай прыгажосці, нябачнай. Італія — краіна бачнай прыга-

жосці. Творы яе майстроў несмяротныя, і гэтаму садзейнічаюць менавіта рэстаўратары.

Рэстаўратар па сваёй сутнасці — майстар неўміручасці. Ён — вялікі лекар, які намагаецца вярнуць прыродзе рэчаў іх натуральны стан, вярнуць жыццё.

А між тым чалавецтва (думае чалавек, гледзячы ў тэлевізар) відавочна дэградуе, нішчыць свой прыстанак на планеце — на Зямлі ўсё менш і менш месца для сапраўднага мастацтва і чалавечнасці. Аднак італьянцы, нягледзячы на тое, што іх зямлю, як і ўсю Еўропу, апанавалі чорна-жоўтыя прышэльцы чужых культураў, быццам выпалі з усеагульнага руху *homo sapiens* ад наскальных малюнкаў да вульгарных выяваў у грамадскіх прыбіральнях. Або, калі браць меншы адрэзак часу, ад Афрадыты Праксіцеля (першай максімальна рэалістычнай выявы аголенай жанчыны) да эратычных серыяў Джэфа Кунса... і далей... Толькі куды?

Італьянцы, здаецца, тармазнулі сябе на імклівым шляху ў будучыню, утрымаўшы пры сабе лепшыя рысы характару народаў лацінскага племя, сярэдземнаморскую дыету і звычку есці, не спяшаючыся, атрымліваючы радасць ад працэсу спажывання ежы і быцця. Яны здолелі ўстаяць перад Мак-Дональдсам і фастфудам, а таму па-ранейшаму жыццярадасныя, падцягнутыя, рухавыя, усмешлівыя, лёгкія і для сябе, і для іншых, быццам не ведаюць, што канец свету не за Альпамі.

Успрыманне прыгажосці таксама патрабуе напружання, хоць яны і прывыклі да гэтых перагрузак, з маленства жывучы па сутнасці ў музеі, церпячы бясконцыя натоўпы турыстаў, якія мітусяцца па скляпеністых галерэях іх вуліцаў і ў гарачыню, і ў непагадзь. Гарады, вядомыя мне па выявах на старажытных фрэсках як скапленні ружовых вежаў і ружовых палацаў у атачэнні блакітных сценаў крэпасцяў і аліўных ірвоў, кішаць турыстамі, якія, запаўняючы сабою ўсе куткі, захоплена перажываюць спазнанне некалі ўбачанага на альбомных карцінках, каб потым дома паказваць блізкім ужо свае карцінкі, намагаючыся мімаходзь засведчыць панібрацкае далучэнне да вяршыняў чалавечага духу... Можа, менавіта за гэтым людзі так імкнуцца ў Італію...

...І куды ні глянеш, усё падпісанае, атрыбутаванае, усё найвышэйшага рамяства і мастацтва. Выявы святых — у жывапісе і скульптуры — здаецца, выпраменьваюць энергію сваіх першавобразаў, дапоўненую энергіяй стварцаў. Цесна пераплеценыя рэальны свет і свет вобразаў гарманічна сумяшчаюцца ў адно цэлае. Пад прамяністымі нябёсамі натуральна і проста пануе настрой вясёлай адухоўленасці. Дык як жа не верыць у цуды, сузіраючы творы старых Майстроў, няхай сабе і на карцінках. «Гэтай карціне жадаеш вечнага жыцця, прымiраючыся нават з думкаю пра тое, што сам ты хутка станеш пылам», — так сказана пра святую Цэцылію Рафаэля, пра якую Гётэ так «шмат ведаў, але цяпер убачыў на свае вочы».

...Мара рэстаўратара: яго справе — вялікаму лекарству — няма канца... У Італіі...

...Я ніколі там не быў, аднак асмельваюся думаць, што для Наступніка Бога на зямлі сапраўды няма лепшага месца... бо там, пад балконам, з якога гучыць Urbi et Orbi, — жыццё ў дзве тысячы гадоў — усё на той жа зямлі тыя ж сцены, і ў народа ўсё той жа характар... і Рым змяняецца Рымам, і розныя эпохі наслайваюцца адна на адну пад велічнымі пастаментамі статуяў, уладыкаў, кандацьераў, паэтаў, святых...

...Калі выпадкова пад нашым бялёсым небам сустрэнеш італьянца, абавязкова падумаеш: вось ён, шчаслівы нараджэнец прамяністых нябёсаў, прастораў блакітнага «сфумата», прышэлец з тых чароўных пейзажаў празрыстага паветра, дзе не варушацца лісты на дрэвах, дзе пад нагою святога не шалохнецца былінка... на старажытнай карціне.

Мне, які ніколі не бываў ні ў адным з тых гарадоў, адны назвы якіх зачароўваюць уяўленне, здаецца, што лёс італьянца ў насычанай архетыпамі прасторы ўзвышаны да агульначалавечага — усё душэўнае, усё несвядомае, увасобленае ў рэальныя формы вытанчаных твораў, перапаўняе італьянцаў і перацякае ў калектыўнае несвядомае, насычаючы атмасферу Італіі духам мастацтва, што там жыве гэтак жа натуральна, як прыгажосць у прыродзе. Італьянцы звыкліся з таямнічым уздзеяннем мастацтва як з часткаю навакольнага асяроддзя. Так здаецца мне, жывучы ў Беларусі, якую (вось жа цікава сказаў паэт!), «каб любіць... трэба ў розных краях пабываць...» А калі не бываў — дык што? Не любіць? Люблю. Люблю нават тады, калі бачу касцёл XVII стагоддзя, вежы якога «ўпрыгожваюць» недарэчныя пазалочаныя «цыбуліны». А што рабіць? Напэўна, яшчэ раз задумацца пра тое, што «каб любіць», трэба, мусіць, прывесці ў парадак тое нямногае, што ацалела ў руінах, і не псаваць таго, што ацалела проста цудам. І не будаваць «небывалых» архітэктурных «шэдэўраў» наспех, каб было, як у Італіі, дзе нават у занядбаных мясцінах ёсць касцёлы бедныя і простыя, але ніколі — безгустоўныя; каб нарэшце нашай нацыянальнай ідэяй стала аднаўленне двух дзясяткаў пакінутых у «мярзотнасці запусцення» палацаў і сядзібаў, якія сведчаць пра былую, хоць і сціплую, але ж вартасць, гонар... Вось якія ў мяне мары...

Між іншым, у апенінскі «боцік» усё складвалі і складвалі вякамі і тысячагоддзямі, а з на-

шага беларускага скрыжавання ўсё зносілі і зносілі... Уявіце сабе: рэстаўратар, выконваючы сваю звыклую працу, дакранаецца (о, Божа!) да гісторыі мастацтва. Пра што ні згадай — усё непераўзыдзеныя шэдэўры ўсіх часоў і народаў. Зрэдку ў рэстаўрацыю паступаюць рэчы, якія ўжо рэстаўраваліся чатырыста, а мо і больш, гадоў назад. І Італіі, напэўна, не зразумела, што такое «невядомы мастак», — бледны і вечна непрытульны прывід нашых музеяў, які шукае прыстанку ў танюсенькіх брашурах каталогаў і сціплых экспазіцыях.

... І раптам абвясцілі, што да нас едзе (не, не рэвізор) рэстаўратар... з Італіі! І вязе з сабою выставу іх дасягненняў рэстаўрацыйнай навукі!

У навуковасці рэстаўрацыі (скажу Вам, мадам, па сакрэце...) я ціха сумняваюся ўжо гадоў дваццаць. Думаю, што рэстаўрацыя — гэта не навука... Ну, вядома, выяўленне, вывучэнне, высновы, усялякія прыборы, інструменты, тэхналогіі, хімікаты і прэпараты... і што? А можа гэта мастацтва? Пэндзлі ж, мальберты, муштабелі, фарбы, палітры — таксама... Не, не мастацтва, калі разумець розніцу паміж творчасцю і рамесніцтвам. Дык значыць — рамесніцтва? Рамесніцтва, якое не абагульняе тэарэтычных асноваў, у якім веды і вопыт набываюцца ад майстра да вучня, праз асабістыя памылкі — да асабістага вопыту. Падобна да алхіміі, якая і не навука, і не мастацтва, і не рамяство, не рэлігія, не філасофія, але ўсё разам — алхімія. І мэта вельмі падобная — ператварэнне рэчыва. Але няма тэорыі, пабудаванай на навуковым абагульненні вопыту. Як няма і несупярэчлівага разумення таго, што з’яўляецца канчатковаю мэтаю рэстаўрацыі: матэрыяльная субстанцыя ці ўсё ж умацаванне не толькі грунтаў і фарбавых слаёў, але і анталагічнай сувязі матэрыяльнай структуры твора з яго эстэтычнай выразнасцю... у імя ўмацавання духоўнай сувязі прыгажосці з чалавекам. Можа гэта ведаюць італьянцы?..

...Ніякіх звестак у інтэрнэце я не знайшоў, таму што не ведаў прозвішча. Але яна ўсё ж прыехала і прывезла ў наш музей выставу, прымеркаваную да святкавання аб’яднання Поўначы і Поўдня Італіі. Рысарджамэнто — гэтак яны называюць этап сваёй гісторыі. Прозвішча было дастаткова італьянскім, а звалі яе Эліяна (відаць, ад прарока Іллі).

На маім рабочым стале ляжала кармэліцкая ікона на медзі: вогненнае ўзыходжанне прарока... і я ўгледзеў у гэтым нейкае прароцтва, не ведаючы яго сэнсу...

Яна з першага погляду стварыла цалкам экзатычнае ўражанне — нешта афрыканска-цыганскае, акультуранае італьянскім. Бледна-смуглявая, яна была ў чорным і белым і круціла вялікімі, як у каня, і такімі ж выразнымі, як у каня, вачыма — нібы згаслы вулканчык, гатовы прачнуцца ў кожную хвіліну. Ад яе гладкага смуглявага ілба дыхала спёкаю паўднёвага сонца — згадаўся чорна-белы свет італьянскага неарэалізму 70-х гадоў на нашых экранах. Чарлз Букоўскі, бясспрэчна, зацікавіўся б ёю... Зрэшты, і мне хацелася б разгадаць сіцылійку, навучаную рэстаўрацыі ў рымскім інстытуце. На жаль, гэта было магчыма толькі праз перакладчыка.

... Хто не ведае, што Італія заўсёды знаходзілася ў авангардзе тэарэтычных даследаванняў, распрацоўкі законаў, гарантуючых захаванне каштоўнасцяў культуры, і найперш методык выканання ўсіх рэстаўрацыйных працэсаў? Мы ведаем гэта па альбомных карцінках і кнігах, таму прывезеная на трыццаці планшэтах выстава ніяк не здзівіла і нічога новага не адкрыла — тыя ж карцінкі і тэксты. Аднак магчымасць праз перакладчыка кантактаваць з калегаю, якая прыехала з свету адвечных шэдэўраў, была, безумоўна, вельмі цікаваю. Нам была важная ацэнка нашай дзейнасці прафесіяналам з вопытам самых новых методык выкарыстання найнавейшых матэрыялаў і інструментаў, якіх у нас, на вялікі жаль, няма... пакуль што. Але гаворка пра які-небудзь майстар-клас не ўзнімалася. Што датычыць розных тэорый, дык у рэстаўрацыі помнікаў іх дастаткова — зрэшты, як і розных супярэчанняў. А вось істотных прынцыпаў малавата, таму, напэўна, няма і свайго прафесійнага слоўніка. Увогуле паняцце навуковай рэстаўрацыі вельмі расплывістае. Усе вырашэнні звычайна з’яўляюцца ў працэсе работы, і прафесіянал добра разумее, што для кожнай рэчы трэба шукаць прымальны толькі для яе падыход, беручы на сябе ўсю адказнасць за яе рэстаўрацыю. А як інакш, калі кожны мастацкі твор — стварэнне індывідуальнай свядомасці, значыць і падыход да яго павінен быць індывідуальным. Іншым ён і быць не можа, хоць і павінен адпавядаць агульным прынцыпам і законам аб захаванні помнікаў гісторыі і культуры. Ці проста гісторыі, бо якая ж гісторыя без культуры...

... Зрэшты высветлілася, што мы выкарыстоўвалі... італьянскі вопыт рэстаўрацыі, не ведаючы, што такое «тратэжыо», хоць і карысталіся гэтым прыёмам вельмі паспяхова і даўным-даўно. Аднак, што такое «даўно», калі нашай рэстаўрацыі (так званай навуковай) усяго 40 гадоў... Відаць, пра навуковасць рэстаўрацыі можна разважаць яшчэ і далей — столькі, колькі будзе існаваць патрэба ў ратаванні прыгажосці, якая павінна, на думку вядомага рускага класіка, ратаваць свет.

...Калі толькі паспее... і перажыве рэстаўрацыю...

# ДРЭВЫ, ПТУШКІ, АБЛОКІ...

## Нататкі, напісаныя падчас чытання кнігі Венанцы Бутрыма «Маўклівыя сумныя птушкі» («Смаленск-Прэсс», 2011).

Апошнім часам я чытаю мала... Пачынаю чытаць новы твор і адчуваю, што аўтар ужывае шмат лішніх словаў... Але...

*На небе зоры ўжо мігцяць,*
*на полі срэбны снег іскрыцца...*
*на бел-свет дзівы выпраўляць*
*пляцецца ночка — чараўніца...*

Хутка маё чытанне скароціцца да паэмкі «На куццю» Янкі Купалы, у якой няма ніводнага лішняга слова...

Але літаратура ствараецца — незалежна ад маіх чытацкіх здольнасцяў...

Аднойчы размаўлялі па тэлефоне з Валодзем Дамашэвічам пра кнігу Алены Афанасьевай «Прываротная любоў», якая ёсць толькі ў інтэрнэце... Валодзя сказаў: «Усё, што напісаў чалавек, — гэта літаратура, і мае права быць апублікаваным...»

Валодзя ўсё жыццё пасля сканчэння БДУ працаваў з маладымі аўтарамі ў выдавецтвах і ў часопісах, але не правіў сюжэтаў, не парушаў зместу твора, а працаваў над стылем мовы, папраўляў у тэксце моўныя недакладнасці...

А ці маюць права людзі, якія самі пішуць і выдаюць кнігі, змяняць напісанае іншымі, закрэсліваць, бракаваць?

Венанцы Бутрым свае першыя апавяданні паслаў не ў часопіс, а Васілю Быкаву, які прачытаў два яго апавяданні — «Апошнія канікулы» і «Юнгі» (1973 год). Ліст Васіля Быкава ва ўступным слове да кнігі цытуе Барыс Пятровіч, рэдактар і выдавец пасмяротнага выдання кнігі апавяданняў Венанцы Бутрыма «Маўклівыя сумныя птушкі». Вершы ў лісце Быкаў нібы абмінуў сваёй увагай, напісаў, што яны цалкам добрыя і іх можна друкаваць. На прозе ён спыніўся больш падрабязна: «*Канешне, „Апошнія канікулы“ — назіральныя, практыкаванне ў стылістыцы, не болей, але яны выяўляюць выдатны стыль аўтара, яго даволі прафесійнае ўменне бачыць і апісваць. А гэта ўжо нямала...*» Пра апавяданне «Юнгі» класік напісаў так: «*„Юнгі“, наадварот, гавораць аб Вашых здольнасцях будаваць канфлікты, ляпіць (крута ляпіць) характары, драматызаваць па вышэйшым рахунку. Хаця, як апавяданне, яно яшчэ недастатковае. Хутчэй, гэта ўрывак, але ўрывак выдатны...*»

Я падумала: атрымаўшы гэты ліст, Венанцы вырашыў не марнаваць час на прозу, пачаў працаваць у выяўленчым мастацтве, дзе ён адчуваў сябе вольным... Але Інэса Паўлаўна Бутрым, жонка Венанцы, у тэлефоннай размове сказала, што, наадварот, Венанцы прыняў ліст Васіля Быкава як пахвалу, быў шчаслівы, што Быкаў яго падтрымаў, і нават паслаў яму на дзень нараджэння падарунак — падсвечнік, зроблены з гільзы ад снарада. Васіль Быкаў прыслаў яму цёплы ліст з падзякай.

Венанцы быў спакойным філосафам, меў талент чалавека, які любіць людзей і той час, у які паслаў яго Бог, быў асобай, вакол якой збіралася баранавіцкая «Святліца»... Інэса кажа, што ён быў стрыманым, умеў трымаць свае эмоцыі ў сабе. Быць такім яму дапамагала прырода правінцыі, якую ён адчуваў, захапляўся і ў словах, і ў пейзажах, і ў графіцы. Быў сціплым, сабе як творцу даваў заніжаную ацэнку, казаў, што ён рамеснік, не больш...

Я згаджаюся з Барысам Пятровічам, што Венанцы ў прозе паказаў перавагу слова над фарбай, бо фарбы маўчаць, а словы — гавораць...

Васіль Быкаў, Янка Брыль, Алесь Адамовіч, Уладзімір Калеснік улічвалі ўсе акалічнасці камуністычнага рэжыму, які патрабаваў пэўных выдаткаў, — наступалі самі на горла сваёй прозы. Аднак яны адбыліся як творцы і апраўдалі сябе перад сабой, перад роднай літаратурай і мовай...

У часопісе «Наша вера» ксёндз Пётр Рудкоўскі ў артыкуле «Хай сыдзе Дух Твой і адновіць аблічча гэтай зямлі!» адштурхоўваецца ад мудрасці, якую выказаў у энцыкліцы «Rerum novarum» папа Леў XIII:

*Кожны і кожная павінны прыкласці намаганне дзеля выпраўлення сітуацыі ў адпаведнасці са сваім становішчам,*
*інакш зло, якое ўжо і так стала вялікім,*
*у выніку адтэрміноўкі стане зусім невылечным.*

Каб аднавіцца ў мысленні, прыняць знакі, якія пасылае нам Дух Святы, пачынаць трэба з сябе


Венанцы Бутрым. Здымак 1960 г.

самога — перастаць хлусіць і прымаць хлусню... Так лічыць тэолаг...

Венанцы Бутрым гэта ведаў ад сваіх бацькоў.

Ён жыў у сям'і з хрысціянскім укладам, да саветаў хадзіў толькі на працу, ды і то ў ціхія мастацкія майстэрні...

Венанцы Бутрым нарадзіўся 9 верасня 1936 года ў Баранавічах і памёр 16 жніўня 2003 года ў Баранавічах.

Аднак у публікацыі Алёшы Белага «Мінаючы дробязь паўстанкаў» я прачытала, што Венанцы нарадзіўся ў мястэчку Новая Мыш, адкуль родам яго маці Уршуля, дачка Канстанціна. Маці была ў гасцях у сваякоў і там нарадзіла сына... Бацька Вінцэнты Вінцэнтавіч паходзіў з вёскі Стрэлава, недалёка ад Мілавідаў, і таксама жыў у Новай Мышы... Бацькі пазнаёміліся ў касцёле Перамянення Пана, у якім пасля ўзялі шлюб, стварылі сваю каталіцкую сям'ю...

Добрую хату на дзве палавіны бацькі пабудавалі ў Баранавічах у 1932 годзе.

У Бутрымаў была вялікая сям'я, падрасталі дочкі і сыны: Алімпія, Альберт, Рамуальда, Венанцы, які памёр малым... Бацькі гэтым іменем назвалі сына, які нарадзіўся наступным...

І яшчэ жыве ў Баранавічах сястра Ядвіга. Рамуальда з дачкой Наташай жыве ў Мінску, а дачка Ядвігі пераехала ў Польшчу... Старэйшая сястра Алімпія была замужам за ваенным, шмат паездзіла па свеце, жыла ў Маскве, а нядаўна памерла (яе дачка засталася ў Маскве). Брат Альберт жыў у Баранавічах, тут жа засталіся яго дочкі...

Бацькі былі невысокага росту, і большасць дзяцей пайшлі па бацьках, толькі Алімпія і Венанцы былі высокія, як дзед Вінцэнт... І высокі Аляксандр, сын Венанцыя і Інэсы.

Маці памерла ў 1965 годзе ад раку страўніка. Інэса кажа, што дабрэй за яе яна не сустракала жанчыны, шкадуе, што мала яны пажылі разам...

Бацька застаўся пры дзецях, быў рухавы, працавіты, рана ўставаў, ездзіў на ровары... У 1976 годзе ён палез з вядром збіраць спелыя чарэшні і ўпаў з дрэва з пяціметровай вышыні. Памёр у бальніцы...

Пасля яго смерці старыя дрэвы давялося спілаваць, засталася адна яблыня. Пасадзілі малады сад. Венанцы любіў і такія экзатычныя дрэўцы, як абляпіха і алыча...

У бацькавым доме Венанцы ўсё рабіў сам, папраўляў, рамантаваў — ад коміна да падрубаў, да клямкі на веснічках. Не было такой работы, якой ён не ўмеў зрабіць...

Венанцы скончыў на выдатна сямігодку, тэхнічнае вучылішча, працаваў электрыкам на чыгуначнай аўтабазе. У 1960 годзе паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча, вучыўся і працаваў настаўнікам малявання ў школе.

З Інэсай яны вучыліся ў адной групе. На трэцім курсе былі на практыцы ў Нясвіжы і вырашылі там распісацца, каб пажаніцца без шуму. У групе было 13 хлопцаў і дзве дзяўчыны... Вяселле спраўлялі ў школе — талеркі зрабілі з ватмана, купілі відэльцы і шклянкі...

Інэса з радасцю перайшла на самабытнае прозвішча мужа, толькі не разумела, чаму ў слове Бутрым на канцы гучыць «м», а не «н»...

Вось і ўся адметная розніца паміж усходам і захадам у дадзеным выпадку...

У групе, як і ў вучэльні, размаўлялі на расейскай мове, але рэдкае імя Венанцы ўвесь час блыталі, таму ён сказаў: «Ды называйце мяне проста Віктар!»

У дыпломе ў іх была запісана прафесія — настаўнік малявання і чарчэння, таму ў Баранавічах яны павінны былі адпрацаваць па накіраванні ў школе. Хутка Венанцыя запрасілі ў мастацкія фонды, а ён угаварыў перайсці туды Інэсу — яны мелі сталы ў адной майстэрні... Гэта была прыемная, спакойная праца, але ў дзевяностыя гады фонды страцілі фінансавую падтрымку ад дзяржавы, трэба было шукаць самім заказы, якіх не было.

Цяпер Інэса Паўлаўна на пенсіі, але працуе — робіць рэкламу ў кінатэатры...

Хату бацькоў яны пакінулі сям'і сына Аляксандра, лётчыка грамадзянскай авіяцыі, які ў дзевяностыя гады вымушаны быў развітацца з палётамі і вярнуцца ў Баранавічы. Інэса і Венанцы перайшлі ў кватэру яе маці.

Венанцы працаваў афарміцелем, маляваў пейзажы, гравюркі, пісаў вершы і прозу — пераважна ў стол. Ёсць такія творцы, якія пішуць для сябе і сяброў, з якімі ім хочацца дзяліцца думкамі, та-

лентам. Калі ж прачытае нехта староннi, то і ён далучаецца да сяброў...

Толькі ў 2001 годзе ў «Святліцы» з дапамогай грамадскага аб'яднання «Варута» Бутрым выдаў уласную кніжачку вершаў «У барвах зямлі», дзе сваімі графічнымі малюнкамі аформіў вокладку і чатыры раздзелы. Я была ў яго рэдактарам... Прачытала ўважліва змест, сказала свае заўвагі... З некаторымі аўтар не пагадзіўся... А дзве кніжачкі паэзіі выдалі сябры ўжо пасля яго смерці — на беларускай і на расейскай мове. Зборнік «Паралелі» (2003) выдала «Святліца» з дапамогай «Варуты», а адрэдагаваў Леанід Дранько-Майсюк... Кніжачка ўпрыгожаная малюнкамі аўтара — гусі, жураўлі, жаўранкі і коні адлятаюць у вырай... Крыж на горцы...

Кніжку «В пространстве и времени» (2007) выдавала Інэса Паўлаўна, у Баранавічах... І рэдактуру, і афармленне, і карэктуру зрабілі сябры са «Святліцы», якія па-ранейшаму памяталі Венанцы Бутрыма, — *любоў ніколі не мінае*... Графічных малюнкаў аўтара хапіла і на гэтую кнігу... Вецер, дрэвы, птушкі, дзьмухаўцы, нябёсы...

Інэса Паўлаўна пасля яго смерці вырашыла апублікаваць і прозу. У яе памяці гучалі словы мужа пра тое, што ўсе апавяданні пасля яго смерці загінуць... Дзеля таго, каб выратаваць прозу, Інэса Паўлаўна шукала выдаўца, не маючы ніякага вопыту, таму гэта заняло шмат часу. Нарэшце прыслала мне два асобнікі і ліст, у якім прызнаецца, што кніга прайшла шматпакутны шлях у прасторы і ў часе. Цяпер усё выданне яна з сынам раздае тым людзям і бібліятэкам, якія зацікаўленыя ў развіцці мастацкага слова...

Я доўгі час ліставалася з Венанцым. Ён звяртаўся да мяне прыгожа — «васпані». Дасылаў паэзію, а з прозы я ведала адзін яго тэкст — апавяданне «Магілка» (2002), якое спрабавала аддаць у часопіс, але аўтарытэту майго не хапіла. Цяпер я перачытала гэты твор з яшчэ большым здзіўленнем... У апошні час з такім жа здзіўленнем я чытала кнігу «Мост на рацэ Дрыне» нобелеўскага лаўрэата Іва Андрыча — гэтую кнігу мне далі пачытаць тады, калі я выдала «Мост святога Францішка». У той кнізе аўтар здолеў «упакаваць» на мост метафарычнай мовай любові ўсю драматычную гісторыю неўміручага народа... Венанцы напісаў твор меншага памеру, але і ён здолеў нагрувасціць шмат роднага... Як уступ да галоўнага здарэння — разважанне пра месца, дзе знаходзяцца магілкі на Голі... Тлумачачы сэнс назвы Голь, Бутрым расказаў і пра захопніцкую палітыку «старэйшай сястры», і пра бітву 1863 года, і пра сучасную палітыку... Складаныя сказы мовы... Ціхія разважанні правінцыйнага мысляра, які стаіць на ганку і бяздумна марудзіць: клямка ўжо не ха-



Работа над копіяй. 1957 г.

лодзіць руку, пацяплела, сагрэлася, а ён усё не ступае за парог...

І адчуванне мастаком каляровай стракатасці сусвету... Пакуль дайшоў да галоўнага здарэння — пахавання ў магілку статуі Маткі Боскай, нібы памерлага чалавека... Гіпсавая статуя доўгі час знаходзілася ў вясковай хаце і была для верніцаў Суцяшальніцай, Касцёлам, месцам збору на малітву... Але ўнучка гаспадыні хаты, дзе збіраліся верніцы, была выхавана савецкай школай як атэістка, ненавідзела сваю бабулю, а таму — не любіла Матку Боску... Унучка пабіла статую, якую ўдалося выратаваць, калі разбуралі капліцу, — статуя з гіпсу, не цяжкая, таму жанчыны схавалі яе ў кустах, а ўночы перанеслі праз лес за сем кіламетраў...

Першае па напісанні апавяданне «Апошнія канікулы» (снежань, 1972 — сакавік, 1973 год). Васіль Быкаў сказаў, што гэта практыкаванне ў стылістыцы, не болей...

У сямідзесятыя гады нашы празаікі трымаліся традыцыйнай будовы апавядання, дзе ёсць выразны канфлікт, падзея, пачатак і канец... Але ж у апавяданні Бутрыма ўсё гэта ёсць. Хлопец скончыў школу, і з мамай яны вырашылі, што будзе працаваць лабарантам у інстытуце, толькі не ў тым, дзе працавала мама. Знаёмы мастак, старэйшы за хлопца на гадоў 15, прапанаваў яму паехаць на сваё «старое месца» на пленэр. У мастака былі там даўнія сябры — бабуля, у якой спыніліся, дзед, апавядальнік даўніны, цёця Ліда, у сталоўцы якой абедалі... А хлопец увесь час ходзіць побач, адпачывае, назірае і думае... У яго людскія думкі: *«Есть вещи, которые мы принимаем безоговорочно, интуитивно чувствуя правильность выбора. Таким был и остался для меня „Мост“»*, — так ён думае пра карціну мастака, якая



На эцюдах, р. Беразіна. 1964 г.

знаходзіцца ў музеі... Мост з карціны хлопец убачыў там, дзе яны адпачываюць, — блакітны мост у вечаровых промнях... Мяне здзівіў такі выраз — *цёмныя стагі ліпаў*... Або: *цішыня і чорнае зорнае неба здаваліся такімі старажытнымі, што я не мог знайсці ім ніякага параўнання, не мог гаварыць громка*...

Хочацца, каб героі ў апавяданні не толькі з'яўляліся і знікалі, але каб пра іх даведацца крыху болей... Вось шафёр, які любіць маляваць, але ў яго няма «цялесных» фарбаў... Жанчына, якая просіць мастака, каб намаляваў нажнічкі, — яна страціла памяць, калі ў яе памерла дзіця... На гэтым тэксце добра было вучыць пісаць маладога празаіка. Але Васіль Быкаў лічыў, што аўтар павінен сам вучыцца пісаць. У той час проза лічылася суровым жанрам, толькі лірычнае слова Янкі Брыля неяк праходзіла ў друку.

Венанцы Бутрыму ў аповесці «Юнгі» ўдалося перадаць драматызм вайны — людзі нарадзіліся ў добрай сялянскай хаце, былі навучаныя бацькам працаваць на гаспадарцы, а давялося ім так недарэчна загінуць, не ўмеючы ваяваць.

Венанцы Бутрыму ў пачатку вайны было ўсяго пяць гадоў, ён памятаў вайну з назіранняў збоку, а можа, знутры дзіцячага страху, але меў смеласць разварушыць самыя раннія ўспаміны дзяцінства...

Напісаў пра такіх ваякаў, як Юнгі,— большасць тутэйшых былі такімі... За каго ваяваць, за якую краіну, за якую будучыню, — хлопцы гэтага не ведалі, іх не навучылі... Смейцеся з нас, мы не героі, якія кідаюцца пад кулі! У Бутрыма вобразы не герояў атрымаліся пераканаўча... На ўсе гэтыя пакуты пайшло шмат словаў, але чытаць апавяданне лёгка — мова цячэ, як крыніца... Так думаць пасля вайны было забаронена — калі пісьменнік паказваў не герояў, то ён павінен быў неяк апраўдацца за іх перад чытачом... Венанцы апавядаў без апраўдання — так было...

У апавяданні «Ліпеньскім днём» (1974), пастаўленым у кнізе першым, працягваецца расказ пра недарэчныя ахвяры вайны ўжо ў канцы вайны, калі ўсе ў вёсцы Каменцы думалі, што немцы ўцяклі...

Аповесць «Апошні эшалон» — пра пакутныя блуканні і змаганні хлопца Юліка. Да яго з таго свету прыходзіла маці, як жывая, і вачамі падказвала, што рабіць, дадавала адвагі і сілы...

Так яны пісалі ў той час, а мы іх чыталі, былі іх сучасніцамі і сяброўкамі. І самі шмат чаго пражылі — гэта было наша жыццё, але не наша вайна... Новае пакаленне ваенную літаратуру не чытае так ахвотна. Але будуць новыя пакаленні. Аднойчы зноў прыйдзе час і людзі зноў пачнуць чытаць кнігі пра страшную вайну, якая забірала жыццё проста так. Гэта будзе іншае, новае прачытанне і асэнсаванне... А нам, стомленым ад вайны, да яе давялося вярнуцца, бо Венанцы Бутрым напісаў пра яе, але ў гарачы час не апублікаваў.

Кажуць: напісанае — застаецца. Увогуле, застаецца надрукаванае... Проза Венанцы Бутрыма пра вайну застанецца, зойме сваё месца ў літаратуры, магчыма, адыграе ролю таго каталізатара, які верне чытацкую ўвагу да ваеннай прозы, таму што апрача напружаных вострых сюжэтаў, у гэтага аўтара ёсць добры стыль, прыгожая самабытная мова, шмат жывых прыгодаў, дэталяў, назіранняў. Усё запоўнена хрысціянскай дабрынёй, людскасцю, любоўю да сваёй зямлі, да роднай хаты, да сям'і, да людзей блізкіх і далёкіх, да чалавецтва... Героі ў аповесцях не здзяйсняюць геройскіх подзвігаў, але любяць спрадвечны ўклад жыцця — бацькі любяць дзяцей і вучаць іх любові да людзей, дзеці жывуць па навуцы бацькоў. Сям'я — гэта галоўная вартасць чалавецтва ў творах Бутрыма...

Гляджу на фатаграфію, з якой яны ўсе да мяне ўсміхаюцца, і я сярод іх. У садзе іхняга ўніяцкага святара Яўгена Маліноўскага, пад яблынькай, дзе мы сустракаліся 28 жніўня 2009 года. Прыгожыя мае сябры з баранавіцкай «Святліцы»... У цэнтры сябрыны — іх лідар Віктар Сырыца, недалёка — Алёша Белы і Валер Палікарпаў, гэта той краязнавец, які некалі паслаў запрашэнне ў Польшчу сыну Ларысы Геніюш, за што быў звольнены з працы... Шмат маладых жанчын...Адна з гітарай... У першым радзе ўсміхаецца Іван Лагвіновіч, які памёр 29 сакавіка 2011 года, збоку — Янка Збажына, які памёр 11 лютага 2011 года... Венанцы Бутрым містычна ёсць на гэтай фатаграфіі: калі б яго не было, то я наўрад ці даехала б у Баранавічы. Запрасіў нас з Паўлам Мажэйкам у госці да сяброў Алёша Белы, і ён ведае, што ў «Святліцы» светлай стваральнай асобай быў Венанцы Бутрым, яго сябра...

Пасля смерці Бутрыма сяброўка Інэса прыслала мне дзве невялікія карціны Венанцы — ён іх напісаў спецыяльна для мяне, але сам не паспеў выслаць. На карцінах у сініх рамачках — досвітак на сенажаці, трава больш сіняя, чым зялёная, расце ў вадзе, азёры Венанцы пісаў белай фарбай. На адной карціне два конікі пасуцца — каштанавы і блакітны... Нябёсы — містычныя сумныя птушкі... Я яму вельмі ўдзячная за гэты досвітак, за конікаў... У малітве за памерлых я думаю пра душу сябра і пра душы коней нашай Краіны, якія перажылі не меней, чым людзі...

Будучы невылечна хворым, Венанцы меў патрэбу расказаць пра тое месца, дзе прайшло яго жыццё. «Молчаливые грустные птицы» (2001) — твор містычны, складаны для чытання і зразумення... Мне растлумачыла Інэса, што Венанцы ў апавяданні расказаў свой сон, які яму часта сніўся... Я гэта ведаю, бо маю падобныя сны...

Інэса Паўлаўна доўга шукала назву кнігі... Рэдактар Барыс Пятровіч прапанаваў назваць кнігу «Маўклівыя сумныя птушкі», бо ў птушках са сну можна ўбачыць развітанне двух закаханых сэрцаў, іх душы ці духі, якія не маюць матэрыяльнага цела, і насельнікаў Краіны, якія, згубіўшы родную мову, сталі нямымі птушкамі... Карціна Венанцы Бутрыма — пейзаж ветранага неба, якую жонка з сынам выбралі для вокладкі кнігі, у арыгінале не мае адочных птушак, іх намалявалі ў камп'ютарным варыянце... Ды я на карціне ў святлаценях бачу бесцялесных птушак...

У аповесці «Хата» (чэрвень — кастрычнік 2002 года) няма традыцыйнага сюжэту, але гэта галоўны твор у кнізе. Шмат новага можна даведацца з гэтай аповесці — і краязнаўчага, і каларытных мясцовых словаў роднай мовы...

Родная хата, дрэвы, пасаджаныя продкамі, да якіх аўтар адносіцца як да жывых,— яго дрэвы маюць душы, ён размаўляе з імі, нават ужо з пасохлымі... Непрыгожых дрэваў не бывае...

Крыж пры дарозе з букецікам жывых кветак, ад самых першых з-пад снегу да самых позніх, лямпачка, прымацаваная так, каб асвятляла закрытыя вочы Укрыжаванага і церні на Яго скронях... Венанцы меў той самы клопат, які мела я, калі пісала «Мост святога Францішка», — расказаць пра Беларусь, якую знішчаюць... Бутрым стварыў вельмі ўдалы твор — ён меў добрую бацькаву хату...

Ён вяртаецца да гістарычных пачаткаў:

*«Пачаткова нібыта быў у каго куток-зацішак у пячоры-нары, а ў каго нейкае падабенства гнязда на дрэве, з галля, на адну начоўку; потым згледжаная і неяк абжытая яма-зямлянка ў вывараце магутнай хвоі... А тут неяк наплывае, маячыць яшчэ адна, паралельная, аддаленая па часе версія: ЭДЭМ. Не падзеленая на закуты, куткі, пакоі і кватэры, звышдобразычлівая, бясконцая, блаславлёная ва ўсіх адносінах прастора... Адным словам, ужо незаменнае на сёння вызначэнне: рай. І жыві, і вечна!... „А наш Край пад небам Боскім — ці ж не родная хата агулу?“»*



Здымак 2001 г.

Згарэла хата. Не ўдалося выратаваць нічога. Вярнуліся ў бабуліну на скрыжаванне вуліц Гуменнай і Загуменнай з *плоскім каменем адной прыступкай...*

У нашай хаце камень каля парога, але мы ніколі не называлі яго прыступкай. Рэчка, праз якую ходзяць уброд, а дзе перабіраюцца *па лавах кладак...* Вельмі прыгожа і дакладна апісвае Венанцы краявід роднай мясціны... Я даведваюся, што *гладыёлусы* — гэта *мечыкі*, а ў нас іх называюць *цыбулькі... Венцярок* у іх называюць *морда...* І рыбу тут не лавілі *дзеля забавы,* а толькі *на святы... Валак* называецца *рубель*, я гэта ведала, але забылася... Адно слова так і не ўспомніла, што гэта такое — *каўстык...* Вельмі прыгожа ён апісвае аселіцу, крыніцу, *шчылястую* адрынку... І шмат такіх мілых забытых беларускіх назваў... Напрыклад, *тупарылыя машыны з рускімі салдатамі...*

Ёсць у «Хаце» і гісторыя, і палітыка, і літаратура, і рэлігія, і хрысціянская мараль...

...У хаце чакаюць Вялікадня. І колькі светлай радасці ў чаканні свята! Як прыбіраюць хату, мыюць вокны — шыбаў нібы зусім няма, такія яны чыстыя... Як мяняюцца звычайныя рэчы, якім важным прадметам робіцца стол, засланы чыстым абрускам!..

*«Цэнтр стала зойме звычайная талерка з незвычайным: на зялёнай шчотцы загадзя прарошчанай руні белы баранчык з чырвоным сцяжкомхаругвачкай, фарбаваныя яйкі, мо нават і пісанкі,*

*побач — свяцонае; ну а вакол — і ежа, якія ўжо ёсць, прысмакі — свята ж!»*

І проста нельга не прывесці яшчэ адзін маленькі ўрывак пра тое, як упрыгожваюць у хаце абразок, з якой любоўю і ахвотай...

*«...Абраз бясконца задумлівай Маці Божай з Дзіцяткам на руках ужо тыдзень, ад Вербнай, як цудадзейна абноўлены, у раме-вянку з ружовабелых кветак: гэта дзяўчо, падлетак, без панукі, не адрываючыся, сядзела з нажніцамі над каляровымі паперкамі. Дарослыя моўчкі прыпыняліся ля майстрыхі...»*

Вялікдзень прыйшоў, а бабуля пачала паміраць. *«Неяк увечары, памаліўшыся, выказала крыху нечаканае жаданне: „Трэба Амільку...“»*

Забыліся ўжо пра тую цётку Камілю, але знайшлі яе і прывезлі... Колькі разоў у вёсцы мне апавядалі падобныя гісторыі пра тое, як чалавеку перад смерцю нечага захацелася, і як яны гэта спаўнялі!

Хата робіць чалавека вартым, значным...Чалавек, які губляе хату, губляе з ёй усё чалавечае, мяняецца...

*«Няма яе — і ўвечары сціплы сусед не адчыніць брамкі, не пройдзе стамлёным крокам да старой лавачкі — прысесці, перакурыць, памаўчаць, перакінуцца з табою скупым словам — яшчэ раз прайсці пражыты на гэтай зямлі дзень.*

*Дабранач вам, мае суседзі!..»*

У кнізе некалькі твораў малога памеру. Сярод іх адметная «Легенда о храмовом кресте» (2001). Усе святыні на зямлі былі знішчаны. У нейкай спецзоне шэф прымушаў падначаленых, каб у справаздачах да сухіх пратаколаў дапісвалі свае назіранні. Інспектар праверыў усю гаспадарку на зоне, а пасля праверкі аглядаў у бінокль наваколле, і ў яго поле зроку трапілі царква і крыж на купале. Інспектар і напісаў у справаздачы, што ў зоне, якую ён праверыў, усё добра, а на храме ззяе пазалочаны крыж... І што тут пачалося! Думалі, што гэты інспектар або напіўся або здурэў. Праверылі. Крыж сапрады захаваўся. Выклікалі верталёт, і дэсантнік зачапіў трапам «рукі» крыжа — яго вырвалі з вежы царкоўкі... Усе супакоіліся, але назаўтра ранкам на тым самым месцы вартаўнік убачыў крыж — праўда, не залаты, з неабкоранай бярозы...

Венанцы Бутрым пісаў на беларускай і на расейскай мове. Пісаў па-расейску, магчыма, для таго, каб тутэйшыя расейскамоўныя яго прачыталі і павярнуліся да Беларусі...

У сям'і Бутрымаў пры бацьках размаўлялі на польскай і на беларускай мовах — адкуль жа Венанцы чэрпаў такія загубленыя словы? Можа, гэта ад таго, што расейскую ведалі, чыталі класікаў...

«Северо-западное направление» і «Башни» — гэта ўласная гісторыя Венанцы Бутрыма, разам з геаграфіяй і краязнаўствам, успамін з дзяцінства, адноўлены і ўзмоцнены, паглыблены перажытым і прачытанымі кнігамі, вуснымі гісторыямі іншых людзей... Пісаў, як пішуць дзённікі, але датаў пад урыўкамі не ставіў. Часам ствараліся невялікія замалёўкі, часам — вялікія, значныя — роздумы, разважанні, сумненні, пытанні, падзеі... асобы, героі, творцы, людзі, філасофія, мараль, архітэктурныя стылі, пагоркі, вежы, успаміналіся або ствараліся вершы...

Венанцы Бутрым меў талент чалавека, ён умеў слухаць людзей і размаўляць з імі, таму не адна Інэса адчувае яго жывую прысутнасць на зямлі — сябры яго таксама памятаюць...

Гісторыя паводле Бутрыма — гэта кожны пражыты дзень, без ніякага выключэння, не іначай...

Прафесійныя гісторыкі надта не любяць, калі ў гісторыю заходзіць не гісторык... Але добра, калі такія выпадкі здараюцца, нехта спрабуе разбураць стэрэатыпы і выказваць сваю праўду пра тое, што ўжо было, і чаму так было... Бо мы пражылі надта доўга ў таталітарнай краіне, дзе некалькі пакаленняў прымушаныя былі з дзяцінства не пярэчыць, а паўтараць уголас адну і тую ж афіцыйную версію...

Новыя думкі, як вольны вецер, прасвятляюць мазгі,— тады нечакана вырываюцца аднекуль свае, бывае — як струмень з нетраў зямлі, а бывае — як гарачая лава вулканаў...

Прышэльцы разбуралі нашы сем'і, сядзібы, руйнавалі культуру побыту, выводзілі са спакою, уводзілі ў злосць, дражнілі рознымі цацкамі распусты, адцягвалі ад спрадвечнай місіі жыцця...

Кожная зямля мае сваю душу, а прышэльцы разбураюць душу... Сейбіты словаў лечаць сваю зямлю малітвамі, думкамі; словы — лекі для пакалечанай зямлі... У слоўных пасеваў свой тэрмін збору плёнаў...

Нічога не бывае выпадковым. Не выпадкова прыйшла да чытача цяпер, а не тады, калі была напісана, кніга прозы Венанцы Бутрыма «Маўклівыя сумныя птушкі»...

*Данута Бічэль, Гародня.*

---

**Данута БІЧЭЛЬ** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008) і «Мост святога Францішка» (2010).



«Максім Багдановіч і Зоська Верас (Л. А. Сівіцкая) у Мінску, восень, 1916 г.»
Малюнак мастака Івана Пратасені.
З фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.
Папера, аловак. 50х37,5.

# ПАЭЗІЯ ЖЫВАТВОРНАГА СВЯТЛА

## Да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча

Паэзія Максіма Багдановіча хавае ў сабе надзвычайную таямніцу, загадку, якую разгадваюць ужо цэлае стагоддзе некалькі пакаленняў, захопленыя яе гармоніяй, хараством, дасканаласцю. Яна ўся нібы пранізана жыватворным святлом, вырастае з зямнога і скіроўваецца ў нябеснае. Яна ўспрымаецца як цуд, як Божы дар для Беларусі, спасланы на руіны яе заняпаду для святога адраджэння. Паэзію Багдановіча можна назваць цудатворнай, бо яна ацаляе душы тых, хто да яе прычыняецца, прасякае іх святлом і ласкай, бо сама ёсць жывым сведчаннем ласкі і святла, што маюць нябеснае паходжанне. Як апосталы былі пакліканыя Хрыстом абвяшчаць Евангелле ўсяму свету, так Багдановіч быў пакліканы прамаўляць хрысціянскія праўды і ідэалы праз мастацкае слова. Даследчыкі ўжо неаднойчы звярталі ўвагу на пранізанасць усёй творчасці паэта хрысціянскім духам, на наяўнасць у ёй хрысціянскіх матываў. Асабліва глыбока і шматгранна гэтыя аспекты творчасці Багдановіча былі разгледжаны ў артыкулах Уладзіміра Конана [1] і Валянціны Дышыневіч [2].

Хрысціянскі дух нібы раствораны ва ўсёй творчасці Багдановіча, у яго паэзіі і прозе. Як вядома, паэт гадаваўся ў рэлігійнай хатняй атмасферы, а маці яго, Марыя Апанасаўна Мякота, паходзіла са святарскай сям'і. Ён з маленства ведаў малітвы, хрысціянскія святы і быў далучаны да жывой практыкі веры, бо нядзельныя наведванні службы Божай у царкве былі на той час абавязковымі ў паважных хрысціянскіх сем'ях. Несумненна, што ён добра ведаў Біблію і іншыя рэлігійныя творы, такія як духоўныя вершы і песні, а таксама апокрыфы, што адбілася не толькі ў вобразах і матывах, але і ў жанрах, якія ён абіраў. Так, вядомы яго празаічны твор «Апокрыф» (1913) прысвечаны самой сакральнай сутнасці мастацтва, і менавіта стылізаваная форма новага «апакрыфічнага Евангелля» ад Максіма Кніжніка дапамагае падкрэсліць гэтую сакральнасць.

Згадаем асноўныя моманты з багдановічаўскага «Апокрыфа». У ім разгортваецца вострая дыскусія аб мастацтве, яго ролі ў грамадстве. У цэнтры твора Музы́ка, якому сорамна падчас жніва, бо «ўсе клапоцяцца каля зямлі», а ён адчувае сябе «нікчэмным чалавекам». Музы́ка скардзіцца на тое Хрысту і святым Пятру і Юрыю, якія тады вандравалі якраз па Беларусі. Апакрыфічны Хрыстос тлумачыць Музы́ку, што песня — такая ж годная справа, як і праца на зямлі, бо менавіта песня ўпрыгожвае працу, робіць яе спарнейшай і ўзвышае душу. На гэта запярэчыў святы Пётр, сказаўшы: «Вучыцелю, у гэтай краіне ёсць людзі, каторым няма чаго есці. Ці ж не сціснецца ад сораму сэрца таго чалавека, каторы,



шукаючы скарынкі хлеба, прыйдзе з песняй да іх?» Хрыстос ізноў адказаў: «Так, жыццё гэтых людзей цяжкое, беднае і прыгнечанае. Чаму ж ты хочаш яшчэ пазбавіць іх красы?.. Ты, шкадуючы галодных людзей, асудзіў песню, але самі галодныя не асудзілі яе». Тады Пётр сказаў, што ў песнях павінны быць думкі, якія настаўлялі б чалавека ў штодзённым жыцці, — гэта значыць, каб песні былі карысныя. На што быў яшчэ адзін сакрамэнтальны адказ Хрыста: «Няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсць той спажытак для душы». І нарэшце, красамоўным завяршэннем багдановічаўскага апокрыфу стала прытча аб васільках у жыце, якія практычна з'яўляюцца непатрэбным пустазеллем на жытнёвым полі, але гаспадары-сяляне ніколі іх не выполваюць, цешачыся з іх кранальнай прыгажосці і спяваючы пра іх песні. Дзякуючы Багдановічу васілёк стаў беларускім сімвалам Айчыны і новага мастацтва, сімвалічным увасабленнем чыстай і бескарыснай красы, самакаштоўнай самой па сабе. Гэта быў ключавы момант новай эстэтыкі на пераломе стагоддзяў, а «Апокрыф» Максіма Багдановіча стаў яе маніфестам. Так была прамоўлена ісціна аб боганатхнёнасці мастацтва, якое ёсць адбіткам Божай красы і дасканаласці.

Вобраз Хрыста з'яўляецца ў Багдановіча і ў вершы «Цемень» (1909), прысвечаным ялцінскай знаёмай паэта М.А.Кіціцынай. У гэтым вершы з глыбокай праўдзівасцю перададзены стан душы чалавека-верніка, які зведвае моманты тугі, богапакінутасці і пустаты. Але светлы вобраз Божага Сына здольны напоўніць душу святлом, надзеяй і спакоем. Верш гучыць як адказ на ісціну, прамоўленую Хрыстом: «Без Мяне нічога не можаце зрабіць » (Ян 15, 5).

*Я сяджу без агню. Я стаміўся, прамок.*
*Над зямлёю — імгла, у душы маёй змрок.*
*О, як пуста у ёй! О, як халадна жыць!*
*Але вось цераз цемень маланка блішчыць,*
*Асвячае мне вобраз Хрыста... Яго крыж...*
*Ажываеш, здаецца, душою гарыш.*
*Але толькі чаму ж так малы гэты час?!*
*Зноў навокала цемнь. Свет зірнуў і пагас.*
*Не глядзіць на мяне ясны вобраз Хрыста.*
*Над зямлёю імгла, у душы пустата*[3] .

Культура хрысціянскага пісьменства і пашана да кнігі кнігаў — Бібліі — адбіліся ў вершах цыклу «Старая Беларусь» зборніка «Вянок». У вершах «Летапісец» і «Перапісчык» выпісаны кранальныя вобразы руплівцаў, якія ў манастырскіх скрыпторыях старанна перапісвалі кнігі — біблейскія і свецкія (летапісы). Багдановіч апісвае цяжар і прыгажосць гэтай працы, адданасць ёй сваіх герояў, якія разумеюць не толькі важнасць, але і святасць свайго занятку. Верш «Кніга» працягвае тэму рукапіснай біблійнай кнігі на Беларусі. Лірычны герой яе — сучаснік аўтара, які з душэўным трапятаннем адкрывае старую кнігу — Псалтыр, чытае яе, захапляючыся прыгажосцю і велічнасцю псальмаў, а ў канцы бачыць прыпіску аб тым, што гэтую кнігу «дзяк Гапон дзеля душы спісаў у месту Ваўкавыску...». Згаданы дзяк Гапон мог быць акурат і тым перапісчыкам з аднайменнага верша, які цешыўся кожнай выведзенай літаркай Святога Пісання. Верш утрымлівае і непасрэдную цытату з 41-га псальма цара Давіда: «Як лань прагне вады з патоку, так душа мая прагне Цябе, Божа!»:

*Псалтыр, пакрытую няжорсткай бурай кожай,*
*Я ўзяў і срэбныя засцёжкі адамкнуў,*
*Перачытаў рады кірыліцы прыгожай*
*І воску з ладанам прыемны пах пачуў.*

*Вось псальма слічная: «Як той алень шукае*
*Крыніцы чыстай, так шукаю Бога я».*
*Як вее свежасцю яе краса жывая!*
*Як радасна ўсё дальш спяшыць душа мая»...*
(1, 89).

Па адным гэтым радку, устаўленым у тэкст, няцяжка здагадацца, што Багдановіч мог быць выдатным перакладчыкам Псалтыра і іншых біблейскіх тэкстаў на беларускую мову, але, відаць, яму для гэтага проста не хапіла жыцця, якое так рана абарвала цяжкая хвароба. І ў гэтых радках ён застаецца песняром «красы жывой», якая дае вечную радасць і наталенне паўнатой быцця.

У цыкле «Старая спадчына» зборніка «Вянок» ёсць шырокавядомы санет, прысвечаны слыннаму тагачаснаму расійскаму славісту А.Пагодзіну, у якім гучыць пераасэнсаваная Багдановічам у кантэксце тагачаснага нацыянальнага

становішча евангельская прыпавесць пра пшанічнае зерне, якое дае плён толькі будучы пахаваным у зямлі: «Сапраўды, сапраўды кажу вам: калі пшанічнае зерне, упаўшы ў зямлю, не памрэ, то застанецца адно, а калі памрэ, то прынясе багаты плён» (Ян 12, 24). Вобраз знойдзенага ў егіпецкай магіле засохлага зерня, жыццёвая сіла якога не была страчана і «ўскаласіла парой вясенняй збожжа на раллі», становіцца ў Багдановічавым санеце сімвалам «зварушанага народнага духу», сімвалам будучага адраджэння «забытага роднага краю», які абудзіцца нарэшце ад свайго гістарычнага нябыту.

Позірк паэта заўсёды ў часіны перажыванняў скіроўваецца ў нябёсы, там шукае спакою і раўнавагі:

> *Падымі ў гару сваё вока,*
> *І ты будзеш ізноў як дзіця,*
> *І адыйдуць-адлынуць далёка*
> *Ўсе трывогі зямнога жыцця* (1, 74).

Каб увайсці ў Валадарства Божае, трэба быць як дзеці, сказана ў Евангеллі. Багдановіч па-свойму ў вершаванай форме паўтарае гэтую евангельскую ісціну. Менавіта нябёсы даюць адчуванне ўзлёту, крылаў, на якіх душа ўзлятае «ў сінюю вышу», каб там змыць «свой пыл», пазбавіцца нуды і турботаў. Такое духоўнае ўзрастанне дае адчуванне цэльнасці і паўнаты быцця, дакранання да вечнасці. Багдановічу як паэту з чуйнай душой і хворым целам асабліва было ўласціва адчуванне хуткаплыннасці, часовасці зямнога жыцця і непазбежнасці сыходу, смерці. «*Жывеш не вечна, чалавек, — // Перажыві ж у момант век!*», — заклікае ён у іншым вершы і дадае: «*Жыві і цэльнасці шукай, // Аб шыраце духоўнай дбай*» (1, 121). Менавіта такая духоўная пастава стварае «напружэнне паўнаты», што дазволіць ціха, без болю сысці «*ў краіну забыцця*». У гэтым прадчуванні смерці няма ніякага надрыву, істэрыі. Тут дамінуе настрой радасці. Як і ў па сутнасці трагічным рускамоўным апавяданні «Колька» пра хворага хлопчыка.

Тэма дзяцей была адной з найулюбёных для Багдановіча і раскрывалася ім заўжды вельмі кранальна. У згаданым апавяданні ізноў прысутнічаюць нябёсы. Менавіта кавалачак блакітнага неба бачыць маленькі хворы Колька (яму няма і трох гадоў) са свайго ложка пад акном, і яно нагадвае яму «*блакітны, з залатымі на ім зоркамі, купал маленькай парафіяльнай царквы, да якой у апошнюю нядзелю насіла яго прычашчаць ягоная маці*» (2, 20). Там у глыбіні алтара хлопчык пабачыў абраз Уваскрасення і ў часе малітвы ён неадрыўна глядзеў на светлы, увесь у ззянні вобраз на ім: «*Вобраз у алтары зліваўся для яго з вобразам старэнькага святара, і калі ён, заплюшчыўшы вочы, прыняў прычасце, ён не ведаў дакладна, хто*



*яго прычасціў? Ці святар, ці Той, які ўзнімаўся ў блакітную вышыню з распасцёртымі, благаслаўляючымі рукамі?*» Калі гэты хлопчык паміраў, зайшоўшыся ад плачу і страціўшы прытомнасць, бо не было каму яго суцешыць, то ізноў убачыў «*нізка, нізка над сабою блакітны купал з залатымі зоркамі. Ад гэтага купала ўвысь разыходзіліся залатыя промні — цэлыя снапы залатых промняў. Промні гэтыя зліваліся ў доўгі залаты шлях. І шлях гэты вёў у маленькую вясковую царкву, праз царскія вароты, проста ў алтар да абраза Уваскрасення. Па гэтым шляху ішоў да яго, маленькага хворага Колькі, Той самы светлы, прамяністы, на якога ён глядзеў, калі прычашчаўся*» (2, 23). Хрыстос прынёс Кольку яйка — «*блакітнае, як неба, і ўсё ў залатых блёстачках*». А залаты прамяністы шлях «*вядзе ўжо не ў царкву, а кудысьці ў бязмежную высь, далёка, далёка. Там, наверсе, з распасцёртымі, благаслаўляючымі рукамі стаіць Той, каго Колька бачыў на абразе Уваскрасення ў маленькай царкве, Хто йшоў да яго цяпер у сонме анёлаў і Хто пад выглядам яйка прынёс яму вечнасць*» (2,23).

Эпізоды з дзіцячага жыцця Багдановіч падаў і ў іншых рускамоўных апавяданнях: «Катыш», дзе апісваецца гульня «наўбіткі» велікоднымі яйкамі, а таксама «Цуд малога Петрыка» — пра хлопчыка, які марыў убачыць казачную марскую царэўну і ўтапіўся. Толькі цуд выратаваў яго жыццё. Гэтыя апавяданні сагрэтыя хрысціянскай любоўю, верай. У іх з дасканалым майстэрствам малююцца жыццёвыя сітуацыі, з псіхалагічнай глыбінёй матывуюцца дзіцячыя паводзіны. Яшчэ адзін дзіцячы вобраз неабходна згадаць, прычым ён па-свойму ўнікальны. Гэта вобраз Багдановічавых мадоннаў, у якіх аблічча дзяўчынкі і дзяў-

чыны зліта з рысамі мацярынства — «*двайной красы аблік ядыны!*». Гэтыя вобразы выпісаны ў паэтычным цыкле «Мадонны», змешчаным у зборніку «Вянок», і рускамоўным празаічным эцюдзе з той жа назвай «Мадонны». Вобразы звязаны з мастацкім шэдэўрам Рафаэля Санці, з увасабленнем ім вечнай красы Дзевы-Маці — Багародзіцы ў славутым абразе «Сікстынская Мадонна». Для Багдановіча, які ў рэальным жыцці вакол сябе заўважыў такую ж загадкавую «двайную» асаблівасць жаночага харства, гэта была яшчэ адна нагода гаварыць аб красе і каханні, увасабленні гэтай красы ў мастацтве.

Апавядальнік у эцюдзе разважае аб даўніх мастаках, якія пісалі мадоннаў, імкнучыся да дасканаласці і паўнаты ўвасаблення прыўкраснага. Дзеля гэтага «спрабавалі яны ў адным твары зліць паміж сабой рысы і дзявоцкай, і мацярынскай красы. <...> Малюючы яе, гэтую Дзеву-Маці, яны лягчэй за ўсё маглі перадаць сваю ідэю. <...> А паколькі Мадонны тыя — недасяжныя вяршыні мастацтва, Манбланы яго, ці што, значыць, як я і казаў, зліццё абедзьвюх рысаў жаноцкасці ў нейкі маналіт — гэта і ёсць вянец усялякай прыгажосці» (2, 45–46). Далей апавядальнік — чалавек пажылых гадоў — расказвае пра рэальны эпізод, падгледжаны ў жыцці, калі ён быў яшчэ студэнтам семінарыі. На вясковай вуліцы ён убачыў заплаканае дзіцятка, («карапуза»), якое, спалохаўшыся сабакі, пабегла, спатыкнулася, упала ды папаўзло да сваёй нянькі: «А нянька тая — ну, проста дзяўчо, гадоў васьмі, — нахілілася да яго так заклапочана, тварык рукавом абцерла і, ведаеце, рознымі так жаночымі словамі ўгаворваць пачала. Але тут, памятаю, дужа ўразіў мяне чыста мацярынскі выраз, які ў той момант з'явіўся на яе твары» (2, 47). Здзіўленне героя вылілася ў роздум аб найвышэйшай красе, якую ён угледзеў у замурзанай, худзенькай, абарванай вясковай дзяўчынцы: «Найвышэйшая краса ў яе была, вось што, а якая — не зразумеў я тагды; толькі ўжо потым, стоячы перад дрэздэнскімі Мадоннамі і згадваючы той выпадак, зразумеў я, што бачыў менавіта тую красу, якую мастакі стараліся адлюстраваць у гэтых карцінах» (2, 48). Гэтую ж сустрэчу з малалетняй нянькаю — «дзяўчынкай-маці» — увасобіў Багдановіч і ў вершы «У вёсцы» з цыклу «Мадонны»:

*Я спудзіў хлопчыка; на руках і нагах*
*Ён, бедненькі, папоўз па траўцы ля сцяжынкі,*
*Да нянькі траплячы —*
*так год васьмі дзяўчынкі...* (1, 145).

Далей паэт апісвае сваё здзіўленне і замілаванне гэтай сцэнай, калі дзяўчынка, «зусім як быццам маць», пачала выціраць слёзкі і супакойваць малога. Менавіта тады ён убачыў сімвалічнае зліццё двух абліччаў харства — дзявоцкага і мацярынскага — у адным жывым вобразе. І гэта натхніла яго на незвычайнае параўнанне, якое завяршала роздум аб паўнаце красы, выяўленай праз загадку Дзевы-Маці:

*А можа не краса была ў дзяўчынцы той, —*
*Дзяўчынцы ўпэцканай і хілай, і худой, —*
*А штосьь вышэйшае, што Рафаэль вялікі*
*Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі.*
(1, 145–146).

Гэты ж матыў «двайной красы», выяўленай у адным абліччы дзяўчыны, гучыць у наступным творы з цыклу «Мадонны» — невялічкай паэме «Вераніка», прасякнутай святлом кахання паэта да Ганны Какуевай, сястры яго гімназічнага таварыша ў Яраслаўлі.

Зборнік «Вянок» мусіў завяршаць паэтычны цыкл «Каханне і смерць», які лагічна дапаўняў роздум аб «высокай красе» ў «Мадоннах». Тут ідэал жаночага харства, выяўлены праз зліццё дзявоцкага і мацярынскага, дапаўняецца акцэнтам ахвярнасці маці, якая, даўшы жыццё дзіцёнку, памірае «пасля радзін». Надзвычай высока паэтызуе Багдановіч вагітную жанчыну, якая носіць у сваім улонні само жыццё, ахвяруе сабой дзеля гэтага жыцця. Вагітнасці папярэднічаюць шлюбныя адносіны, зліццё ў адну андрагінную асобу жаночай і мужчынскай яе палавінаў. «Паводле хрысціянскага ідэалу, паўната людскога быцця — не ў раздзельнасці і тым больш не ў палярызацыі мужчынскага і жаночага пачаткаў, а ў іх гармоніі, у быційным і духоўным адзінстве», — пісаў Уладзімір Конан[4]. Такім чынам, у цыкле «Каханне і смерць», малюючы з замілаваннем вобраз вагітнай жанчыны («*Дзераўлянае яечка // Ты ўдаеш сабой зусім...*»), паэт у хрысціянскім духу вельмі высока ўзносіць эратычнае каханне, бачачы ў ім выяўленне дасканалай Боскай прыроды, пазначанай непадзельнасцю духоўна-цялеснай сутнасці чалавека. Сучаснае багаслоўе таксама акцэнтуе ўвагу на тым, што прайшоў час, калі полавыя адносіны (або, перафразуючы назву другога верша гэтага цыклу Максіма Багдановіча, «падлегласць цёмнаму пачуццю») лічыліся пазначанымі пячаткаю граху і «дарам д'ябла». Цяпер важна ўсвядоміць, што «сэрцавінай хрысціянскага дабравесця» ёсць «Адкрыццё (у арыгінале «Откровение». — І.Б.) аб святасці плоці»[5]. Адпаведна з такімі адносінамі да кахання Багдановіч выкарыстоўвае і сімволіку «яйка», якое ёсць «сімвалам надзеі і ўваскрасення. Гэтае сімвалічнае значэнне звязана з тым, што з яйка вылупляецца птушаня»[6]. Дарэчы, у наступным вершы цыклу Багдановіч і выкарыстоўвае вобразы птушаняці і гнязда:

*Душа ў салодкім палусне,*
*І кажуць знакі чалавечка:*
*«Я — пценчык, ты — маё гняздзечка,*
*Не руш, не руш, не руш мяне!»* (1, 159).

Ідэя святасці кахання ў гэтым цыкле пацвярджаецца і ахвярнасцю жанчыны, якая нараджае, аддаючы сваё жыццё. Багдановіч параўноўвае такую ахвярнасць (*«За дзіцё зазнаці болі // За дзіцё праліці кроў»*) са славаю тых, хто загінуў на полі бою, аддаўшы жыцці за родны край. Гэтым самым Багдановіч увасабляе евангельскую ісціну аб тым, што няма большай заслугі ў вачах Пана Бога, чым аддаць жыццё сваё за бліжняга, што праз гэтую ахвяру кладзецца шлях у Валадарства Нябеснае. Выкарыстоўвае тут паэт і сімволіку адраджэння, увёўшы ў якасці цытаты радок з велікоднага спеву: *«Смертию смерть поправ» // Ты ад жыцця адпачыла, // Ў муках памёрла сама, // Але дзіцё спарадзіла...»* (1, 164).

Максім Багдановіч і сябе паводзіў у жыцці адпаведна тым высокім хрысціянскім ідэалам, якія ён сцвярджаў у сваіх вершах. Так, будучы ў ваенным Мінску ў 1916 г. і працуючы ў харчовым камітэце мінскай губернскай управы, ён узяў на сябе добраахвотную пастанову не ўжываць цукру (хоць гарбату з цукрам вельмі любіў), рабіў гэта дзеля таго, каб сэканоміць свой цукровы паёк для дзяцей і перадаць ім праз Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Гэта вядомы факт з яго біяграфіі, апісаны ва ўспамінах Зоські Верас. На яе запытанне, чаму ён не ўжывае цукру, паэт адказаў: «Бачыце, <...>, вельмі пераժываю тое, што я бяссільны памагчы тым, хто цяпер, падчас вайны, церпіць голад, асабліва шкадую дзяцей... Калі я сабе адмаўляю таго, што люблю <...>, мне здаецца, што я *раблю нейкую ахвяру* (курсіў наш. — І.Б.), і гэта мяне хоць крыху пацяшае...»[7]. Сапраўды, праз некаторы час Багдановіч «прынёс на плячах больш як паўпуда цукру!»[8]. Тое, што паэт разумеў адмаўленне ад цукру як ахвяру, гаворыць аб ім як аб чалавеку глыбокай хрысціянскай культуры, які ведаў практыкі веры ў тым ліку ў часе посту, які ўдзельнічаў у хрысціянскіх набажэнствах, умеў маліцца і, безумоўна, не абмінаў святыняў.

Што датычыць святыняў, то нельга не згадаць, як натхнёна і ўзрушліва апісаў паэт віленскія святыні: Вострую Браму ў вершы «Пагоня» і касцёл святой Ганны. Наведванне Вільні наогул пакінула значны след у яго творчасці: ён першы ў XX стагоддзі фактычна стварыў паэтычны помнік гэтаму гораду ў цыкле вершаў «Места» зборніка «Вянок». Касцёл св. Ганны ўразіў паэта стройнасцю сваіх ажурных чырвоных муроў, гонка скіраваных увысь, што давала адчуванне ўзлёту, лёгкасці і суцяшэння ў зямных турботах:

*Як лёгка да гары, як красна*
*Узносіць вежы ён свае!* (1, 247).

Паэт заклікае прыходзіць да касцёла святой Ганны, *«каб залячыць у сэрцы раны, // Забыць пра долі цяжкі глум»*. Такія ж адчуванні, відаць, перажываў Максім Багдановіч у Мінску, калі цешыўся выглядам Чырвонага касцёла, які тады толькі што збудаваўся. Зоська Верас успамінае аб гэтым: «Прыйшла зіма. Снег, марозы. Калі пасля марозу прыходзіла адліга, чырвоныя цэглы новага касцёла пакрываліся срабрыстай шэранню, і гэта было цудоўна, як у казцы. На работу мы з Багдановічам выходзілі разам і адразу пераходзілі на другі бок вуліцы, каб ісці каля касцёла <...> і нацешыцца яго цудоўным выглядам. Багдановіча проста адарваць не можна было, да таго быў захоплены»[9]. Магчыма, Максім у велічных, стромкіх чырвона-серабрыстых вежах касцёла таксама бачыў той прамяністы, ззяючы шлях у нябёсы, які ўгледзеў яго маленькі хворы герой Колька і па якім ішоў да хлопчыка з велікодным яйкам Хрыстос, забіраючы яго з сабою ў выратавальную і радасную вечнасць... Выратавальнай радасцю для нас сёння ёсць таксама ўся творчасць Максіма Багдановіча, якая адкупляе сённяшніх беларусаў ад грахоў гістарычнага няпамяцтва, пагарды да роднай мовы і ваяўнічага атэізму. Яна нясе нам жыватворнае святло Веры, Надзеі, Любові.

*Ірына Багдановіч*

[1] Гл.: Конан У. Міфалагічныя і біблейскія матывы ў паэзіі Максіма Багдановіча // Зборнік дакладаў: Матэрыялы дакладаў і паведамленняў Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (20001г.) «Максім Багдановіч і іншанацыянальныя літаратуры» // Літаратурны музей Максіма Багдановіча; Склад. І.В.Мышкавец. — Мінск, 2003. — С. 99 — 110.

[2] Гл.: Дышыневіч В. Хрысціянскія матывы ў творчасці Масіма Багдановіча // Праваслаўе. 2000. 9. — С.106 — 115.

[3] Багдановіч М. Поўны збор твораў. У 3 т. Т. 1. — Мінск: Навука і тэхніка, 1991. — С.214. Далей спасылкі на гэтае выданне даюцца ў тэксце з пазначэннем тома і старонкі ў дужках.

[4] Конан У. Элегічны вобраз вагітнай у паэзіі Максіма Багдановіча // Зборнік дакладаў: Матэрыялы дакладаў і паведамленняў Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (1999г.) // Літаратурны музей Максіма Багдановіча; Склад. Т.Э.Шэляговіч, І.В.Мышкавец. — Мінск, 2001. — С. 13.

[5] Козырев Ф.Н. Брак и семья в православной традиции. Как на самом деле относится Церковь к плотской любви. — Москва: Эксмо, 2008. — С. 275.

[6] Фергюсон Д. Христианский символизм / Перевод с англ. — Москва: Изд-во АДЕ «Золотой век», 1998. — С. 27.

[7] Верас З. Пяць месяцаў у Мінску // Максім Багдановіч. Пясняр чыстае красы: Успаміны, артыкулы, прысвячэнні / Уклад. Т.Шэляговіч. — Мінск: Маст. літ., 2011. — С. 61—62.

[8] Тамсама. С. 62.

[9] Тамсама. С.64.

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Лідзе на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1983), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004), «Прыватныя рымляне» (2006), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001), укладальнік зборнікаў «Казімір Сваяк. Выбраныя творы»(2010) і «Вінцук Адважны. Выбраныя творы» (2011). Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.



Мар'ян ДУКСА — паэт.
Нарадзіўся ў 1943 г.
у вёсцы Каракулічы на Мядзельшчыне.
Закончыў філалагічны факультэт БДУ.
Выдаў зборнікі вершаў
«Спатканне» (1967), «Крокі» (1972),
«Станцыя» (1974),
«Прыгаршчы суніц» (1976),
«Забытыя словы» (1979),
«Зона супраціўлення» (1982),
«Твая пара сяўбы» (1985),
«Заснежаныя ягады» (1989) і інш.
Лаўрэат Літаратурнай прэміі
імя А. Куляшова (1990).
Жыве ў Солах,
на Смаргоншчыне.

Мар'ян Дукса

# Любоў заўжды любоў шукае

* * *

Душа, ажыўленая ў слове,
куды перацякла з грудзей.
Жыві з прызнаннем у любові
да Бога, свету і людзей.
Не доўжы недавер употай,
ён будзе ныць сярод начы.
Не перанось любоў на «потым»,
яе не трэба берагчы.
Цябе зачэпіць сум найменей,
і не спытаеш: «Шчасце дзе ж?»,
калі яе ты поўнай жменяй
усім штодзённа раздаеш.

* * *

Каб ведаў, колькі іх, нягод,
мне будзе кінута жыццём,
напэўна б, я і ў дзесяць год
зрабіўся мудрацом.
Каб на далоні прачытаў,
чаго ён варты, шлях мой звонкі,
з гадоў дванаццаці б гартаў
усе біблейскія старонкі.
Калі б прадбачыў думак вір,
свае блуканні ў паняверцы,
даўно б я збег у манастыр,
які бывае ў кожным сэрцы.
Развагі смешныя мае.
Не расшыфруеш лёс «прыкольны».
Бог дзецям, мусіць, падае
не мудрасць, але мяч футбольны.

* * *

Знік перад Богам іхні страх.
Былі з гардыняй вавілонцы.
Вышэй і воблакаў, і сонца
свой захацелі ўзвесці гмах.
Рабілі ўсё, каб ён заззяў,
каб ён спазнаў нябесны фініш...
«Ну зараз іх ужо не спыніш», —
Бог з горыччу пра іх сказаў.
І Ён спаслаў на іх хаос.
І людзі ўраз, у тыя хвілі
на сотнях моў загаварылі...
Стаў вэрхал. Болей гмах не рос...
Жыве спрадвечны Вавілон.
Не сохне дуб людской гардыні.
І форс зямны ніяк не гіне —
разлапушыўся буйна ён.
Які яшчэ нам цуд стварыць?
Ты, людства, сук уласны піліш...
Наконт таго, што «іх не спыніш»,
ці будзе Бог зноў гаварыць?
І ім спасланы землятрус
гул кіне ў сіняе бязмежжа.
І вавілонскія ўсе вежы
рассыплюцца на дробны друз.

* * *

З'яўляецца ў жахлівых снах
штораз — на Захадзе, на Усходзе
пачварны двухгаловы птах —
каршун дваццатага стагоддзя.
Працяты скрухай і жальбой,
зноў наплывае час суровы,
як біліся паміж сабой
дзве вельмі блізкія галовы.
Змушаў іх біцца без падстаў
дух дэманічны, дух шалёны.
Нябачнай сувяззю яднаў
іх колер чорны і чырвоны.
Над кожнаю вісіць віна,
над кожнаю вітае згуба.
У іх заўжды была адна,
адна скрываўленая згуба.

* * *

Трывога валачэцца неадлучна,
заглядваючы ў вочы нам штораз.
«Быць ці не быць?» — пытаўся Гамлет гучна.
Ён меў на ўвазе не сябе, а нас.
Быць ці не быць нам радасным і дужым,
калі ў дым едкі хутаецца свет?
Быць ці не быць мацерыкам і душам,
што страцілі ўсіх продкаў запавет?
Накідваем каменне на дарогу,
хоць здольныя ўсё гэта не рабіць.
«Быць ці не быць?»
А ці спрыяем Богу,
каб Ён станоўча вырашыў, што «быць!»

* * *

Усё па волі чыніцца нябёс,
не выбіраем мы свае дарогі.
Навошта высілкі, калі наш лёс
акрэслены без нашай дапамогі.
Твайго жыцця ўжо зроблены макет,
Хоць, можа, ён цябе не вельмі цешыць.
Ці ты гуляка альбо ты аскет —
нічога ад цябе ўжо не залежыць.
Спрабуй што-небудзь тут перамяні,
ты ўвесь залежны, як і безгалосы.
Твае ўсе справы і твае ўсе дні —
збор ілюстрацый спраўджаных да лёсу...
Хай у грудзях твой гонар заскрабе,
як дужа дойме лёсу прахалода.
Бо сказана даўно: «Пазнай сябе».
Пазнай, каб нарадзілася нязгода.
Галоўнае тут правіла адно,
каб толькі пры любым наканаванні
уручанае доляй палатно
размаляваць да сонечнага ззяння.
Хай у цябе і кволае крыло,
уся ў туман захутана дарога,
ты ўсё-ткі здольны пасылаць святло
ў людскія сэрцы з благаслаўлення Бога.

* * *

Мы — хрысціянская суполка,
яе глыбокае злучэнне...
Ці беларуска ты, ці полька —
не мае спрэчнага значэння.
Я гэта зноўку паўтараю,
як гаварыў аб тым раз-пораз:
ты чуйнае сумленне краю,
яго спагадны, шчыры голас.
Ты сярод нас — абавязкова,
хоць тваё рэха ходзіць дзесьці...
Дазволь, о пані Ажэшкова,
табе паклон, як дар, паднесці.
Ты так любіла люд гаротны.
Такіх, як ты, хто ж забывае!
І без цябе няма Гародні,
з табой Гародня ажывае.
Ты недзе побач — людзі вераць.
Любоў заўжды любоў шукае.
Тваю душу, каб нас адведаць,
Бог міласэрны адпускае.



Герберт Джордж Уэлс (21.09.1866 –1 3.08.1946) — брытанскі пісьменнік і публіцыст. Адукацыю атрымаў у Кінгс-каледжы Лонданскага ўніверсітэта, які скончыў у 1888 годзе. У 1891 г. атрымаў два вучоныя званні па біялогіі, з 1942 г. — доктар біялогіі. Аўтар вядомых навукова-фантастычных раманаў «Машына часу», «Чалавек-невідзімка», «Вайна сусветаў» і інш.

## Герберт Уэлс

# Мроя пра Страшны Суд

I

«Бру-а-а-а!»

Я слухаў, нічога не разумеючы.

«Та-ра-ра!»

«О, Божа мой! — прамармытаў я, усё яшчэ не прачнуўшыся да канца. — Што за пякельны галас!»

«Ра-ра-ра-ра-ра-ра-ра-ра! Та-ра-ра-ра!»

«Хопіць і каб мёртвага падняць? — ледзь паспеў я прабурчэць і асекся. — І дзе гэта я?»

«Та-ра-ра-ра!» — усё грамчэй і грамчэй.

«Магчыма, гэта нейкае новае вынаходніцтва...»

«Ту-ру-раа! Ту-ру-раа!» Аглухнуць можна!

«Не, — гучна сказаў я, каб пачуць уласны голас. — Гэта Апошнія Трубы».

«Ту-ру-раа!»

II

Напрыканцы гукі выцягнулі мяне з магілы, як шчура на кручку.

Я ўбачыў помнік сабе самому (даволі такі ўбогая канструкцыя, цікава, хто ж да гэтага спрычыніўся), і тады стары вяз і мора на даляглядзе раслалі, нібы пара. Усе навокал — незлічоны натоўп: нацыі, мовы, дзяржавы, народы — дзеці ўсіх узростаў, як і я сам, апынуліся ў вялізным амфітэатры, які займаў усю нябесную прастору. А над намі, на пасадзе бліскучых белых аблокаў, узвышаўся Пан Бог і шэрагі Ягоных анёлаў. Я адразу ж пазнаў цёмнага Азраэля і Міхала з мячом, і велічнага анёла, які толькі што дзьмуў у трубу і ўсё яшчэ стаяў, не паспеўшы апусціць руку долу.

III

«Спрытна! — сказаў чалавечак, які стаяў за мною. — Вельмі спрытна. Бачыце анёла з кнігаю?»

Ён круціўся ва ўсе бакі, выцягваў шыю, варочаў галавою, каб разгледзець што-небудзь за спінамі душаў, якія з усіх бакоў нас атачалі. «Усе сабраліся, — заўважыў ён. — Усе! Ну цяпер мы даведаемся... А вось Дарвін! — нечакана перабіў самога сябе чалавечак. — О, ён зараз атрымае на арэхі! А вунь там — вы бачыце? — той высокі важны мужчына, які ловіць пагляд Бога Айца, — гэта сам Князь. Але тут мноства людзей, усіх і не распазнаеш.

О, а вось Прыглз, выдавец. Мяне заўжды здзіўляла гэтая здольнасць выдаўцоў усё перабольшваць. Прыглз быў кемлі-

вым чалавекам... Але цяпер ужо мы даведаемся — нават пра яго.

Я ўсё паспею пачуць. Паспею ўволю павесяліцца, пакуль... Маё прозвішча на літару "С"».

Ён гучна прысвіснуў. «А вось і персанажы гісторыі. Бачыце? Гэта Генрых Восьмы. Пра яго будзе што паслухаць. Але чорт яго бяры! Ён жа з Цюдараў».

Чалавечак прыцішыў голас: «Звярніце ўвагу на гэтага небараку, проста перад намі, які ўвесь зарос валоссем. Чалавек палеаліту, уявіце сабе. А вось яшчэ...»

Але я не зважаў, што ён балбоча, я глядзеў на Пана Бога.

IV

«Гэта ўсе?» — спытаў Пан Бог.

Анёл з кнігаю, адным з незлічоных фаліянтаў, падобным да каталогу ў чытальнай зале Брытанскага музея, агледзеў нас і, здалося, у адно імгненне пералічыў.

«Гэта ўсе, — сказаў ён і дадаў: — О, Пане, гэта была зусім малая планета».

Бог дапытліва ўзіраўся ў нас.

«Пачнем жа», — прамовіў Ён.

V

Анёл адкрыў кнігу і абвясціў імя. Там было некалькі гукаў «а», іх рэхам разнесла па самых аддаленых кутах. Я не здолеў пачуць дакладна, бо чалавечак за мною адрывіста ўсклікнуў: «Што там, што там такое?» Мне здалося, што імя прагучала як Ахаў, але ж гэта не мог быць той самы Ахаў з Пісання.

Раптам маленькая чорная фігурка ўзнеслася на пухнатыя аблокі да самых ног Божых. Нязграбны чалавечак быў укранаваны і апрануты ў дарагія чужаземныя шаты. Ён ускінуў рукі і заенчыў.

«Такім чынам?» — прамовіў Бог, аглядаючы яго зверху.

Нам пашанцавала пачуць адказ. Сапраўды, акустычныя ўласцівасці прасторы былі вартыя здзіўлення.

«Я вызнаю сваю віну», — піскнула фігурка.

«Распавядзі ім пра свае ўчынкі», — загадаў Пан Бог.

«Я быў каралём, — пачаў чалавечак, — высакародным каралём, і я быў пажадлівым, ганарыстым і жорсткім. Я распачынаў войны, я спусташаў землі, я ўзводзіў палацы, закладзеныя на крыві чалавечай. Пачуй, о Божа, як сведкі маіх злачынстваў моляць аб адплаце. Сотні і тысячы сведкаў!» Ён узмахнуў рукою, паказваючы на нас. «І нават горш за тое! Я паланіў прарока — аднаго з тваіх пракаў...»

«Аднаго з маіх пракаў», — адклікнуўся Пан Бог.

«І за тое, што той адмовіўся пакланіцца мне, я чатыры дні і чатыры ночы бязлітасна катаваў яго, і ў рэшце рэшт ён памёр. І гэта яшчэ не ўсё, о Божа, я блюзнерыў! Я абрабаваў Цябе, прыдбаўшы Тваю славу...»

«Абрабаваў Мяне, прыдбаўшы Маю славу», — рэхам паўтарыў Пан Бог.

«Я загадаў, каб мяне ўзвялічвалі боскаю хвалою. Няма злачынства, якога б я не здзейсніў, няма такога граху, якім бы я не заплямiў сваю душу. І вось Ты скрушыў мяне, о Божа!»

Бог прыўзняў бровы.

«І я быў зрынуты на полі бойкі. І цяпер я стаю перад Табою, асуджаны на пакуты Тваёй апраметнай. У бляску Тваёй велічы я не асмельваюся сцвердзіць хлусні, не асмельваюся вымавіць ні слова апраўдання, але кажу адну праўду пра свае страшэнныя злачынствы супраць чалавецтва».

Тыран змоўк. Я выразна бачыў ягоны твар, збялелы і страшны, поўны гонару і дзіўнай высакароднасці. Мне адразу ўзгадаўся Шатан Мільтана.

«Большасць сказанага — з надпісу на ягонай магіле», — сказаў Анёл Архіварыус, які, водзячы пальцам па старонцы, сачыў за прамоваю.

«Але», — з ноткаю здзіўлення працадзіў Тыран.

Раптам Пан Бог нахіліўся і, падняўшы чалавечка, пасадзіў яго на сваю далонь, быццам хочучы лепей разгледзець. Той здаваўся ўсяго толькі малой цёмнай зморшчынкаю пасярэдзіне Божай далоні.

«Ён і праўда ўчыніў усё гэта?» — вымавіў Пан Бог.

Анёл Архіварыус разгладзіў старонкі кнігі і адказаў з ноткаю зняважлівасці: «Можна і так сказаць».

Цяпер, калі я ізноў угледзеўся ў твар чалавечка, той дзіўным чынам перамяніўся. У вачах Тырана, калі ён пазіраў на Анёла Архіварыуса, з'явілася незразумелая трывога. Рука ягоная, прыціснутая да вуснаў, дрыжала. Нязначны рух — і з аблічча чалавечка кудысьці зніклі ўся высакароднасць і ганарлівы выклік.

«Чытай», — загадаў Пан Бог.

І Анёл прачытаў нам вельмі дакладнае і поўнае апісанне ўсіх злачынстваў Тырана. Ягоная справаздача несла сапраўдную асалоду для мыслення, хоць яна і была крыху «дзёрзкая» ў пэўных момантах, як мне здалося. Але ж у Нябёсаў свае прывілеі...

VI

Усе смяяліся. Нават на твары прарока Божага, якога закатаваў Тыран, з'явілася ўсмешка. Злачынца на самай справе аказаўся такім недарэчным і вартым жалю чалавечкам.

«І тады», — прачытаў Анёл Архіварыус, усміхаючыся і

яшчэ больш распальваючы нашую цікаўнасць, — аднаго разу, калі ён быў крыху раздражнёны пераяданнем, ён...»

«О, не, толькі не гэта! — закрычаў Тыран. — Ніхто пра гэта не ведае, гэтага ніколі не здаралася! — завішчаў ён. — Я быў злачынцам, сапраўдным злачынцам. Часта я быў найгоршым. Але ніколі, ніколі не здаралася нічога настолькі неразумнага, такога бязглуздага...»

Анёл працягваў чытаць.

«О, Божа! — закрычаў Тыран. — Не, яны не павінны ведаць пра гэта! Я буду шкадаваць! Я буду перапрашаць!»

Чалавечак на Божай далоні пачаў скакаць і галасіць. Раптам яго апанаваў сорам. Ён рвануўся з усёй моцы, спрабуючы саскочыць з мізінца Пана, але той спыніў яго, спрытна павярнуўшы запясце. Чалавечак спрабаваў пралезці паміж вялікім пальцам і далонню, але сціснутыя пальцы пазбавілі яго і гэтай магчымасці. І ўвесь гэты час Анёл чытаў і чытаў. Тыран лётаў узад і ўперад па Божай далоні, а пасля раптоўна павярнуўся і схаваўся ў рукаве Пана.

Я думаў, што той вытрасе яго прэч, але міласэрнасць Божая бясконцая.

Анёл Архіварыус прыпыніўся.

«І?» — спытаў ён.

«Наступны,» — загадаў Бог, і Анёл не паспеў яшчэ да канца вымавіць імя, як на Божай далоні з'явілася зарослая істота ў брудных лахманах.

VII

«Што, няўжо пекла знаходзіцца ў Божым рукаве?» — здзівіўся чалавечак за маёю спінаю.

«А ці існуе наогул пекла?» — спытаў я.

«Звярніце ўвагу: няма ніякіх знакаў існавання Нябеснага Гораду», — сказаў ён, спрабуючы разгледзець хоць што-небудзь за фігурамі высокіх анёлаў.

«Цссс! — злосна зашыкала на нас жанчынка, якая стаяла побач. — Вось вялікі святы!»

VIII

«Ён быў зямным валадаром, але я быў прарокам Найвышэйшага Бога, —усклікнуў Святы, — і ўсе дзівіліся мне. Бо я, о Божа, зведаў славу нябёсаў Тваіх. Я стрываў увесь боль, усе магчымыя цяжкасці, мяне рэзалі вострымі кінжаламі, заганялі трэскі пад мае пазногці, жыўцом здзіралі скуру, але ўсё гэта я выцерпеў дзеля славы і велічы Пана».

Бог усміхнуўся.

«І нарэшце я, у лахманах, увесь пакрыты балячкамі, ахутаны густым воблакам сваіх святых пакутаў, пайшоў...»

З вуснаў Габрыэля вырваўся нечаканы рэзкі смех.

«... і лёг пад ягонымі брамамі, быццам жывы знак, быццам цуд...»

«Быццам невыносная перашкода», — дадаў Анёл Архіварыус і пачаў чытаць, не звяртаючы ўвагі на тое, што Святы ўсё яшчэ пералічваў свае слаўныя прыкрыя чыны, якімі ён прабіваў сабе шлях у неба.

І, гляньце толькі, кніжная біяграфія Святога таксама сталася адкрыццём, цудам.

Здаецца, не прайшо і дзесяці секундаў, а Святы ўжо кідаўся туды і сюды па вялізнай Божай далоні. І дзесяці секундаў! Нарэшце ён таксама заенчыў, бяссільны вытрываць гэтае бязлітаснае насмешлівае апісанне, рынуўся і схаваўся, як і Тыран, у цяні рукава Пана. І нам дазволілі зазірнуць у гэты цень. І тыя двое сядзелі побач, пазбаўленыя ўсіх ілюзій, пад покрывам міласэрнасці Божай, як браты.

Туды ж схаваўся і я, калі прыйшла мая чарга.

IX

«А цяпер, — прамовіў Бог, вытрасаючы нас усіх са свайго рукава на прадвызначаную нам для жыцця планету, што кружылася вакол зялёнага Сірыуса, — цяпер, калі вы разумееце Мяне і адзін аднаго трошачкі лепш... паспрабуйце яшчэ раз».

Пасля Ён і Яго велічныя анёлы павярнуліся і раптоўна зніклі...

Знік і пасад.

Паўсюль навокал была прыгожая зямля, прыгажэйшая за ўсё, бачанае калі-небудзь чалавечым вокам, — пустэльная, аскетычна простая і дзівосная. А побач былі асветленыя душы людзей у новых чыстых целах...

*Пераклад з англійскай мовы Юліі Шэдзько.*
*Паводле: H. G. Wells «A Vision of Judgment» («The country of blind and other stories», 1911).*



Вада
з роднай студні
заўсёды смачнейшая...

# ААЗІСЫ НІЛА ГІЛЕВІЧА

Слушна сказана: каб зразумець паэта, трэба пабываць на ягонай радзіме. У праўдзівасці гэтых словаў я неаднойчы пераконваўся, наведваючы разам з паэтамі іх родавыя гнёзды: з Уладзімірам Някляевым — старадаўняе Крэва, з Хрысцінай Лялько — хутар Хадзюкі на Лідчыне, з Эдуардам Акуліным — вёску Вялікія Нямкі паблізу стараверскае Веткі... Паходзіш тымі самымі сцежкамі, падыхаеш тым самым паветрам, прытулішся да вушака тае самае хаты — і разнасцежыцца твая душа для радкоў, у якіх — водсветы і водгукі паэтавых зямлі і неба.

Але з любога правіла бываюць выключэнні. Я ніколі не быў у вёсцы Слабада на Лагойшчыне — у родным кутку Ніла Гілевіча. Чаму ж ягоная паэзія шырокай ракой плыве ў маю душу, цярэбячы і скаланаючы яе, не патрабуючы нейкіх дадатковых ландшафтных ці іншых радзімазнаўчых падказак? Чаму мне, яшчэ школьніку, наўслед за паэтам так летуценна хацелася *«толькі з роднага долу, толькі ў роднай дуброве // як не дрэвам, хоць кветкай прарасці для жывых»*? Чаму рэдкая паэтава радасць заўсёды станавілася і маёй радасцю, а куды часцейшы боль ягоны так нясцерпна балеў і мне?

Сам сабе я задаваў гэтыя пытанні, сам сабе і адкажу. Ніл Гілевіч — фенаменальна шчыры і да апошняга эрытрацыту ў крыві беларускі паэт. Перад такой шчырасцю і такой беларускасцю міжволі адсланяюцца ўсе самаахоўныя засланкі чытацкіх душаў і сэрцаў. Атрымліваецца, як у той прыказцы (запісанай, дарэчы, на Лагойшчыне Адамам Варлыгам): каб былі грудзі на завесах, дык бы сэрца паказаў. А што ёсць паэзія як не паказанні сэрца? Без усякіх там завесаў...

Дзень 30 верасня прыпаў сёлета на нядзелю, пра што і паведаміў нам каляндар «Родны край» — жыццёвы спадарожнік некалькіх пакаленняў беларусаў. Шмат гадоў карыстаюся ім і я, яшчэ з тых даўніх часоў, калі «Родны край» складаў наш выдатны энцыклапедыст Янка Саламевіч. Верыў я яму, верыў і заснаванаму ім календару. А тут упершыню — не паверыў. Усё на месцы — і чырвань лічбаў, і беларускі арнамент пад імі, і ўсход сонца, і заход месяца. Але няма галоўнай даты: ні словам не паведамлена, што 30 верасня — юбілейны дзень народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Круціў я той каляндар у руках і са скрухай думаў, што і «Родны край» пачужэць можа...

Другая неспадзяванка чакала мяне над той жа старонкай пачужэлага «Роднага краю». Аказваецца, 30 верасня адзначаецца сусветны Дзень сэрца. І гэта, думаецца, невыпадковае супадзенне. А калі дадаць, што 30 верасня нарадзілася яшчэ і Зоська Верас — таксама ж чалавек вялікага, шчырага і беларускага сэрца, — то становіцца зразумелым, што каляндар нашага жыцця не аддадзены цалкам у рукі выдавецкіх складальнікаў і рэдактараў. Ёсць і над імі Складальнік, які вызначыў — у дзень народзінаў беларускага паэта Ніла Гілевіча людзі свету адзначацьмуць Дзень сэрца!

Добрых святаў усё ж замала ў нашым наўмысна забудзёненым, паспешліва-мітуслівым жыцці. Часам людзі самі ўсвяточніваюць свае календары, і тут ужо ўсё залежыць ад прыхільнасцяў і стану душы чалавека. Вось у мяне сёння Дзень новай кнігі Ніла Гілевіча. Яе назва — «Пацеркі Божай Маці», падназва — лірыка 2009–2010 гадоў. Невялікая, з густам аздобленая ў выдавецтве «Про Хрысто» кніга. Як жа хораша гучыць гэтае загалоўнае слова — пацеркі! Яно перагукаецца з лацінскім *pater*, з нямецкім *Vater*, з грэцкім *πατερας*, з беларускім *пацеры*... Пацеркі — каштоўныя каменьчыкі ператвараюцца ў пацеры — малітоўныя словы. І наадварот — пацеры нанізваюцца ў пацеркі. Шкада, што словы гэтыя сёння рэдкаўжывальныя. А мама мая працягвае штодзённа *адгаворваць пацеры*, а бурштынавыя каралі, якія нібыта дапамагаюць ёй пры хваробе шчыта-



Перад выступленнем у Елкаўскай школе на Зэльвеншчыне.
Ніл Гілевіч з Міхасём Скоблам, Сяргеем Чыгрыным, Эдуардам Акуліным і Міколам Канановічам. 2005 г.

падобнай залозы, упарта называе *пацеркамі*. Хай жа ўслухаюцца ў глыбінна-высокае гучанне гэтых словаў усе тыя, хто, паводле Ніла Гілевіча, звыкла на суседскіх падворках

*падбірае чужамоўя пацепкі,*
*нацярушаныя ператрускай...*
*А на шыі Божай Маці пацеркі*
*з самацветаў*
*мовы беларускай.*

У свой час паэт Іосіф Бродскі раўніва заўважыў, што музыкі маюць перавагу над паэтамі. Маўляў, Бах звяртаўся ў сваіх месах адразу і беспасярэдне да Бога, а паэты мусяць апяваць Божае тварэнне — прыроду. Не аспрэчваючы Бродскага, усё ж заўважу, што паэты, наадварот, атрымалі ад Бога найадказнейшае і найганаровейшае заданне — прадаўжаць адухаўляць прыроду. Бог удыхнуў душу ў чалавека, а чалавек адухаўляе прыроду. Пра гэта думалася мне, калі чытаў Гілевічаў «Дыфірамб доўгачаканаму дажджу», якім распачынаецца новая кніга. Дваццаць дзеясловаў руху (*наляцеў, шугануў, зашалясцеў, устрапянуў, зашапацеў, загаманіў, запаланіў...*) сапраўды ператварылі дождж у жывую істоту, агучылі яго «цымбальныя скокі» (Я. Брыль) па засмяглым ад спёкі лісці, па бязлюдных ходніках.

Кнігу «Пацеркі Божай Маці» завяршае «Споведзь крывічанкі» — маналог-малітва ад імя маладой беларускі, якая паставіла над усім сваю чалавечую годнасць, сваю праўду, сваю атрыманую ў спадчыну ад продкаў мараль. Твор гэты рэфрэнам «Гэта я, міласэрны Божа» ўзведзены ў ранг найвышэйшага дыялогу, варты вывучэння ў школах, дзе сённяшнім старшакласнікам гэтак бракуе ўзору, з каго «рабіць жыццё». А трэба і ім памятаць словы полацкай князёўны Рагнеды, якія з вуснаў Гілевічавай крывічанкі гучаць таксама смела і пераканаўча: «Сына рабыні я разуваць не буду».

Дзень новай кнігі Ніла Гілевіча я адзначаю сёлета прыканцы года, калі сабраны з поля ўраджай, калі хочацца «з двара прыйсці і сесці ля агню» (М. Стральцоў). А быў жа ў мяне падобны дзень і летась, калі выйшла Гілевічава кніга «Дзверы ў гісторыю», і пазалетась, калі пабачыў свет яго ж паэтычны зборнік «Замова ад страху», і ў няблізкім ужо 2006-м, калі прыйшла да чытача кніжачка кішэннага фармату «У ноч на Пакровы».

Здараліся ў маім жыцці падобныя святы Гілевічавага новакніжжа і раней, але найбольш дарагія мне менавіта гэтыя зборнікі, выдадзеныя з дапамогай паэтавых прыхільнікаў бібліяфільскімі накладамі — 100, 200, 300 асобнікаў. У кожным з іх я знаходзіў ці то разважлівую паэтычную прыпавесць («Аб рыфме „свабоду — народу“», «Аповед пра чалавечнасць тырана», «Сказ пра узбекаў»), ці то з'едлівую сатыру на антыгерояў нашага часу («Па словах анёла», «Балада пра Маньку і Ваньку», «Аповед пра трубу»), ці то «зрубленую ў лапу» эпіграмуафарызм, якая запамінаецца з першага прачытання, накшталт гэтай замалёўкі *амаль з натуры*: *«Сядзіць з карэлай мордай, // не мае чым адмыць. // А морда хоча гордай // і незалежнай быць»*.

На маім стале — ліст з Зэльвы. Знаёмы настаўнік напрамілы Бог просіць прыслаць Гілевічавы «Дзверы ў гісторыю». Ён быў на настаўніцкіх курсах, дзе нехта чытаў услых гэтую кнігу, — спадабалася і фізікам, і лірыкам. Зямляк так і піша: «Творчасць Ніла Гілевіча — мой тут галоўны аргумент у мястэчковых дыскусіях: што важней — беларуская мова ці каўбаса? І я ўжо не аднаго гіцля асадзіў гілевічаўскімі радкамі: «*Я — ва ўсім дэмакрат прынцыповы, // за свабоду — жыццё пакладу. // А супроць беларускае мовы // нават з Гітлерам разам пайду!*».

Творчасць Ніла Гілевіча — аргумент... Як тут не згадаць паэта Анатоля Вярцінскага, які, нібы падслухаўшы зэльвенскага настаўніка, напісаў верш пад назвай «Здарэнне ў Судны дзень, альбо Ніл Гілевіч як аргумент». Каб не цытаваць гэты вялікі (ва ўсіх сэнсах!) твор, коратка перакажу яго змест.

Сын Божы судзіў народы, якія размаўлялі з ім на сваіх мо-

вах. Калі ж дайшла чарга да беларусаў, найвышэйшы суддзя мусіў перапытаць: «Дык вы — беларусы?». Адказ прагучаў бязладна і не задаволіў Сына Божага. Тады ён запатрабаваў назваць беларуса, «*хто мову родную прыняў з маленства // як запаветны скарб, як Божы дар, // хто потым на шляху жыццёвым // быў верны ёй і вусна, і пісьмова, // быў верны ёй і ў радасці, і ў горы, // быў верны ёй у мроях і ва ўчынках, // хто ні на хвілю уявіць не мог // свой лёс і лёс свайго народа // без мовы роднай...*». І назвалі беларусы імя Ніла Гілевіча, і прынеслі да Хрыстовага пасаду ўсе кнігі паэта ўлучна з галоўным аргументам Гілевічавай вернасці роднай мове — кнігай «Любоў прасветлая». «*І склаўся з кніг тых велічэзны стос — // дзівіўся, гледзячы на іх, Хрыстос*». І — змяніў гнеў на літасць. Так былі ўратаваныя беларусы ад апраметнай.

Як на маё меркаванне, верш Анатоля Вярцінскага «Здарэнне ў Судны дзень, альбо Ніл Гілевіч як аргумент» — гэта шэдэўр, не заўважаны нашай крытыкай. Шэдэўр, які ўзнік у выніку зусім не блюзнерскага, а адпаведна пашанотнага сумяшчэння тэксту Евангелля ад Мацвея з нашай рэчаіснасцю. І шэдэўр гэты дапамог напісаць аўтару адзін з ягоных герояў — сваім жыццём.

Ніла Гілевіча ў такой — біблейскай — іпастасі згледзела (яшчэ ў 1965 годзе!) і Ларыса Геніюш. У адным з лістоў да літаратуразнаўцы-медыявіста Міколы Прашковіча яна трапна заўважыла, што і ў Беларусі ёсць свой Ніл — «жывіцель пустэльні».

«Жывіць пустэльню» — праца велічэзная, яна пад сілу толькі волатам-рэкам і волатам-паэтам. З усіх бакоў наступаюць пяскі, а трэба зберагчы і памножыць аазісы. Ніл Гілевіч свае аазісы збярог і памножыў — аазіс веры ў свой вечны народ, аазіс любові да сваёй святой зямлі, аазіс, у якім ад сухмені ратуецца мова. Бо калі мову як нацыянальную каштоўнасць не ахоўвае закон, яе зберагуць дасканалыя творы, напісаныя на ёй. А менавіта той стос, на які глядзеў і дзівіўся Хрыстос. А калі б Ён прыдумаў для беларусаў яшчэ адзін іспыт і запатрабаваў праспяваць песні, якія ведалі б усе, я перакананы — над грамадой суайчыннікаў залунала б і «Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы...».

Вядомае і небясспрэчнае выслоўе, якім пачаліся гэтыя нататкі, можна перайначыць і так: хочаш зразумець паэта — запрасі яго на сваю радзіму. І я запрасіў. У 2005 годзе мы з Нілам Сымонавічам, Эдуардам Акуліным і Сяргеем Чыгрыном выступалі на Зэльвеншчыне — у Галынкаўскай і Елкаўскай сярэдніх школах, а потым заехалі ў маю родную вёску, дзе нас сустрэла мама. Шэсць гадоў з тае пары мінула, а яна ў кожны мой прыезд усё перадае паклоны таму «папраўдзі добраму паэту, які піша так жалосна».

Не толькі жалосна, мама! Але і громагалосна, калі дае адпор ворагам беларушчыны. І мілосна, калі прызнаецца ў сваёй вялікай і бясконцай любові — адзінай жанчыне і адзінай Айчыне.

Усё зробленае Нілам Гілевічам мае падвынікаваць Збор твораў у 23 тамах, які пачаў выходзіць у 2003 годзе. Але не шукайце яго ў кнігарнях ці бібліятэках. Свой шматтомавік народны паэт выдае сам — за сваю мізэрную пенсію. Без удзелу дзяржаўных паліграфкамбінатаў, занятых больш пільнай друкарскай справай, чым кнігі жывога класіка. І факт гэты таксама застанецца ў найноўшай гісторыі Беларусі — сведчаннем вытрываласці беларускай літаратуры і беларускіх паэтаў, адлучаных ад варштату Скарыны на 494-м годзе яго слаўнага існавання.

...Дапісваю гэтыя нататкі ў Нацыянальнай бібліятэцы. Ледзь чутна плюскоча вада ў мармуровых рыштоках, вакол кусціцца нейкая гібрыдная пальмападобная папараць — як дзе-небудзь у аазісе «над хвалямі сінеючага Ніла». А высока ўгары, пад шкляным купалам, свіргочуць, як ластаўкі, малюсенькія трамвайчыкі. Па пакручастых монарэйках яны развозяць чытачам замоўленыя са сховішча кнігі. І я дакладна ведаю, што кнігам Ніла Гілевіча ніколі не пыліцца ў тым сховішчы, а штодзённа і штогадзінна ехаць па галавакружных маршрутах да сваіх чытачоў. Каб жывілася яшчэ адна пустэльня і ўзнікаў яшчэ адзін аазіс любові да роднага.

*Міхась СКОБЛА*

---

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі XX ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.



# Жыццё і час Ніла Гілевіча

Разбіраць паэзію Ніла Гілевіча я не буду. Мне больш важным здаецца не забыць самога чалавека і яго час, тым больш, калі ягоны час быў і маім часам. І ўвогуле, хто жыў у мінулым XX стагоддзі і каму давялося пераэжыць сваё жыццё і жыць далей, мы цяпер аднаго пакалення — і каму ўжо восемдзесят, і каму толькі за пяцьдзясят. Цяпер вакол нас іншы свет, іншы час і іншыя людзі. І гэта не кепска, а наадварот — добра! Калі ўзгадаеш тое мінулае XX стагоддзе, то сам сабе думаеш: лепш не ўзгадваць! Але для таго пішаш, што калі не пішаш ты, то гэтага не зробіць ніхто. Калі маладыя не будуць ведаць змрокі, пасткі і ямы нашага лёсу ў XX стагоддзі, то можа здарыцца так, што мінулы змрок яшчэ вернецца, бо на гэтай зямлі ахвотнікаў павярнуць час назад чамусьці заўжды было куды больш, чым ва ўсходніх і заходніх суседзяў разам узятых.

Самае добрае, што зрабіў Ніл Гілевіч у сваім жыцці, гэта знаць у літаратуры, бо іншага жыцця ў літаратара не бывае, — гэта мемуары, альбо памяць пра сябе і свой час. А мемуары — гэта не той вылізаны ці складаны жыццяпіс, якім жывіцца газетная крытыка, палітычная паліцыя ўсіх часоў і народаў. Памяць — гэта памяць! Каб мець памяць, спачатку трэба жыццё пражыць. Гэта маладыя пішуць, быццам анкеты, хто яны такія ды чаго ў гэтым жыцці дасягнулі, нібыта самі, без Бога і лёсу! Адораны чалавек найчасцей узгадвае, як гэта з ім было, і надзівіцца не можа, як сталася так, а не горш. Як гэта ён увогуле выжыў і неяк чалавекам застаўся, бо колькі ўпала побач, колькі згінула за так, і не скажаш нават, з чыёй віны... бо не было вінаватых.

Паваенны Мінск 1940–1950 гадоў... Сталін яшчэ жывы. Панамарэнка ўжо ў Маскве. Мінск ужо будуецца гэтак, як Панамарэнка выпрасіў у Сталіна летам 1945 года, калі той ехаў праз Мінск у Патсдам дзяліць свет з англічанамі і амерыканцамі. Не «уездный город», тым больш не «типовой центр и транспортный узел на западном и северо-западном оперативном направлении», а «передовой форпост всего Советского Союза на кратчайшем пути в Европу» хутка будуецца сіламі палонных немцаў, «сваіх» рабоў савецкага ГУЛАГу... і вечных студэнцкіх суботнікаў. Чым быў Мінск да вайны? Адной вуліцай і дзясяткам завулкаў з камяніцамі, ну яшчэ два вакзалы, дэпо, абутковая фабрыка і чатыры даміны ленінградскага канструктывіста Лангбарда — гэта вось і разбіла нямецкая авіяцыя маршала Герынга, ашчадзіўшы тыя даміны Лангбарда як арыенціры, а больш тут не было чаго бамбіць. І вось з гэтай амаль вёскі, *a propas*, коштам усяго Савецкага Саюза, пра што ў нас заўжды неяк забываюць, бягом і спехам будуецца еўрапейская сталіца, няхай сабе ў стылі «сталінскі ампір». Але чым «сталінскі ампір» горшы за іншы ампір? У

1945 годзе ў Мінску жыве пяцьдзясят тысяч чалавек, у 1959 — сталых жыхароў пяцьсот тысяч, а ўжо на маёй памяці ў 1974 годзе — адзін мільён чалавек! Ніводнае места ні ў Савецкім Саюзе, нідзе ў свеце не расло пасля 1945 года так хутка, так імгненна, як некалі «уездный» Мінск. Вось вам і ўвесь час Ніла Гілевіча, вось вам і ўвесь лёс ваеннага і паваеннага пакалення...

Студэнт беларускай філалогіі Ніл Гілевіч ужо на старэйшых курсах аказваецца «белай варонай», бо ягоныя вершы — у трох ці чатырох нумарах! — друкуе «тоўсты» (і ў той час увогуле адзіны), а таму хрэстаматыйны месячнік «Полымя», і малады чалавек ледзь не самацёкам трапляе ў класікі. Тут нічога дзіўнага. Перад вайной у Маскве было тое самае з Аляксандрам Твардоўскім, а нават яшчэ весялей — той Твардоўскі на экзамене па сучаснай рускай літаратуры... мог выцягнуць білет з пытаннем пра самога сябе. Але ж тое ў Маскве, а не тут... бо тут вам, не там — тут «трэба быць разам», «трэба быць чалавекам», «трэба быць, як усе людзі»: *et ceterea, et cetera.* На камсамольца Гілевіча другія камсамольцы завялі «персональное дело» і «поставили вопрос» на сваім сходзе — самі паставілі, без партыі, бо старэйшыя камуністы былі ўжо навучаныя не капаць яму блізка сябе, каб не ўпасці туды самому... Але камсамольцам пяклі вочы палымяныя ганарары Гілевіча, бо былі тыя мінскія студэнты — не беларуская інтэлігенцыя, а вескаўня. І пайшло, і паехала... І быў бы Гілевіч у тых самых лагерах, куды перад вайною трапіў Дубоўка, а пасля вайны Мікуліч, калі б не «агульная лінія» гаспадароў з ЦК КП Беларусі, а найперш прысланага з Урала рускага інжынера з беларускім прозвішчам Патолічаў, будучага незалежнага савецкага міністра замежнага гандлю: ты, Лаўрэнцій Цанава, нікога не саджай без партыі, даносы даносамі, а парадак мае быць... Ты вось польскае падполле ў Заходняй Беларусі задушыць не можаш, а ў нас у Мінску «мирное время», мы тут «горад сонца» будуем! Так і пратрымаўся Гілевіч сярод «аднакурснікаў» ажно да смерці таварыша Сталіна ў 1953 годзе, і я так падазраю, не ведаю, але падазраю, што гэтае вось убачанае так блізка, як смерць, сапраўднае аблічча вескаўні нашай і падштурхнула Ніла Сымонавіча да шматгадовай педагогікі і рознай іншай выхаваўчай работы, а нават грамадскай дзейнасці.

Тут я мушу патлумачыць тым маладзейшым, хто ведае беларускую літаратурную мову праз «імпрэзу з прэзентацыяй», беларускую мову простую, або чым вёска адрозніваецца ад вескаўні. Вёска — гэта людзі, вескаўня — гэта хамы. Але як ужо пачаў пісаць, то абавязаны дапісаць да канца і паспавядацца, за што я дваццаць гадоў назад, пакуль быў адносна малады і здаровы, сварыўся з Данутай Бічэль і чаму пакрыўджаны саветамі Анатоль Іверс быў за Дануту, а былы вязень ГУЛАГу Рудольф Пастухоў vel Маліноўскі быў за мяне.

«У нашай вёсцы Біскупцы ніколі не бралі грошы за хлеб», — так гаварыла і пісала Данута Бічэль. А быў гэта светлы смутак пра той час, калі Гілевіч вучыўся ў паваенным Мінску, і той час даўно мінаваў. Данута Бічэль гаварыла і пісала праўду. Быў я ў тых Біскупцах — не вёска гэта, а нейкіх дваццаць двароў, як у гістарычных аповесцях польскага Сянкевіча і нашага Караткевіча. Пачынак. Сябрына. І там жа «грамада» і «талака», а па-лацінску «камуна». У камуне ўвогуле не бывае ніякіх грошай, хіба толькі для знешніх зносінаў, для вялікай Ліды з яе базарам, вакзалам і педагагічным вучылішчам, а хлеб у камуне, *pardone,* — увогуле святы, як аплатак. І мой любімы мемуарыст Тадас Іванаўскас, меншы брат Ежы і Вацлава Іваноўскіх з выдавецтва «Загляне сонца ў наша аконца», пісаў тое самае: «Цяпер пагалоўная асвета, вышэйшая адукацыя, медыцына, электрычнасць, транспарт, тэхніка, і ўсё гэта добра, і без гэтага няма як жыць, але мне мілей успаміны з даўняй Літвы, калі гаспадар сам касіў і малаціў, сам вазіў сваё збожжа на свой млын, сам пёк са свае мукі свой хлеб, а пад вокнамі хатаў былі кветнікі, абкладзеныя пабеленымі вапнай камянямі, і гаспадыні стараліся, як дзеля душы, і выхваляліся тымі кветнікамі адна перад адной, і радасць жыла ў сэрцах вясковых людзей. Цяпер усё гэта страчана, і здаецца, страчана назаўжды...»

А яшчэ была вёска Чамяры пад Слонімам, адкуль Анатоль Іверс vel Іван Міско) і яшчэ скульптар Міско, і яшчэ трэці Міско, чацвёрты... І для Іверса са Слоніма тыя Чамяры выглядалі гэтак, як Біскупцы для Дануты Бічэль, толькі што Данута хвалілася біскупскім хлебам, а Іверс чамяроўскі хлеб старанна абыходзіў... і хваліў людзей, бо ў нас, калі няма чым хваліцца, то ты хваліш мяне, я хвалю цябе, і мы — «абое рабое», бо пахваленыя людзі. А лагернік Рудольф Пастухоў кажа: «Пайшлі, Алесь, у Чамярах самагонкі купім...» Гэта ён мяне правяраў, бо там у залеву вядро вады чужы не купіць, скажуць: «Няма вады, дзетачкі, студні летам павысыхалі». Тут Рудольф зарагатаў, бо экзамен я вытрымаў.

Чамяры расцягнуліся, як вуліца, на пяць і больш кіламетраў: адным канцом у Слонім, другім — у пушчу, і жылі паміж сабой ужо пасля канца Савецкага Саюза... як пад нямецкай акупацыяй, калі адзін канец з-пад Слоніма быў паліцэйскі, а другі канец з-пад пушчы быў партызанскі, і ўсе хаты ўзаемна адна



Ніл Гілевіч з Іванам Мележам. 1966 г.

Андрэй Грамыка і касманаўт Пётр Клімук. І па-свойму яны мелі рацыю: на ўсялякі выпадак Грамыка выводзіў свой радавод з рускіх стравераў з Веткі, а Клімук заяўляў, што ён найперш паляшук. Чамусьці ні адзін, ні другі не хацелі належаць да «беларускага савецкага народа», да таго «сена на асфальце», нават «беларускай прэвененцыі» мець не хацелі. Здалёк, з Масквы і з Вашынгтона, а тым больш з космасу, гэты вясковы сацыяльны аванс здаваўся нейкім камічным, незразумелым, а паваенны савецкі беларус, «настаўнік-завочнік» паводле Лойкі, выглядаў, як няўдалы вучань блазна з правінцыйнага цырку. Але гэта здалёк — з Вашынгтона і з космасу... А тут, у сябе ў Мінску, па дыпломе з вышэйшай адукацыяй ці хоць па дарозе да таго дыплома, савецкі беларус быў сам сабе пан... і заядлы савецкі нацыяналіст, «больше русский, чем сами русские» (тэрмін маскоўскага славянафіла, журналіста Южакова з 1970-х гадоў XIX ст.), і нацыяналізм савецкага беларуса палягаў на тым, каб не пусціць сюды рускіх, для чаго бягом «перейти на русский язык и получить образование», хоць якое і «быле як», гэта не так ужо важна.

адну палілі, рэзалі і стралялі. Але Іван Іверс бачыў не ўсе Чамяры, але толькі свой канец, а Данута Бічэль была і ў Чамярах, і ў Слоніме, а бачыла свае Біскупцы. І ў Гродне жыла, а бачыла Біскупцы, і ў Мінск ехала, а бачыла Біскупцы. Чалавек бачыць не той свет, які ёсць, а той, які хоча бачыць. І калі так бывае нават з інжынерам, нават з лекарам і нават з шафёрам за рулём аўтамабіля, то што вы хочаце ад літаратара, тым больш, што Іверс быў вершапісец, бо камсамолец, а Данута Бічэль — паэт прыроджаны, а не з уласнага выбару і нават не з уласнай волі.

Не бачылі літаратары нічога па-за тым, што хацелі, каб у вачах стаяла. І толькі Ніл Гілевіч у Мінску бачыў, што ўжо адбылася трансфармацыя вёскі ў вескаўню, бо ўжо ідзе, бяжыць і едзе сацыяльны аванс. Савецкі Саюз прастаяў семдзесят гадоў, альбо тры дзейсныя пакаленні, не на ідэі светлай будучыні камунізму, не на рэпрэсіях і прымусах з першага да апошняга дня, і нават не на той простай акалічнасці, што нікому ў свеце — па-за нацыянал-сацыялістам Гітлерам, — саветы былі непатрэбныя і ніхто іх не чапаў, але толькі на тым, што сутнасцю пралетарскай дзяржавы быў пагалоўны сацыяльны аванс за адно пакаленне якім заўгодна шляхам — праз вясковую сямігодку, праз камсамол і партыю, праз вайсковую вучэльню і армію, праз вучылішча, тэхнікум, інстытут і ўніверсітэт, праз кожную фабрыку і новабудоўлю. І разваліўся Савецкі Саюз па такой самай простай прычыне, бо сацыяльны аванс скончыўся... калі толькі «ўсіх ахапіў і ўсіх параўняў», і жыць далей у такой дзяржаве не было сэнсу; па-за псіхічна хворымі, ніхто пальцам не варухнуў у абарону Краіны Саветаў — толькі языком! Але пра гэта зноў-такі неяк усе цяпер забываюць... Проста жыццё прайшло, час мінаваў.

Сацыяльны аванс 1945–1985 гадоў быў галоўным чынам у фармаванні такога чалавечага тлуму як беларускі савецкі народ. Асцерагайцеся лацінскага слова «нацыя»! Беларусы яго не любяць, «нацыя» тут — чужая пані... Чалавек з народа і па савецкім сацыяльным авансе да прафесара, генерала і да Мазурава з Машэравым мае так і быць чалавекам з народа, каб сямейны клан і ўся вёска казалі яму «ты», а больш ласкава — «дзетачка»... І рэдкі чалавек здолеў у нас вылезці з гэтага балота і гною! Найпрасцей было ніколі не вяртацца туды, адкуль выехаў, — так і зрабілі дыпламат

І вось у такім «шчаслівым пекле» апынуліся пасля смерці таварыша Сталіна і пры сваіх беларускіх першых сакратарах ЦК КПБ Мазураве і Машэраве родныя браты Ніл і Мікола Гілевічы, а беларуская філалогія аднаго і журналістыка другога былі ў Савецкім Саюзе не больш і не менш за нябачны ідэалагічны фронт, на якім самае важнае — гэта «пошук чужых сярод сваіх» і адсейванне «нашых» ад «нянашых», як зерня ад мякіны. І адзіным спосабам не праваліцца, як Шцірліц, і яшчэ нешта зрабіць было не «палымянае слова», не гурткі і «варожыя

паддашкі», але адрозная ад сярэднесавецкай норма ўласных штодзённых паводзінаў, бо галоўным было не **што**, але **як** — і казаць, і вучыць, і рабіць, і жыць самому.

Самае цяжкае ў жыцці — гэта самае простае, альбо той самы *modus vivendi* на кожны дзень. Не быць такім, як усе, хамам, не завальвацца ў істэрыку «з гора і радасці», не даваць волю злосці, прапускаць міма вушэй і душы ўвесь словаелейны панос «свойскіх хлопцаў»... І памылкова перакладаць слова «інтэлект» як розум, а «інтэлігентнасць» як выхаванасць... і яшчэ больш памылкова лічыць, што ёсць нейкая «інтэлігенцыя», ці пакрыўджаныя лёсам светлыя галовы і душы, ці нейкі сацыяльны клас-паразіт. Насамрэч «чалавек разумны» — гэта кожны здаровы *homo sapiens,* а вось *intelligence* — гэта прыроджаная здольнасць пераказаць, напісаць для іншых тое, што бачыў, чуў і ведаеш сам — прыналежнасць да інтэлігенцыі непамысная без прыналежнасці да Слова; незалежна ад прафесіі (і адукацыі!), *homo intelligence* абавязаны ўмець ясна выказаць тое, пра што думаюць, і лепш выказаць на пісьме, а не проста языком. Мне заўжды здаваўся нават не падазроным, а проста фальшывым «адраджэнскі» тэрмін перайсці на мову ў сэнсе «паразмаўляць», бо паразмаўляць і шпак, і папугай можа, а якая карысць?! Ты пісаць навучыся, думаць навучыся! Рускі класік Антон Чэхаў, які дабіўся ўсяго, а памёр на саракавым годзе ад банальных сухотаў, нават напісаў: «Дуракам счастье, Ваше Превосходительство!» Інтэлігентны чалавек рэдка бывае шчаслівым, і таму сярод савецкіх беларусаў інтэлігентных людзей было мала, як усё роўна «белых варонаў» у восеньскай зграі.

Так выйшла, што я ні разу не быў на пісьменніцкіх з'ездах як



Ніл Гілевіч з Піменам Панчанкам. 1977 г.

пісьменнік — толькі як нядаўні інжынер і пачынаючы журналіст на з'ездзе 1990 года, а журналіст — гэта нейтральны назіральнік, прынамсі, так быць павінна ў людзей цывілізаваных. Што запомнілася? Што да людзей таго з'езда... якраз найбольш трапна пасавала наша развясёлае слова «пісьменнік» («свойскі хлапец»), чым лацінскае «літаратар», — так там усе свойшыліся... І толькі чацвёра выпадалі, як усё роўна не з нашай вёскі: Брыль, Быкаў, Гілевіч, Шамякін...

Калі вярнуцца да беларускай — еўрапейскай, а не «беларускай савецкай», якой было куды больш! — літаратуры 1945—1985 гадоў, то найперш мне бачыцца адно прынцыповае яе адрозненне ад літаратуры «нашаніўскай» і міжваеннай: калі з 1906 да 1945 года галоўнай і ледзь не дамінуючай цягай была паэзія, то з 1945 і да 1985 года на першае месца ясна рушыла проза, найперш Янка Брыль, Іван Шамякін, Васіль Быкаў і Уладзімір Караткевіч.

У мяне нават няма пытання, а чаму так, бо як інакш?! І гэта добра, гэта выдатна, што выйшла так, а не інакш, калі з насення паэзіі закаласавала проза! Калоссе «пад сярпом тваім» — гэта значыла, што пры ўсім «сацыяльным авансе на рускім канцылярыце» з вясковага этнасу расце хоць і савецкі, але беларускі народ, бо яго літаратура, а літаратура — гэта проза, адной паэзіі мала! — усё-такі беларуская. Паэзія — гэта справа прарокаў у час «абуджэнняў» і «адрозненняў», а вось проза азначае сталасць — так ці не так, але выйшаў гэты «люд просты» з партызанскай вайны і папёр проста ў Мінск вучыцца «на начальнікаў», альбо быць народам. Тым больш вёска на Беларусі пацярпела найменш, не раўняць з польскім дваром і габрэйскім мястэчкам...

А вось беларуская паэзія ў 1945–1985 гадах хоць і была на тры галавы вышэй за «нашаніўскую» і міжваенную, але з чыста гістарычных прычынаў было яе кепска відаць за беларускай прозай — і толькі дурань, графаман і сукін сын смеюць папракаць такіх майстроў як Ніл Гілевіч і Данута Бічэль, што «раней лепш пісалі, а вы не ўмееце»...

Літаратар — таксама чалавек, а Пан Бог стварыў людзей не роўнымі, але рознымі, настолькі рознымі людзьмі, што часам не верыцца ў іх прыналежнасць да адной прафесіі.

Не буду спамінаць імёнаў і прыкладаў, бо давялося б склас-



Ніл Гілевіч з Васілём Быкавым. 1984 г.

ці тэлефонны даведнік, але адваротныя прыклады, калі літаратура была ўласным жыццём і калі яна вызначала і лёс, і долю, і занятак сямейства, дзяцей і жонак, — самі прыходзяць на памяць. І тое, што Шамякін быў старшынёю Вярхоўнага Савета БССР, і тое, што Брыль склаў з сябе тытул (і аклад!) акадэміка... «такой акадэміі», і тое, што Гілевіч неяк прыслаў мне кнігу і падрабязна, нават з гонарам, распісаў, у колькі «пенсій» абышлося яму гэта выданне, то гэта ўсё для мяне адзін учынак — тых людзей, тых літаратараў, хто «пишет, как он дышит, не стараясь угодить» (паводле Булата Акуджавы), альбо хто здольны быць сабой незалежна ад часу навокал і долі ўласнай, і каму пастудэнцку «па-барабану» тыя алегарычна-жыццёвыя «агонь, вада і медныя трубы».

А мы не дацягваем... Ні мае аднагодкі на чале з «вялікай чацвёркай» — Глобус, Сокалаў-Воюш, Сыс і Шалкевіч — ні апярэдзіўшыя нас жывыя класікі — Арлоў Уладзя і Някляеў Валодзя, ні таксама ўжо немаладыя нававбранцы Валянціна Акудовіча, «майстры» аднаго верша за жыццё, як той Гарачка... «Жах аж!»

Чаму не дацягваем? — гэта я Вас пытаю, Ніл Сымонавіч. Мы ж лепш умеем — час быў другі, навука другая, «закон пакаленняў» у рэшце рэшт, але вось так: умець умеем, а дацягнуць не дацягваем... Чаму так, Ніл Сымонавіч? Чаму раней неяк спраўляліся і выкладаць, і самі пісаць, бо літаратура адна, «адзіная і непадзельная», а цяпер як усё роўна «пахаваліся літаратары ў выкладчыкі»... і перасталі быць літаратарамі! Час змрочны? А раней які быў?!

І яшчэ адно, апошняе. Калі «літаратура — гэта навука пра чалавека», то пра што б ты ні пісаў, а мусіш пісаць пра самога сябе... і пры тым не старацца самому сабе дагадзіць — інакш выходзіць гульня ў словы, як у Някляева, альбо «крытыка крытычнай крытыкі», як у Дубаўца і Пацюпы.

Таму і не разбіраю паэзію Ніла Гілевіча, пакідаю ў спакоі індукцыю з дэдукцыяй і сінтэз з аналізам, бо як падзяліць Слова і Чалавека? І ці можна «адвеяць душу ад цела»?

Таму пішу пра чалавека і час, тым больш цяпер восемдзесят гадоў пралятаюць так, як некалі цягнула свае дваццаць тое хрэстаматыйнае «адно дзейснае пакаленне». А цяпер час такі, як быццам жывем у трох стагоддзях адначасова — панацягвалі з усяго свету гатовых цудаў тэхналогіі XXI стагоддзя, а самі жывем і думаем... як пасярэдзіне стагоддзя XIX — тут табе, Чобат, не адзін Ніл Гілевіч сучаснік, а тут і Дунін-Марцінкевіч гэтаксама дажывае за сваім дзедавым плотам, як ты дажываеш у дзедавай хаце.

Нашыя *sto lat*, Ніл Сымонавіч, ужо недзе тут, толькі брамку ноччу знайсці не могуць адразу, а вечнасць ужо на падворку гуляе, жоўта лісце мяце, подых снегу зараз спрабуе ці які ледавік пацыху спускае з гістарычнай радзімы св. Мікалая, альбо Лапоніі...

Прайшоў яшчэ адзін год. Ну і што? Нічога страшнага. Ніякага канца свету... А тая «Domesday Book» («Кніга Страшнага суда») літаратарам і кніжнікам не страшная — такая самая кніга, як і ўсе іншыя. Альбо, як кажуць браты-палякі, «sąd to sąd, ale sprawiedliwość musi być — po naszej stronie».

*Алесь Чобат*

---

**Алесь Чобат** — паэт, перакладчык. Нарадзіўся 23 жніўня 1959 г. у мястэчку Скідзель. У 1981 г. скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут у Мінску. З 1994 г. належыць да Саюза беларускіх пісьменнікаў, а з 1995 г. — да міжнароднага ПЭН-клуба. Напісаў кнігі паэзіі «Год» (1992), «Новая Галілея» (1995), «Тутэйшая Сага» (2000), «Край мой шчаслівы» (2007), а таксама кнігі па аналітычнай гісторыі Беларусі «Зямля святога Лукі» (2002; польскі пераклад — 2003) і «Легенда пра чатырох мушкецёраў» (2004). Пераклаў з польскай мовы кнігі Аўгустына Орфэя «Святы Ян Боска» (1993), Чэслава Мілаша «Тое» (2006) і (разам з Д. Бічэль) кнігу «Караль Вайтыла. Паэзія. Выбранае. Ян Павел ІІ. Рымскі трыпціх» (2003). Жыве ў Скідзелі.

Ізяслаў Марозаў

# ПРА СТВАРЭННЕ СУСВЕТУ

Сучасная навука прыходзіць да высновы, што сусвет мае пачатак. Пачатак дала яму з'ява, якая атрымала назву «вялікі выбух». Вялікі выбух — гэта працэс, які адбыўся прыкладна 15 мільярдаў гадоў назад. У выніку гэтага працэсу ўзніклі матэрыя, прастора і час. Да «вялікага выбуху», згодна з навуковымі ўяўленнямі, нічога гэтага не было. Атрымліваецца, што сусвет паўстаў «з нічога».

Тэорыя «вялікага выбуху» — гэта навуковая, г. зн. заснаваная на фактах, лагічна несупярэчлівая, матэматычна абгрунтаваная з'ява. Спатрэбіліся тысячагоддзі, каб навука прыйшла да ісціны Святога Пісання пра тое, што свет быў створаны. Сёння вучоныя разглядаюць ідэю стварэння як сумяшчальную з навуковымі ўяўленнямі[1].

Тое, што свет паўстаў «з нічога», трэба разумець як немагчымасць стварэння матэрыі ў выглядзе мікрачасцінак, атамаў, фізічных палёў і інш. Але заўсёды быў, ёсць і будзе Бог — адзіны несмяротны Творца і Пан, крыніца існавання свету. 15 мільярдаў гадоў назад Ён запусціў механізм стварэння сусвету, які працуе да сённяшняга дня.

Хрысціянскі светапогляд заснаваны на веры ў Бога, на Аб'яўленні Божым, пра якое апавядаецца ў Святым Пісанні. Навуковы светапогляд заснаваны на фактах, логіцы, матэматыцы, дасягненнях прыродазнаўства і філасофіі. У сувязі з гэтым трэба сказаць, што навуковыя ідэі, адкрыцці, вынаходніцтвы — гэта па сутнасці Аб'яўленне. Бог адкрывае таямніцы сусвету настойлівым, мэтанакіраваным у працы навукоўцам, якія вельмі доўга да гэтага імкнуцца.

Колькі ў гісторыі рэлігіі было людзей, якія называлі сябе прарокамі? Колькі з іх было сапраўдных? Час усё расстаўляе на свае месцы. Многія з гэтак званых прарокаў адышлі ў нябыт, а сапраўдныя надалей застаюцца ў памяці людзей. Падобнае адбываецца і ў навуцы. У гісторыі яе развіцця засталіся толькі тыя, каму Бог адкрываў таямніцы сусвету. І хоць чалавецтва не заўсёды ведае іх імёны, але ўсё ж застаюцца іх адкрыцці. Так, напрыклад, людзі не ведаюць, хто вынайшаў кола, але яны ўдзячныя таму, хто гэта зрабіў.

Многія вучоныя разумеюць, што іх адкрыцці і вынаходніцтвы — гэта Аб'яўленне. Яны дзякуюць Богу за падараваныя ім думкі. Адным з іх з'ўляецца геніяльны фізік XX стагоддзя А. Эйнштэйн. Ён не сумняваўся ў існаванні Вышэйшага розуму, наяўнасці ў Яго задумы, плана і праграмы ўзнікнення і развіцця сусвету. На падставе адкрытай ім тэорыі адноснасці былі выяўленыя факты, якія пацвярджаюць рэальнасць «вялікага выбуху» і, такім чынам, пацвярджаюць акт Стварэння. Такімі фактамі з'яўляюцца пашырэнне сусвету і рэліктавае выпраменьванне.

Ідэя «вялікага выбуху» — гэта вынік Аб'яўленняў, якія былі дадзеныя Богам не толькі Эйнштэйну, але фізіку і матэматыку А. Фрыдману, каталіцкаму святару і вучонаму Ж. Ляметру, астраному Э. Хаблу, радыёфізікам А. Пензіясу і Р. Вільсану. Можна назваць дзясяткі імёнаў вучоных, чые погляды прывялі да з'яўленн тэорыі «вялікага выбуху». Сярод іх — выдатныя матэматыкі XIX ст. М. Лабачэўскі і Б. Рыман. У цэлым тэорыя «вялікага выбуху» — гэта вынік развіцця матэматыкі і прыродазнаўства, вынік тых Аб'яўленняў, якія Бог падараваў вучоным.

У XIII ст. думка пра стварэнні свету «з нічога» была падараваная Богам біскупу Гросэтэсту (1175–1253). Ён лічыў, што да сварэння свет быў заключаны ў кропцы, «у якой злітыя ў адно першаформа-свет і першаматэрыя, і ў якой патэнцыйна ўжо заключаны ўвесь свет; з яе па законах выпраменьвання святла пачынаецца працэс эманацыі»[2]. Эманацыя (лац. *emanatio*) — гэта выцяканне, выпраменьванне, выдзяленне,

---

**Ізяслаў Марозаў** — кандыдат філасофскіх навук. Апублікаваў 24 навуковыя працы па філасофскай тэматыцы, дзве з якіх — манаграфіі. Жыве і працуе ў Мінску.

праяўленне з'явы па-за цэласнасцю.

Цікава наступнае: Гросетэст лічыў, што пры пашырэнні ва ўсе бакі свет у адзінстве з першаматэрыяй стварае сусвет, які потым будзе зноў сцягвацца ў кропку. Сучасная навука не адмаўляе гэтай магчымасці. Вучоныя лічаць, што сапраўды пасля пашырэння сусвету можа быць яго сцісканне. Атрымліваецца, што рэлігія, у асобе біскупа Гросетэста, на стагоддзі апярэдзіла развіццё навукі.

Біблія, безумоўна, пісалася з улікам тагачасных ведаў. Сучаснае яе прачытанне немагчыма без сучаснага ўзроўню ведаў. Аднак гэта зусім не значыць, што ў Святым Пісанні неабходна нешта змяняць, перапісваць. Ні ў якім разе! Божае Аб'яўленне выкладзена такім чынам, што ў тэксце Святога Пісання словам цесна, а думкам — прасторна. І трэба мець на ўвазе, што змест прачытанага адкрывае не той, хто чытае Біблію, а сам Бог. Для адных змест Бібліі — паданне далёкай даўніны, для іншых — скарб думак і ведаў.

Цікава прачытаў 1-ы верш 1-га раздзела кнігі Майсея «Быццё» настаўнік і айцец Касцёла, біскуп Аўрэлій Аўгустын (354–430). Вось некаторыя вытрымкі з яго кнігі «Споведзь»: «...пад імем неба і зямлі разумеецца ўсё створанае»[3]; «Ты стварыў неба і зямлю не са сваёй субстанцыі, інакш стварэнне Тваё было б роўнае Табе»[4]; «Бог стварыў неба і зямлю, г. зн. духоўны і цялесны свет»[5].

Якія высновы можна зрабіць з гэтых думак Аўгустына?

1) Побач са створанай матэрыяй існуе і створаны дух.

2) Пад небам трэба разумець створаны дух.

3) Створаны дух не трэба змешваць з Духам Святым.

4) Сусвет, як адзінства створаных духу і матэрыі, не роўныя Творцу. Космас, прырода — гэта не сам Бог, а Яго стварэнне.

Высновы можна працягваць, але дадзены раздзел можна прачытаць яшчэ і так. «На пачатку стварыў Бог неба і зямлю...»[6].

Які сэнс укладзены ў слова «пачатак» у Святым Пісанні? Ён такі: дух і матэрыя былі створаныя ва ўжо існуючым «пачатку». «Пачатак» ужо быў, і ў ім Бог стварыў неба і зямлю, дух і матэрыю.

Паўстае пытанне: што з сябе ўяўляе гэты «пачатак?» Адказ на яго знаходзіцца ў Святым Пісанні: «На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова»[7].

Што такое «слова» з навуковага пункту погляду? Гэта выказаная вусна або пісьмова думка. Па сваёй сутнасці слова — гэта думка, дух; па форме — гэта гук або святло. Таму працытаваны ўрывак з Паслання святога Яна можна прачытаць наступным чынам: на пачатку была Божая думка. Значыць неабходна гаварыць пра самы пачатак, пра Таго, хто існаваў заўсёды. Ім з'яўляецца адзіны несмяротны Творца і Пан — Бог. Ён стварыў і працягвае ствараць сусвет.

Хрысціянскае вучэнне пра стварэнне свету зыходзіць з таго, што Бог стварае свет не з заўсёды існуючай матэрыі, а з «нічога». Ён стварае свет сваёю думкаю. Сілаю думкі Ён стварыў дух і матэрыю, якія ва ўзаемасувязі прымаюць форму розных прадметаў і з'яваў.

Не трэба атаясамліваць думку Бога з мысленнем чалавека. Божая думка здольная пераўтварацца ў энергію, сілу і рэчыва. Чалавек таксама стварае сваёю думкаю, але аднаго мыслення яму недастаткова. Каб матэрыялізаваць думку, яму неабходныя фізічныя намаганні, выкарыстанне створаных Богам духу і матэрыі, а таксама веданне законаў, паводле якіх Бог стварае свет.

Чалавек стварае культуру і цывілізацыю са створаных Богам духу і матэрыі, выкарыстоўваючы падараваныя яму веды, прытрымліваючыся выкладзеных у Святым Пісанні нормаў маралі. Сам Бог, як лічаць Тамаш Аквінскі (1225–1274), Дунс Скот (1268–1318) і іншыя, напачатку задумвае рэчы як магчымыя і толькі пасля ператварае іх у рэчаіснасць. Чалавек, якога Бог стварыў паводле свайго вобраза, першапачаткова таксама стварае рэч у сваім розуме як магчымасць і толькі пасля надае ёй матэрыяльнае ўвасабленне.

Чаму Бог прыняў рашэнне ствараць сусвет? Таму што Ён мае патрэбу ў разумнай істоце, здольнай да творчасці. Адкуль такая ўпэўненасць? Са Святога Пісання: «І стварыў Бог чалавека паводле свайго вобразу, паводле Божага вобразу стварыў яго»[8]. У гэтых радках маецца на ўвазе духоўнае падабенства Бога і чалавека.

Калі чалавек створаны паводле Божага вобразу, то дапускаецца параўнанне паміж справамі Бога як Творцы і творчасцю чалавека. Трэба толькі мець на ўвазе, што за душу чалавека, яго думкі, словы і ўчынкі змагаецца і д'ябал. І як змяншэнне свету вядзе да павелічэння цемры, так і адыход чалавека ад Бога вядзе яго да д'ябла.

Верагодна, спробы Бога мець на зямлі разумную істоту былі неаднаразовымі. На жаль, апошняя спроба ў поўнай ступені таксама не ўдалася. Адам і Ева парушылі дадзеную ім забарону, і гэта стала прычынаю таго, што мы, іх нашчадкі, маем сёння. Але Бог любіць сваё стварэнне і спадзяецца, што людзі будуць

жыць паводле Яго запаведзяў. Ён з'явіўся на Зямлі ў вобразе свайго Сына — Хрыста, каб выратаваць людзей ад самазнішчэння. Гэта Яму ўдалося. Але д'ябал наступае. Як гэта праяўляецца? Вось, напрыклад, «парламенты многіх краінаў Еўрасаюза прынялі законы, якія дазваляюць гомасексуальныя саюзы з правам усынаўлення дзяцей. Усё больш краінаў свету дазваляюць эўтаназію... Гэтыя і іншыя прыклады, — адзначае арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, — схіляюць нас да пытання: а куды ж мы ідзем? Якая ў нас будучыня? Што нас чакае?»[9].

Неабходна таксама звярнуць увагу і на некаторыя побытавыя адносіны ў сучасным свеце. Усё большае распаўсюджванне атрымлівае цяжкі слоўны грэх — мат. Ён стаў публічным і ўжо мала кім асуджаецца. А колькі чуецца ў гэтых словах зла, гэтага д'ябальскага наслання! Колькі зла ва ўчынках і ў паводзінах людзей! Стаў разбэшчаным секс. Жанчыны і мужчыны ў сваіх адносінах ператвараюцца ў рэчы, якія можна проста купіць. Любоў — самы вялікі дар Бога, замяняецца чужалоствам. А гэта адзін з цяжкіх грахоў.

Сёння Касцёл стаіць на варце маральнасці народаў. Ён заклікае людзей не грашыць, жыць паводле Божых запаведзяў. Вось чаму напады з боку сатанінскай сілы на Касцёл і яго святароў усё больш узмацняюцца. Пра гэта асабліва «руліцца» тэлебачанне, доступ на якое прадстаўнікам веры вельмі абмежаваны.

Калі быў пачатак, а ён быў, пра гэта сведчаць і рэлігія, і навука; калі быў «вялікі выбух», пра які сведчыць навука; калі сусвет быў створаны Панам Богам, то, значыць, дзяленне свету на «той» і «гэты» не абсалютнае.

Бог не стварыў два светы. Свет адзін і адзіны, як адзін і адзіны яго Творца. Няма двух светаў, як няма двух багоў. Даступны нашым органам пачуццяў створаны Богам свет — гэта адзінства створаных духу і матэрыі, сілаў і рэчыва. Найвышэйшаю праяваю гэтага адзінства з'яўляецца чалавек, які складаецца са створанага духу, цела і душы. У адрозненне ад псіхікі, якая ёсць і ў жывёлаў, увасабляючы стварэнне, чалавек мае душу — і гэта Божы дар. У такой сваёй якасці душа, як і сам Пан, несмяротная. У адрозненне ад псіхікі, якая гіне разам з целам, душа чалавека пасля смерці цела пакідае яго і пераходзіць у свет духоўны.

Той свет у сваёй духоўнай частцы і гэты пранікаюць адзін у аднаго. Ці маюць яны ўзаемаўплыў? Безумоўна. Гэта праяўляецца праз уплыў душаў памерлых людзей на душы тых, хто жыве, як і наадварот. Але адбываецца гэта пры ўмове, што жывыя захоўваюць памяць пра памерлых.

Што такое памяць? Па-першае, гэта духоўная з'ява. Па-другое, гэта не толькі сувязь часоў у пачуццёва-прадметным, фізічным свеце (цяперашнім, мінулым і будучыні), але і сувязь таго і гэтага свету. Пакуль жывыя памятаюць пра памерлых, іх душы з намі. Людзі гэта не толькі разумеюць, а хутчэй, адчуваюць сэрцам. Наведванне могілак, дагляданне магілаў, захаванне, фотаздымкаў і рэчаў памерлых, іх сузіранне — усё гэта праявы ўзаемнага імкнення душаў жывых і душаў памерлых. Гісторыя сведчыць, што людзі, надзеленыя ўладаю і багаццем, будавалі для сябе і сваіх блізкіх піраміды, саркафагі, маўзалеі, замаўлялі партрэты; надзеленыя здольнасцямі — рабілі адкрыцці і вынаходніцтвы, стваралі літаратурныя і мастацкія творы. Наўмысна або міжвольна, свядома або несвядома людзі імкнуліся ўвекавечыць сваё імя, каб заставацца ў памяці жывых.

Хто скажа, што Хрыстус памёр? Ён жывы, жыве ў нашай памяці і праз сэрцы людзей уплывае на іх думкі, словы і ўчынкі. Гэты ўплыў павялічваецца ў шмат разоў, калі чалавек верыць у Айца і Сына, і Духа Святога. Вера замацоўваецца малітваю, кантактаваннем з Хрыстом, узнясеннем да Яго сваёй душою. Менавіта праз малітву чалавек можа кантактаваць з памерлымі роднымі і блізкімі. Пажадана маліцца ў святыні — і менавіта ў той, якую памерлыя наведвалі пры жыцці. Маліцеся — гэта патрэбна як жывым, там і душам памерлых, якія пакінулі гэты пачуццёва-прадметны свет і перайшлі ў свет духоўны.

**Літаратура**

[1] Католическая энциклопедия. — Москва, 2002–2007 гг., тт. 1–3, т. 1. С. 676–677.

[2] Тамсама, т. 1, с. 1482.

[3] Блаженный Августин. Исповедь. Издательство Белорусского Экзархата. — Минск, 2000 г. — С. 249.

[4] Тамсама, с. 273.

[5] Тамсама, с. 287.

[6] Быццё, 1, 1.

[7] Ян 1, 1.

[8] Быццё 1, 27.

[9] Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Новая евангелізацыя — галоўнае заданне Касцёла ў сучасным свеце. «Наша вера», 4 (54), 2010, с. 7.

Юры Лаўрык

# КНІЖНЫЯ ЗБОРЫ МЕНСКАГА ДАМІНІКАНСКАГА КАНВЕНТУ Ў 1709 ГОДЗЕ




Выданне Бібліі 1542 г. (разгорнута на пачатку Новага Запавету).

У рубрыцы «Кніжныя скарбы» мы зазвычай размаўляем пра тое, што з сябе ўяўлялі кнігазборы каталіцкіх кляштараў у 1796 годзе. Аднак на гэты раз хочацца зрабіць адступленне ад традыцыі і перанесціся не ў 1796 г., а ў 1709 г., што звязана са знаходкай у архіве айцоў дамініканаў у Кракаве вельмі цікавых дакументаў, датаваных менавіта гэтым часам.

Згаданыя матэрыялы маюць дачыненне да гісторыі т. зв. «Рускай правінцыі» ордэну, у межах якой — як мы памятаем з папярэдніх публікацый — у XVIII стагоддзі ляжаў і Менск. Гэтыя дакументы ўяўляюць з сябе сшытыя ў кнігу інвентары ордэнскіх канвентаў правінцыі за 1708–1709 гг., сярод якіх ёсць і рэестр рэчаў, што знаходзіліся ў 1709 г. у менскім дамініканскім кляштары[1]. Названыя акты хоць і не маюць адмысловых сігнатур захавання, але лёгкадасяжныя для даследчыкаў дзякуючы дапамозе дасведчанага і зычлівага архіварыуса айца Марка Мілавіцкага OP, якому і я, карыстаючыся нагодай, хачу выказаць шчырую падзяку за спрыянне ў працы і магчымасць азнаямлення не толькі з самімі дакументамі, але і з літаратурай пра адносіны дамініканаў з кнігай.

Выяўленыя ў Кракаве архіўныя матэрыялы дазваляюць заўважыць, што ў канвенце менскіх дамініканаў, як і ў іншых рыма-каталіцкіх кляштарах гэтага перыяду, існаваў падзел на касцёльны літургічны збор (які часам фігуруе ў дакументах як «Książki Zakrystyjne»[2], бо захоўваўся ў сакрыстыі), і ўласна манастырскую кніжніцу. Прычым, калі выданні, што выкарыстоўваліся ў літургічнай практыцы, не вылучаліся сярод іншай маёмасці святыні, то бібліятэка заўсёды разглядаецца як самастойнае падраздзяленне. Таксама і з пункту гледжання гісторыка кнігі найбольшую цікавасць выклікае менавіта бібліятэка: гэта звязана з тым, што літургічны збор быў у большай ці меншай ступені ўніфікаваным і невялікім паводле аб'ёму, у той час як уласна склад

**Юры Лаўрык** — старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Закончыў бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт Мінскага ўніверсітэта культуры, тэалагічны і гістарычны факультэты Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта. Даследуе гісторыю беларускай кнігі і бібліятэк.

кляштарнай кніжніцы дазваляе меркаваць пра інтэлектуальныя патрэбы і чытацкія зацікаўленні законнікаў.

### Касцёльны кнігазбор

Паводле згаданых дакументаў, касцёльны кнігазбор у 1709 г. быў адносна невялікім — усяго 13 паасобнікаў. Усе яго кнігі пералічаны ў агульным спісе касцёльнай маёмасці на арк. 221: «Mszałów Ordinis Nostri dwa / trzeci w Chotajewiczach / Mszałów swieckich dwa / Mszał starym drukiem jeden / Mszalik rekuialny jeden malęki / ... / Brewiarzów Starych do Churu należących dwa / Psaltyrz Stary Swiecki w nowey oprawie in Folio / Martyrologium do Choru należący / Procesyonał in quarto / Antyfonarz in Folio».

Такім чынам, склад гэтага збору характэрны для тагачасных касцёльных бібліятэк: службоўнікі дамініканскія і звычайныя; Імшал рэквіяльны — для службы па памерлых; кнігі, патрэбныя для штодзённага набажэнства (псалтыр, мартыралог і антыфанар), а таксама — працэсіянал. «Mszai starym drukiem» — гэта друкаваны гатычным шрыфтам службоўнік, які, напэўна, быў у касцёле з часоў заснавання кляштара. Адзін з трох прыпісаных да касцёла дамініканскіх Імшалаў быў перададзены ў філіяльную бажніцу ў Хатаевічах.

### Кляштарная кніжніца

Бібліятэка таксама не была вялікай, яе інвентар займае ўсяго два няпоўныя аркушы[3]. Гэты вопіс з'яўляецца дакументам хутчэй эканамічнага, чым бібліяграфічнага характару, таму з сучаснага пункту гледжання інфарматыўнасць паасобнага запісу мінімальная. Кнігі ў рэестры падзеленыя на раздзелы


ORATOR
POLITYCZNY,
MATERIAM
WESELNYM Y POGRZEBOWYM
SŁVZACY.
PRZEZ
W. X. KAZIMIRZA IANA
WOYSZNAROWICZA
Regenta Cancellariey Wielkiey W. X. Lit.
Sekretarzá I. K. M.
WYDANY,
A świeżo przez Authorá tegoż w Porządek lepszy odnowiony.
Jáśnie Wielmożnemu Iego Mośći Pánu
ADAMOWI
Z GRANOWA
SIENIAWSKIEMV.
Hrábi ná Szkłowie y Myszy, Rohatynskiemu Staroście &c. &c.
NA
Polityczna Młodośći Iego Zabawke.
PRZEZ
Woyćiechá Goreckiego I. K. M. y Sławney Akádemiey Krákowskiey Typográphá.
Przedrukowány y przypisány.
ROKV PANSKIEGO 1677.

Папулярны ў XVIII ст. дапаможнік па складанні казанняў «Orator polityczny» аўтарства кс. Казіміра Яна Вайшнаровіча.

паводле фармату: «Libri in folio», «Libri in 4to», «Libri in Octavo» — то бок, «Кнігі ў аркуш», «Кнігі ў 4-ю частку аркуша» і «Кнігі ў 8-ю частку аркуша»; відаць, так яны размяшчаліся ў бібліятэчнай шафе. Паасобны запіс пазіцыі ў дакуменце мае толькі парадкавы нумар у межах раздзела, а таксама звесткі пра аўтара ды назву кнігі; прычым гэтыя звесткі размешчаны ў тым жа парадку, як і на тытульным аркушы, таму ў запісах няма аднастайнасці (напр., «3tio Opera Drexelij» і «8vo Faber de Sanctis»)[4].

Колькасць тамоў або паасобнікаў пэўнай пазіцыі ўказана толькі ў рэдкіх выпадках, калі з'яўляецца небяспека двухсэнсоўнасці, — напр., «Martij [sic!] Tulli [sic!] Ciceronis de Officiis Lib[ri]: 3 in uno Tomo». Квяцістыя барочныя тытулы кніг зазвычай скарачаюцца да словаў загалоўка ці ўвогуле да тэмы, а іншамоўныя назвы перакладаюцца на лаціну («Liber Italicus de S[anctis]simus Rosario»). Адзначым, што складальнік інвентара быў не ў ладах з лацінскай мовай, што відно з памылковых канчаткаў пры напісанні імя Марка Тулія Цыцэрона або з назвы кнігі «Каментар Мендозы на Кнігу Царстваў і (Кнігу) Лічбаў», якую ён падаў як «Commentarium Mendoze In Libro Regum et Mummerorum» (замест «Numerorum»). Напэўна, вопіс бібліятэкі складаўся наступным чынам: адзін законнік браў кнігу з паліцы і зачытваў яе тытул, а другі са слыху запісваў назву, што й прыводзіла да памылак, якія часта сустракаюцца ў нашым вопісе (іншыя прыклады: слова «Praedestinatione» ў назве кнігі Суарэса аб прадвызначанасці збаўлення і вечнай кары напісана як «Praedisdytystione»; слова «Ideomate» ў выразе «Ideomate Italico» мы часам бачым з канчаткам «a» замест належнага паводле правілаў граматыкі «e»; а прозвішча вядомага тэолага і казнадзея Бузембаўма напісана без канцавога «м»).

Здаралася, кнігі траплялі не ў свой раздзел, што, відаць, адбывалася праз неадпаведную расстаноўку на паліцы; у такім выпадку фармат пазначаўся пасля імя аўтара (напр., «29 Orator Polityczny in 4to Libri ...» у першым раздзеле, дзе змешчаны кнігі «in folio»).

Часам траплялісі і канвалюты, прычым іх склад мог нават распісвацца па асобных алігатах — напр., кніга «Poliantea» была злучана з польскамоўным зборнікам жыццяў святых («Życia Świętych») і радзівілаўскім «Падарожжам у Святую

Зямлю» («Peregrinatio Radzivilij»); пад адной аправай было сабрана і некалькі тамоў Сымона Акольскага — колішняга дамініканскага правінцыяла і славутага прапаведніка, а разам з тым і вядомага гісторыка.



Кёльнскае выданне 1629 г. прапаведніцкіх твораў Пятра Бесея.

Прыгледзімся больш уважліва да кніг у тым ці іншым раздзеле.

*Раздзел «Libri in folio»* змяшчае 30 нумараваных пазіцый (з якіх адна змешчана памылкова — згаданы вышэй «Orator Polityczny»). Тэматычны склад раздзела досыць разнастайны, што цалкам зразумела, бо кнігі расстаўленыя паводле фармату, а не галіны ведаў. Пераважная большасць выданняў носіць выразны рэлігійны характар: тут і зборнікі казанняў (як згаданае вышэй выданне твораў Дрэксэліуса або пропаведзі Пятра Скаргі), і экзэгетычныя даследаванні (напр., каментары на розныя кнігі Старога і Новага Запавету, пачынаючы ад згаданага Мендозы і да Тамаша Аквінскага), і тэалагічныя трактаты (як «Theologia Moralis» Бонацыны), і палеміча-дагматычныя працы (напрыклад, «Contra persecutores Ecclesiae» Тэртуліяна або антылютаранская «De Praedistinatione et Reprobatione» езуіта Суарэса), і малітоўная літаратура («Rożaniec y inne Nabożne Modlitwy»).

Ёсць у раздзеле таксама і рукапісы — напрыклад, «Manuscripta de p[le]na Personali X[ri]sti». Разам з тым, частка кніг мае свецкі характар (як, напрыклад, «Габрэйскія старажытнасці» Юзафа Флавія — «Josephus [Flavius] Anitquitates [Judeorum]») або знаходзіцца на памежжы літаратуры рэлігійнай і свецкай (як і згаданае вышэй лацінамоўнае «Падарожжа ў Святую Зямлю» Януша Радзівіла).

У раздзеле пераважаюць творы на лаціне, польскамоўных кніг — лічаныя адзінкі («Kazania Polskie de Sanctis X[iкd]za Piotra Skargi Soci[e]t[a]tis Jesu», «Żywoty Świętych» і некалькі іншых), а на іншых мовах згадваецца толькі адна, па-італьянску — «Historia de Beata Virgine Maria Ortoni Ideomata [sic!] Italico».

У агульных рысах падобным чынам выглядаюць і два іншыя раздзелы рэестра з той толькі розніцай, што яны змяшчаюць большую колькасць пазіцый.

*Раздзел «Libri 4to»* ахоплівае 85 нумараваных пазіцый, сярод якіх шмат прозвішчаў і назваў, папулярных у XVII–XVIII стагоддзях. Сярод аўтараў гэта Бесей, Фабер, Вега; сярод часта сустраканых у кляштарных бібліятэках тытулаў — «Gwiazda Morska», «Ziarno Gorczyczne» ды «Orator Polityczny», не кажучы ўжо пра разнастайныя «Sermones» і шматлікія «Commentaria» на кнігі Бібліі. Прысутнічае тут і «Biblia Sacra».

Вялікую частку раздзела (не менш за чвэрць, наколькі можна меркаваць паводле кароткага апісання) складаюць рукапісы-«скрыпты» — то бок, нататкі выкладаў па рыторыцы, філасофіі і тэалогіі: «Rhethorica Manuscripta», «Manuscripta Cursus Philosophicus»», Logica Manuscripta», «Physica Manuscripta», «Theologia Moralis Manuscripta», «Manuscripta de Sacramentis». Некаторыя з іх паказваюць нам шляхі камплектавання кнігазбору — у прыватнасці, праз паступленне ў бібліятэку пасля смерці законніка: «item Logica Manuscripta post obitum Patris Bremenski».

Як і ў папярэднім выпадку, пераважае лацінская мова тэкстаў, польскамоўныя выданні амаль усе названыя вышэй сярод папулярных у той час кніг, а з твораў на іншых мовах толькі дзве пазіцыі па-італьянску («Didaci Hisseni Con[ci]ones Ideomate Italico» і «Bignoni de Sanctis Ideomate Italico»).

*Раздзел «Libri in Octavo»* змяшчае 77 нумараваных пазіцый. Тут мы бачым яшчэ больш вядомых імёнаў, а побач з трактатамі багасловаў ды казаннямі прапаведнікаў (Тамаш Аквінскі, Бесей, Бузембаўм) можна сустрэць творы антычных класікаў (напрыклад, «Пра абавязкі» Цыцэрона» ці «Эпіграматон» Марцыяла), кнігі літаратараў

эпохі Адраджэння («Marsilius Ficinus») або кодэксы цывільнага права («Liber Juris Civilis») і г.д. Ахопленая ў раздзеле літаратура ў пераважнай большасці тэалагічная і лацінамоўная.

Усяго вопіс бібліятэкі налічвае 192 пазіцыі, прадстаўленыя, пераважна, тэалагічнай літаратурай на лаціне; кнігі на польскай і італьянскай мовах складаюць нязначны працэнт. Калі прысутнасць лацінскіх і польскіх кніг бачыцца цалкам натуральнай, дык пра італамоўныя трэба сказаць некалькі словаў. Рэч у тым, што дамінікане нярэдка атрымлівалі адукацыю за мяжой, і ў прыватнасці, у Італіі, таму гэтая мова шмат для каго з законнікаў была добра знаёмая. Дарэчы, менавіта дзякуючы таму, што студэнты з месцаў вучобы прывозілі з сабой не толькі засвоеныя веды, але і самі кнігі, такія выданні і рукапісы траплялі ў бібліятэку. Некаторыя з італьянскіх кніг маглі таксама трапіць у Менск з законнікамі, якія прыбылі з іншых правінцый ордэну.

Што датычыць зместу, дык у ім пераважае літаратура рэлігійнага характару. Апроч яе, праўда, можна сустрэць яшчэ кнігі па гісторыі («Chronicae de rebus Polonorum»), юрыспрудэнцыі («Liber Juris Civilis»), рыторыцы («Ciceronis Orationes Pars 1ma»), класічнай філалогіі («Compendium Grammaticae Graece» Якуба Цэзарыні) ды іншых галінах ведаў, але ўсе яны разам складаюць толькі невялікую частку бібліятэчнага фонду.

Вызначыць дакладную велічыню бібліятэкі досыць складана, бо колькасць шматтомнікаў у гэтым вопісе не паказаная. Так, напрыклад, прысутную ў трэцім раздзеле кнігу «Summa Theologiae» Тамаша з Аквіна мы сустракаем і ў пазнейшых дамініканскіх дакументах, у прыватнасці, у каталогу 1796 г., і толькі дзякуючы гэтаму даведваемся, што выданне складалася з 12-ці тамоў. Такім чынам, адносна аб'ёму бібліятэчнага фонду менскіх дамініканаў можна адназначна сцвярджаць толькі тое, што ён перасягаў лічбу ў 200 тамоў і даходзіў да 220–230 або, максімум, да 250 паасобнікаў. Параўнальна з іншымі бібліятэкамі ордэну гэтая колькасць выглядае малой, што можна растлумачыць стратамі падчас вайны з Маскоўшчынай і разбурэннем кляштара (пра яго аднаўленне ў канцы XVII ст. мы згадвалі ў папярэдняй публікацыі).




Выдадзены ў XVIII ст. падручнік па філасофіі.

У наступным артыкуле рубрыкі мы працягнем размаўляць на гэтую тэму і параўнаем апісаны тут стан бібліятэкі дамініканскага канвенту з тым, як яна выглядала ў 1796 годзе. Гэта дасць нам выдатны матэрыял для разважанняў пра змены ў кляштарных кнігазборах у XVIII стагоддзі.

*На ілюстрацыях да артыкула паказаны некаторыя кнігі з вопісу бібліятэкі менскага дамініканскага канвенту. Усе прадстаўленыя тут выданні захоўваюцца ў зборах Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.*

[1] Inwentarz Konwentu Mińskiego: Regestr Rzeczy Kościelnych Śpisany Roku 1709 Die 20 Junij // [Inwentarze Konwentów Prowincji Ruskiej. 1708–1709]. F. 207–232.
[2] Гл., напр.: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ). Ф. 1781, — Воп. 27. — Спр. 349. — Арк. 10 адв.–11.
[3] Тамсама. Арк. 231 адв.–232 адв.
[4] Тут і далей назвы лацінскіх і польскіх кніг падаюцца ў той форме, у якой яны напісаны ў інвентарах (з захаваннем правапісу арыгінала).

## CONTENTS

Report of Cardinal Kurt Koch from the Vatican named "The Question of Christian Values in Europe" begins this issue. It was read at the VII International Conference "The Orthodox-Catholic Dialogue: Christian Ethical Values as a Contribution to the Social Life of Europe", which was held in Minsk on November 13 (p. 2-6).

We continue the publication of excerpts from the book «Benedict XVI. Light of the World: the Pope, the Church and the Signs of the Times. An interview with Peter Seewald» translated from German by Iryna Burak, and also translation of «Characteristics of the works of St.Thomas» by Stephan Svyazhauski made by Ales Zhlutka, as well as translation of «Following Christ» by Thomas a Kempis made by Stanislau Grynkevich. In conclusion of the translation of «Flowers of St. Francis» Aksana Danilchyk offers readers a poem by the Italian poet Gianni D'Elia dedicated to this Saint (p. 7-21).

Father Piotra Rudkouski OP in his article entitled «Mi-cha-el?» discusses the issue of leadership in Belarus and consider that the Lord God is its only leader (p. 22-23).

Memoirs of father Stanislau Ryzhko «Such He Was», prepared for printing by father Stanislau Paulina, is dedicated to the memory of Cardinal Kazimierz Swiatek (p. 24-25).

Parishioner of Minsk Cathedral Victoria Nitiyeuskaya kindly talks about her birthplace in the article «Memories that delight my soul.» (p. 26-29).

The article by Valery Buival «Pieter Bruegel the Elder. The Tower of Babel» deals with the next masterpiece of world art (p. 30-31).

In interview «I Plan to Create a Film-Triptych Dedicated to the Virgin Mary...» chief editor of «Our Faith» Kristina Lialko talks to Italian director Elizabeth Castagna, who took part in the International Film Festival «Magnificat» in Belarus, about documentary films. «Dependence is always a suffering» is the title of the conversation of Kristina Lialko with mother Sophia (President of the International Sretensky Orthodox Festival «Meeting») (p. 32-36).

Famous Belarusian restorer Arkadz Shpunt in his article «On occasion of an Exhibition» interestingly discusses the features of his work (p. 37-40).

Article by Danuta Bichel «Trees, Birds, Clouds...» is dedicated to the book by Venantsy Butrym «Silent Sad Birds» (p. 41-46).

Article «The Poetry of the Life-giving Light» by literary critic Iryna Bagdanovich is dedicated to the 120th anniversary of Maxim Bagdanovich (p. 47-51).

In column «Poetry» we place the poems by Marian Duksa (p. 52-53).

Julia Shedzko offers readers a translation of the Herbert Wells' work «A Vision of Judgement» (p. 54-56).

Articles «Oases of Nil Gilevich» by Mihas Skobla and «Life and Times of Nil Gilevich» by Ales Chobat are dedicated to the 80th anniversary of the national poet of Belarus Nil Gilevich (p. 57-64).

Candidate of Philosophy Izyaslau Marozau in his article «Science and Religion about the Creation of the Universe» offers readers his arguments regarding this difficult topic (p. 65-67).

In the end we propose the publication of the researcher and archivist Yury Lauryk «Book Collection of the Minsk Dominican Convent in 1709.» (p. 68-71).

## RESÜMEE

Diese Ausgabe der Zeitschrift beginnt mit dem Vortrag von Kardinal Kurt Koch (Vatikan) „Zur Frage nach den christlichen Werten in Europa", der während der VII. Internationalen Konferenz „Orthodox-katholischer Dialog: christliche ethische Werte als Beitrag zum sozialen Leben Europas" in Minsk am 13. November gehalten wurde (S. 2-6).

Fortgesetzt werden: die Publikation der Auszüge aus dem Buch „Benedikt XVI. Licht der Welt: Der Papst, die Kirche und die Zeichen der Zeit. Ein Gespräch mit Peter Seewald" in der Übersetzung aus dem Deutschen von Iryna Burak; die von Alesj Shlutka ausgeführte Übersetzung des Werkes von Stefan Swiezawski „Charakteristik des Schaffens des heiligen Thoma" sowie die von Stanislau Grynkewitsch ausgeführte Übersetzung des Werkes von Thomas von Kempen „Nachfolge Christi". Zum Abschluss der Übersetzung des Buches „Blümchen des heiligen Franziskus" bietet Aksana Daniltschyk den Leserinnen und Lesern das Gedicht des italienischen Poeten Gianni D'Elia, das diesem Heiligen gewidmet ist (S. 6-21).

Vater Pjotr Rudkouski reflektiert im Artikel „Mi-cha-el?" über die Frage der Führung in Belarus und ist überzeugt davon, dass Gott der einzige Führer ist (S. 22-23).

Dem Andenken an den Kardinal Kasimierz Swjatek sind die Erinnerungen von Priester Stanislau Ryshko „So war er…" gewidmet, die von Priester Stanislau Paulin zum Druck vorbereitet wurden (S. 24-25).

Viktoria Nizieuskaja aus der Gemeinde der Minsker erzkathedralen katholischen Kirche erzählt im Artikel „Erinnerungen, die die Seele trösten" liebevoll über ihre kleine Heimat (S. 26-29).

In der Publikation von Walery Bujwal „Pieter Bruegel der Ältere. Der Turmbau zu Babel" wird über ein weiteres Meisterwerk der Weltmalerei erzählt (S. 30-31).

Im Interview „Ich habe vor, einen Triptychon-Film, der der Gottesmutter gewidmet ist, zu drehen" spricht die Chefredakteurin der Zeitschrift „Unser Glaube" Kristina Lialko mit der italienischen Regisseurin Elisabeth Kastania, die am Internationalen Filmfestival „Magnificat" in Belarus teilgenommen hat, über Dokumentarfilme. „Abhängigkeit ist immer Geduld" heißt das Gespräch von Kristina Lialko und Mutter Sofia (Präsidentin des Internationalen orthodoxen Lichtmess-Filmfestivals „Begegnung") (S. 32-36).

Der bekannte belarussische Restaurator Arkadzj Spunt erzählt im Artikel „Aus dem Anlass einer Ausstellung" interessant über die Besonderheiten seiner Arbeit (S. 37-40).

Der Artikel von Danuta Bitschel „Bäume, Vögel, Wolken…" ist dem Buch von Venanzo Butrimo „Schweigende traurige Vögel" gewidmet (S. 41-46).

Anlässlich des 120. Geburtstages von Maxim Bagdanowitsch wurde der Artikel der Literaturwissenschaftlerin Iryna Bagdanowitsch „Poesie des lebensspendenden Lichtes" geschrieben (S. 47-51).

In der Rubrik „Poesie" befinden sich die Gedichte von Marjan Duksa (S. 52-53).

Julia Schedzko bietet den Leserinnen und Lesern die Übersetzung des Werkes von H. G. Wells „Traum vom Jüngsten Gericht" (S. 54-56).

Dem Jubiläum des belarussischen Volksdichters Nil Gilewitsch sind die Artikel von Michasj Skobla „Oasen von Nil Gilewitsch" und von Alesj Tschobat „Leben und Zeit von Nil Gilewitsch" gewidmet (S. 57-64).

Isjaslau Marosau, Kandidat der philologischen Wissenschaften, bietet den Leserinnen und Lesern im Artikel „Wissenschaft und Religion über die Weltschöpfung" seine Überlegungen zu diesem komplizierten Thema (S. 65-67).

Die Ausgabe endet mit der Publikation des Archivforschers Jury Lauryk „Büchersammlungen des Mensker dominikanischen Konventes im Jahre 1709" (S. 68-71).

## PODSUMOWANIE

Ten numer czasopisma rozpoczyna się wykładem kardynała Kurta Kocha (Watykan) „Pytania o chrześcijańskich wartościach w Europie" na VII Międzynarodowej konferencji „Prawosławno-katolicki dialog: chrześcijańskie etyczne wartości, będące wkładem w życie społeczne Europy", wygłoszonym w Mińsku 13 listopada (s. 2-6).

Daje jest kontynuacja fragmentów z książki: „Benedykta XVI. Światłość świata. Papież, Kościół i znaki czasu. Rozmowa z Peterem Seewaldem" w przekładzie z języka niemieckiego Iryny Burak, przekład Alesia Złótki pracy Stefana Świeżawskiego „Charakterystyka twórczości świętego Tomasza", jak również przekład pracy Tomasza a Kempis „O naśladowaniu Chrystusa", wykonany przez Stanisława Grynkiewicza (s. 7-19).

Na zakończenie przekładu „Kwiatki świętego Franciszka" Aksana Danilczyk proponuje czytelnikom wiersz włoskiego poety Gianni D"Elia, poświęcony temu świętemu (s. 20-21).

Ojciec Piotr Rudkowski w artykule „Mi-ka-el?" rozważa pytanie przewodnictwa na Białorusi (s. 22-23).

Pamięci kardynała Kazimierza Świątka poświęcone są wspomnienia ks. Stanisława Ryżko „Taki on był...", przygotowane do druku przez ks. Stanisława Pawlinę (s. 24-25).

Parafianka mińskiego archikatedralnego kościoła, Wiktoria Niciewska, w artykule „Wspomnienia, które cieszą duszę" ciepło opowiada o swojej małej Ojczyźnie (s. 26-29).

W publikacji Waleryja Bujwała „Pieter Bruegel Starszy. Wieża Babilonu" opowiada o kolejnym arcydziele światowej sztuki (s. 30-31).

W wywiadzie „ Planuję stworzyć film-tryptyk, poświęcony Bogurodzicy..." redaktor naczelna czasopisma „Nasza wiara", Krystyna Lalko, rozmawia o dokumentalnym kinie z włoską reżyserką Elżbietą Kastagna, która uczestniczyła w Międzynarodowym festiwalu filmów «Magnificat» na Białorusi (s. 32-33).

„Uzależnienie – to zawsze cierpienie" – tak się nazywa rozmowa Krystyny Lalko z matuszką Zofią (prezydentem Międzynarodowego festiwalu prawosławnego Ofiarowania Pańskiego „Spotkanie") (s. 34-36).

Znany białoruski restaurator Arkadź Szpunt w artykule „ Z okazji jednej wystawy" ciekawie rozważa o specyfice swojej pracy (s. 37-40).

Artykuł Danuty Biczel „Drzewa, ptaki, obłoki..." poświęcony jest książce Wenancji Butryma „ Milczące smutne ptaki" (s. 41-46).

Na 120-lecie narodzenia Maksima Bogdanowicza napisany został artykuł literaturoznawcy Iryny Bogdanowicz „Poezja żywotwórczego światła" (s. 47-51).

W rubryce „Poezja" zamieszczone zostały wiersze Mariana Dyksy (s. 52-53).

Julia Szedźko proponuje czytelnikom przekład utworu Herberta Wellsa „ Wizja Sądu Ostatecznego" (s. 54-56).

Jubileuszowi narodowego poety Białorusi Nila Gilewicza poświęcone są artykuły Michasia Skobły „Oaza Nila Gilewicza" i Alesia Czobata „Życie i czas Nila Gilewicza" (s. 57-64).

Doktor nauk filozoficznych Iziasław Morozow w artykule „ Nauka i religia o stworzeniu świata" proponuje czytelnikom swoje rozważania na ten złożony temat (s. 65-67).

Numer kończy się publikacją archiwisty Juryja Lauryka „Zbiory ksiażek mienskiego dominikańskiego konwentu w 1709 roku" (s. 68-71).

## SOMMARIO

Il presente numero inizia con intervento del Cardinale Kurt Koch (Vaticano) "Situazione dei valori cristiani nell'Europa" al VII Convegno Internazionale "Dialogo cattolico-ortodosso: valori etici cristiani come contributo alla vita sociale dell'Europa" tenutosi a Minsk il 13 novembre 2011 (p. 2-6).

Continuano: pubblicazione dei brani del libro "Benedetto XVI. Luce del mondo: il Papa, la Chiesa e i segni dei tempi. Una conversazione con Peter Seewald", tradotti dal tedesco da Iryna Burak; traduzione del testo "Dal Medioevo, epoca d'oro, ai tempi nostri: San Tommaso e il suo interprete Stefan Swiezawski" eseguita da Ales Žlutka; saggio di Tommaso da Kempis l'*Imitazione di Cristo*, tradotto da Stanislau Grynkevič. Come postfazione alla traduzione dei *Fioretti* di san Francesco Aksana Danilchyk sottopone all'attenzione dei lettori la poesia del poeta italiano Gianni D'Elia dedicata al santo (p. 7-21).

Il Padre Piotr Rudkouski riflette sul problema a chi deve essere attribuito il ruolo-guida nel nostro Paese nell'articolo "Mi-ka-el?", essendo convinto che l'unico leader della Bielorussia è il Signore (p. 22-23).

Alla memoria del Cardinale Kazimir Świątek sono dedicate i ricordi del prete Stanislau Ryžko "Era cosě…" preparati alla pubblicazione dal prete Stanislau Paulina (p. 24-25).

La parrocchiana della Cattedrale di Minsk Viktoria Nitievskaya racconta con tenerezza della sua terra nativa nell'articolo "I ricordi che rallegrano l'anima" (p. 26-29).

La pubblicazione di Valery Buival "Pieter Bruegel. La torre di Babele" racconta di un altro capolavoro dell'arte mondiale (p. 30-31).

La Direttrice della rivista "Naša vera" Krystyna Lalko parla del cinema documentario con la regista italiana Elisabetta Castagna che ha partecipato al Festival Cinematografico Internazionale "Magnificat", svoltosi in Bielorussia, nell'intervista intitolata "Ho in programma di fare il trittico dei film dedicati alla Madonna…". "La dipendenza è sempre una sofferenza" è il titolo della conversazione di Krystyna Lalko con madre Sofia (Presidente del Festival Cinematografico Internazionale Ortodosso Sretenskij l'"Incontro") (p. 32-36).

Il famoso restauratore bielorusso Arkadz Špunt nell'articolo "In occasione di una mostra" riflette sulle particolarità del suo lavoro (p. 37-40).

L'articolo di Danuta Bičel "Alberi, uccelli, nuvole…" è dedicato al libro di Venanzy Butrym "Uccelli tristi e silenziosi" (p. 41-46).

L'articolo del critico letterario Iryna Bagdanovič "Poesia di una luce vivificante" è stato scritto in occasione del 120° anniversario della nascita di Maxim Bagdanovič (p. 47-51).

Sotto la rubrica "Poesia" sono collocate i versi di Mar'an Duksa (p. 52-53).

Julia Šedzko propone ai lettori la traduzione del racconto di Herbert Wells "Visione del giudizio universale" (p. 54-56).

Al giubileo del poeta Nil Hilevič, insignito del titolo "Poeta del Popolo Bielorusso", sono dedicati gli articoli di Mikhas Skobla "Le oasi di Nil Hilevič" e di Ales Čobat "La vita e il tempo di Nil Hilevič" (p. 57-64).

Il Dottore di ricerca in filosofia Isiaslau Marozau nell'articolo "La scienza e la religione sulla creazione del mondo" sottopone all'attenzione dei lettori le sue riflessioni su questo argomento difficile (p. 65-67).

Il numero si conclude con la pubblicazione del ricercatore-archivista Jury Lauryk "Le raccolte dei libri del Convegno Dominicano di Minsk nel 1709" (p. 68-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — святы Францішак з Асізі. Фрагмент фрэскі з базылікі святога Францішка ў Асізі.

*Часопіс «**НАША ВЕРА**», № 4 (58)/2011.*

*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*

*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*

*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*

*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*

*Падпісаны да друку 23.12.2011 г. Фармат 60х84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 500 экз. Зак №      .*

*Надрукавана ў друкарні ООО «Юстмаж»ЛП № 02330/0552734 ад 31.12.2009.*

*Вул. Каліноўскага, д 6, Г4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.*

# ПАЭЗІЯ ЖЫВАТВОРНАГА СВЯТЛА

## Да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча



*Помнік Максіму Багдановічу ў Мінску. Скульптар С. Вакар.*



Літаратурны музей Максіма Багдановіча ў Мінску.



Філіял музея М. Багдановіча ў Мінску
на Рабкораўскай, 17.



Музей-сядзіба Максіма Багдановіча ў в. Ракуцёўшчына.



Музей Максіма Багдановіча ў Гродне.



Абраз Маці Божай Рымскай (Снежнай),
XVIII ст., палатно, алей, 70x100,
стан на пачатку рэстаўрацыі,
НММ РБ.